# ЗБОРНІК

## СЦЭНІЧНЫХ ТВОРАЎ.

СШЫТАК ПЕРШЫ.



## КАМЭДЫІ і ВАДЭВІЛІ.



МЕНСК
Друкарня Я. Грынблята.
1918.

# КАМЭДЫІ.

---

1) **Паулінка**, Янкі Купалы.

2) **Манька,** Ф. Алехновіча.

3) **Залеты,** В. Д.-Марцінкевіча.

4) **Пашыліся у дурні,** Крапіуніцкаго.

**Сшытак першы.**

**Янка Купала.**

# ПАЎЛІНКА.

## Сцэны із шляхоцкаго жыцця

у двух актах.

# ПАЎЛІНКА.

АСОБЫ:

СЬЦЕПАН КРЫНІЦКІ—засьценковы шляхціц, 45 г.

АЛЬЖБЕТА—яго жонка, 40 г.

ПАУЛІНКА—дачка Крыніцкіх, 19 г.

ПРАНЦІСЬ ПУСТАРЭВІЧ—сваяк Крыніцкіх, 50 г.

АГАТА—яго жонка, 43 г.

ЯКІМ САРОКА—вучыцель, 25 г.

АДОЛЬФ БЫКОУСКІ, 24 г.

ГОСЬЦІ—МУЗЫКІ.

Рэч адбываецца у нашы дні у хаце КРЫНІЦКІХ.

## АКТ І-шы.

Абшырная сьвятліца. На права ад публікі вокны у сад, бліжэй к аркестру—стол; каля стала—лавы і табурэцікі, над сталом—вісячая нідарагая лямпа, на сьцяне—абразы. На лева—дзьверы у сенцы, бліжэй к аркестру—куфар. Напроць—сьцена і дзьверы у бакоуку (каморку); справа пры сьцяне ад бакоукі—ложак, засланы коудрай; у галавах высака накладзено падушак; на лева—у кутку—печ; на сьцяне стрэльба, старасьвецкі з гірамі гадзіннік і некалькі лубачных малюнкау.

Ч а с: асенні вечар перад Пакровамі.

### З Ь Я В А І-ая.

**Паулінка** (*адна*).

Стройная і досьць прыгожая дзяучынка. Адзеушыся у нідарагую крамніну, але чысьцінька; без хусткі—у валасах колькі грэбенчыкау. Сядзіць на ложку і пільна шые крамны кафтанік. Як падыймаецца заслона—Паулінка пяе.

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам;
Ой, пайду я лугам, лугам!
Ен арэць поле валамі,
А я плачу усе сьлезамі;
Ен арэць поле валамі.

(*Перастаушы пець*). Э-э! штось ні пяецца сягоння. Неяк сэрцайко трасецца, якбы хто яго зьнячэуку перапужау. А мо гэта песьня вінавата? Даліпантачкі, ані як ні магу сама с сабой да ладу прысьці. А ну, на зачасьце зачну другую. Якую-ж бы тут? Ага!... (*Пяе*).

Дый чаго-ж ты, дуб зялены,
Пахінаешся?
Дый чаго-ж ты, мой міленькі,
Задумляешся?

(*Пяючы падходзе к вакну і паглядае, пасьля ізноу садзіцца*). А усе такі нешта ні цікава на сэрцы. І чаго яму беднінькаму ні стае? Піць і есьці, дзякаваць Богу, хватае; часам татка дае

гропы і на сукенкі... Чаго, чаго, здаецца, тут хацець?.. Ох, ох, як жа маркотнінька! Прост, хоць зьбірай манаткі ды йдзі у прочкі с хаткі. Ужо вечарэе: зараз ні будзе як шыць, а трэба сягоння канешне кончыць. Заутра Пакровы... у Міхалішках кірмаш... Эх, эх! каб хаця той прышоу, каго так хочацца сягоння пабачыць. (*Садзіцца пры вакне і пачынае ізноу, шыючы, пець*).

Ой, ляцелі гусі дый с-пад Беларусі,
Селі яны, палі на сівым Дунаю!
Селі яны, палі, ваду замуцілі
Дый нас маладзенькіх с сабой разлучылі.
Бадай тыя гусі марне запрапалі,
Як мы любіліся—цяпер перасталі.

(*Паглядзеушы у вакно*). Ну, ужо саусім німа як без агню шыць! Зараз трэба запаліць лямпу. Цямнее і цямнее, ночка набліжаецца, а яго як німа, так німа! А шчыра абецауся, шэльма, напэуна прыйці. (*Шукае запалак і запалівае лямпу*). І што гэты тата да яго мае? С таго часу, як даведауся, што ен на мяне мілым вокам паглядае,—усе роуна, як чорная кошка між імі перабегла. Ен то нічога, але тата—дык жыуцом-бы яго зьеу. Ну, але тата свае, Якім свае, а я—свае. Паглядзім, чый верх будзе; таткау, ці мой, ці яго? (*Падумаушы*). Казау прыдзе сягоння, каб там і ліхо гарэло. «Трэба, кажэ, сякую, ці такую зрабіць пастанову. Мы, кажэ, ні дзеці,—маем свой розум і можэм сабой пакіравацца. Толькі ты, кажэ, Паулінка, павінна на гэта прыстаць канешне, бо іначай, кажэ, згінем, як рудыя мышы»... (*Ускочыушы*). Ай! нехта ідзе. Ен, ен, напэуна, ен!!

### ЗЬЯВА ІІ-ая.

**Паулінка, Якім.**

Якім. Вось і я—як тут быу! Добры вечар ясьне-пекнай панне Паулінцэ. Што, золатцо мое нінаглядкае, прачэкалася трохі мяне, нінавістніка? (*Глянуушы на бакі*). А ці нікога німа? (*Гаворучы, падбліжаецца к Паулінцэ, вітаецца і хочэ абняць яе*).

Паулінка (*баронючыся*). Ой, ой! памалу! Усе дома, усе дома. Толькі у Якіма ні усе дома, бо по-начы ходзе да маладых дзеучат. Дадуць, дадуць зараз пытлю старыя. (*Тупаючы нагой*). Пазваленне есьць гэтак позна прыходзіць?

Якім (*садзючыся*). Есьць, есьць, мая ты сакатушка, шчэбятушка! Кажы толькі хутчэй, галубка мая безкрылая: тата твой дома, ці не? Бо-ж сама ведаеш, якая у нас з ім страшэнная любасьць...

Паулінка (*садзючыся за шыцце*). Ой, чаму-ж ні ведаю: як між катом і сабакай, якраз. Але, але сьмела будзь, як у Бога пад прыпечкам. Паехалі абое на торг і, пэуне, позна вернуцца, бо маюць трохі сяго-таго да прадання і маняцца сякія-такія зрабіць пакупкі Бачыш, заутра мае быць трохі гасьцей с кірмашу.

Якім. Та-а-к! Значыцца, тым кшталтам, вечарынка будзе.

Паулінка. Так, так! Вечарынка быць то будзе, але ні усе на ей будуць.

Якім. Эх, Паулінка! Ты усе свае; мне і так горка па душы, якбы хто там палын засеяу, а ты яшчэ прытычкамі сваімі соліш. Вазьму на злосьць ды прыду. Што-ж яны са мною зробюць?

Паулінка. Зрабіць то нічога ні зробюць, але і ты сам нічога ні зробіш, а толькі пераробіш...

Якім (*робючы папіросу*). Ці ясьне-панна Паулінка пазволіць мне закурыць пры ей?

Паулінка. Ого, скуль такая далікатнасьць? Рукам каля дзяучыны дае волю без пытання, а як папіроску закурыць, дык пазвалення просіць. Ні пазваляю за тое, вось і усе тут!

Якім. А я закуру.

Паулінка. А я ні дам! (*Кідае шыцце і хочэ адабраць папіросу. Нейкі час тузаюцца, бегаюць адно за адным па хаце і ніумысьля раскідаюць на ложку падушкі*).

Якім (*бегаючы*). Ну, ужо годзе, годзе, Паулінка! Болей нічому без твайго пазвалення даваць волі ні буду.

Паулінка. Ну, калі так, то згода! (*Садзяцца. Якім курэ, Паулінка шые*).

Якім (*памаучаушы*) Паулінка!

Паулінка. Га! Ці пан Якім забыуся, як я завуся?

Якім. Ды не! Я хацеу-бы, золатцо, сур'езна с табой пагаварыць.

Паулінка. І-і!!! Ведаю я гэтыя сур'езнасьці. Перш-на-перш будзе, ці я люблю, пасьля—ці вельмі моцна, а пасьля, ці гатова усе чысьцінька зрабіць, што чорнабрывы Якім захочэ, а там, а там... і паехало, як на ніпадмазаных калесах... Ці-ж ні прауда?

Якім. Прауда, то прауда, але усяму мусіць быць канец.

Паулінка. Ну, дык слухаем вашэці. А вось можэ і новую песеньку нам сьпяіце. Адно толькі за умовай: або натта вяселую, вяселую, каб аж лявоніху захацелося ісьці, або такую сумна-сумнінькую, што выслухаушы яе—раз, два, ды бухтыль у вір галавою! вось так! (*Паказывае і чуць ні валіцца; Якім падхоплівае і садзіць яе на лаве*).

Якім. Гэта будзе ад цябе, мае ты сонейко, залежыць. Як захочаш—такая і песенька выйдзе: або вяселая, радасная, якбы самое небо

яснае, або сумная, гаротная, як асеннія хмары над гэтай зямелькай чорнай. (*Памаучаушы*). Эх, эх! I дакуль-жа усе гэта будзе цягнуцца? Дакуль, як сухавей, сушыць і мучыць нас будзе?

Паулінка. (*жартабліва*) Толькі ні нас, а мяне, трэба гаварыць. Мне дужа добра, весела, і так легінька, легінька на сэрцы, што...

Якім. (*з дакорам*). Паулінка!

Паулінка. (*закрываючы губы рукой*). Ну, ну, ужо маучу... як немая рыба.

Якім (*якбы сам да сябе*). Калі, калі ужо надойдзе тая часінка, што нас злучыць на векі, і мы ужо ніколі ні растанімся? Калі? Калі?...

Паулінка. Ха-ха-ха! На сьвятое ніколі. Вельмі ужо татка мой заеуся на цябе с таго часу, як даведауся, што мы с табой зьлюбіліся. Ну, а без таты гэты інтэрас наладзіць будзе вельмі трудна.

Якім. Трудна, то яно трудна, але німа таго злога, каб ні вышло на добрае. Хоць бы, прымерам, мы с табой так зрабілі: выбраушы падхадзячую часіну, калі стары будзе ні у злосьці, узяліся с табой за рукі, падышлі к яму, укленчылі і сказалі: так і так, наш добры бацячка,—я люблю Паулінку, а я люблю Якімку —вельмі-вельмі моцна так, што і жыцця нам аднаму без аднаго німашака, ну, дык супакойце нашы сэрцайкі, дайце нам пазваленне узяць ды пажаніціся...

Паулінка. Э-э!!. Ні туды, мой ты дурненькі Якімка, паехау! Уедзеш гэтак у нерат, што ні узад, ні уперад. Каб гэта яшчэ толькі з мамкай, то яно сяк так, як табе ні раз я і казала, але с старым, дык чыстая бяда, настаяшчае горо. Хоць ты яму кол на галаве чашы, дык нічога ні выдзяубеш. «На парог, кажэ, каб і ні важыуся паказывацца; мазгауню, кажэ, гаду пашчэпаю»! Вось і рабі з ім, што хочаш! Каб мог, дык на першай асіне павесіў бы цябе. Ну, і гдзе-ж у такім разе набрацца сьмеласьці, ісьці кленчыць перад ім і прасіць пазвалення?.. Задасьць такога пытлю і табе і мне разам, што і жаніцьба у галаву ні палезе.

Якім. Так, то яно так! Але я неяк усе іпічэ надзеі ні трачу,— ану-ж адпусьціцца. Быу-жа такі час, што мяне любіу, ды нават у бядзе то тады, то сяды памагау.

Паулінка. Быу час, але вадою сплыу. Памагау, пакуль ні убачыу, што трэба і дачкою памагчы, а як да гэтаго стало даходзіць, вось у ім і адазвалася шляхоцкая фанабэрыя. Другую песьню цяпер пяе. Нож точыць... востра нож точыць родны мой татка на таго, каго сам калісь любіу і каго я палюбіла... (*Устаючы, горача*). I па векі вечныя любіць буду. (*Ідзе і папрауляе падушкі, за ей—Якім, абнімае яе і садзяцца, абняушыся, абое на ложку.*

Якім (*памаучаушы, ласкава*). Паулінка!

Паулінка (*сьмяючыся*). Ізноу забыуся, як завуся?

Якім. А ты ізноу свае... Слухай, міленькая: ці ты надумалася зрабіць тое, аб што я цябе надовічы прасіу і маліу? Сама-ж ты, золатцо, казала мне ні раз і цяпер кажэш, што татка твой ні на якія просьбы ні згодзіцца. Значыцца, сама добра разумееш, што іншаго выхаду для нас німашака. А гэтак, як я казау, будзе найлепей. Ці то мы будзем першыя, або апошнія? Янка Лукашонак с свасй Зосяй так зрабілі, Ігнась Манякоускі—с сваей Дамінісяй, ды і шмат хто... Бацькі спачатку пазлуюць, пазлуюць трохі і адпусьцяцца,—ведама бацькаускае сэрцо. Вось мы с табой, міленькая, такім парадкам самі сабе шчасьце збудуем і нічыей ласкі прасіць ні будзем. Адно, абы твая згода і усе будзе добра. Я ужо, прызнацца табе, гаварыу с папом. Ен заутра прыежджае у Міхалішкі імшу адпрауляць, і заначуе у ваколіцы. Ну, а мы к яму... раз, два і—гатова.

Паулінка. Думаць, то я думала, але неяк страшна. Можэ-б было лепей, каб іщчэ трохі пачакаць, а то так скора, раптам... Хто сьпяшыць, той людзей сьмяшыць.

Якім. Якая ты нідобрая, Паулінка! Ты зараз—страшна, страшна, пачакаць, пачакаць! Гэтак і усю сваю моладасьць пачаканкамі перачакаем. А так гэта дачэснае жыцце можна добра наладзіць, так добра, абы толькі ахвота у нас была ды вытрываласьць.

Паулінка. А што—калі зловюць? Гэта-ж я ні выжыву с сораму, людзі вочы выбяруць, нельга будзе на сьвет паказацца. Цяпер і то колькі усякай брыды услужлівыя суседзі і суседкі на нас вернуць; а што і гаварыць тады, як нам гэта «Бог наш уцечка» ні удасца...

Якім. Ні бойся, золатцо, ні зловюць! Усе пойдзе гладка. Заутра у нас вечарынка; посьля вечарынкі усе будуць спаць моцна, так, што хоць з гарматау стрэляй—нічога ні пачуюць. Я усе акуратна прыгатую, ты толькі зьвяжаш у клумак што патрабнейшае, а там праз момэнт—і ты мая на векі вечныя.

Паулінка (*нібы са злосьцю*). Ні я твая, а ты мой на векі вечныя!

Якім. Ну, хай будзе, як Сора казала; але гэта толькі тады у нас выйдзе, калі ты прыстанеш па тое, аб што я цябе прасіу і прашу.

Паулінка (*падумаушы, сьмяючыся*). Ну, згода да... заутрашняго дня, а там пабачым.

Якім (*павесялеушы*). І дауно ужо трэ'было гэтак сказаць, мая ты кветачка майская. Заутра вечарам, як толькі усе паукладаюцца,—я ужо у садзе пад вакном буду на цябе чакаць. Ты ваконцо адчыніш, лахі пад пахі ды скакель с хаты у сад, як пятух!..

Паулінка. Гэта ты, як пятух, а я, як...

Якім. (*перапыняючы*). Як курыца.

Паулінка. Ні курыца, а як зязюлька.

Якім. Як зязюлька, праз вакно фырр! а пятух цап, а поп крапілам пырсь! а там...

Паулінка (*сьмяючыся*) А там ізноу фырр!.. (*Размахівае рукамі і хочэ вырвацца. Якім мацней прыціскае яе к сабе і хочэ пацалаваць; яна нібы бароніцца, а пасьля хватае яго за шыю, і доуга горача цалуюцца.*

Якім. Ох, каб гэтак усе жыцце і кожную мінутку.

Паулінка. Ого! Разласавауся!.. Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш. (*Прыслухаушыся*). Ой! Недзе туркочэ! Ці ні едуць толькі нашы с торгу.

Якім (*Прыслухаушыся*). Такі-ж нехта едзе!

Паулінка (*сумна*). Значыцца, Якімка, трэба ужо табе рабіць фырр!

Якім (*устаючы, з уздохам*). Нічога ні парадзіш—трэба!.. Ой, гэтыя бацькі! І чаму гэта ні родзюцца на сьвет дочкі без бацькоу!..

Паулінка (*устаючы*) Ах, чуць ні забылася. Ці прынес мне тое, што абецауся?

Якім. А якжа, прынес, мае ты золатцо. (*Дастае с кішані фотаграфію і аддае Паулінцэ*).

Паулінка (*прыгледаючыся к фатаграфіі, весяла*). Вот так добра! Заместа аднаго, маю ужо двух: аднаго, што сам ходзе да дзеучат і рукам волю дае, а другога, што трэба насіць за... пазухай. (*Сьмяецца*).

Якім (*любуецца ею, хватае і цалуе*). Ах ты, зязюлька мая нінаглядная!

Паулінка (*баронючыся*). Ну, ну, пятушок! Ні гарачыся; пасьпееш с козамі на торг. (*Выпіхаючы Якіма с хаты*). Марш да дому! Раз, два, тры!..

Якім (*у дзьверах*). Помні, Паулінка—заутра!.. (*Выходзе*).

## ЗЬЯВА III-ая.

### Паулінка (адна).

Паулінка (*папрауляе ложак, пасьля прыгледаецца к фотаграфіі, цалуе яе і хавае за пазуху. Прыціскаючы грудзі рукамі*). А што, смачна? Цеплінька?.. Га?.. Каля самаго сэрцэйка дзявочаго... Пэуне чуеш, як яно, бедніькае, трапечыцца. Выгадна табе тут, як нідзе, нікому!.. Але не, не! Гэтак ні выпадае. Ешчэ трохі порана... Посьля заутра—другая рэч. А цяпер... (*Ідзе к абразу*) Пасядзі лепш, саколік, за абразікам. Седзючы гэтак у Бога за

плячыма, меней будзеш мецъ грэшных думак у галаве, чымся песьцючыся тут (*паказывае*) у маладой дзяўчыны. (*Напеваючы, падходзе к сьцяне, хавае фотаграфію за абраз і, як у нічым ні бывала, сядзіцца зъ шыцце*).

Дый чым-жа твая, дзеванька,
Галоўка занята? (і т. д.).

## ЗЬЯВА ІV-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбета.**

Сьцепан (*пьянаваты уходзе з Альжбетай с сенцаў і прыпевае*).

Дзе мы едзем, дзе мы йдзем,—
Карчмы ні мінаем;
Дзе заедзем, дзе зайдзем,—
Там і пагуляем.

Альжбета (*кладучы пакупкі на куфар і, раздзеваючыся, да Сьцепана*). Ні сьмяшы ты людзей. Калі падпіў, дык ляж спаць!

Сьцепан. Маўчы, баба!.. Ты, каханенькая, родненькая, нічога ні разьбіраеш... Валасы доўгія, а розум кароткі. (*прыпевае*).

Ой, там на гарэ
Мужык жонкай арэ,
А другая падбегае:
«Запражы-ж ты мяне».

(*Хочэ абняць Альжбету*).

Альжбета (*адпіргнуўшы*). Ах, ты гнілая качарэжка! Ешчэ можэ табе чаго захочэцца?..

Сьцепан (*выкручываючы нагамі*).

Дзед боб малаціў,
Баба падсевала...

Паулінка. Тата! Ды кіньце ужо!.. Ось, лепей раздзевайцеся ды можэ чаго зьесьце.

Сьцепан. А можэ гэта і добра, каханенькая, родненькая... Каб так кіслай ды гарачай капусты... (*Скідае апратку і кладзе на куфар*).

Скіну бурку, скіну боты
Дый надзену лапці;
Кожны дурэнь, ці разумны—
Пан у сваей хаце.

(*Садзіцца за стол*).

Паулінка (*кінуўшы шыцце на ложак, да Альжбеты*). Мамка, дастаньце с куфра настольнік, а я прынясу вам зьесьці. (*Выходзе*).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Сьцепан, Альжбета.**

Альжбета (*дастаючы настольнік с куфра*). С кім ты гэтак нэмурзауся?

Сьцепан (*закурываючы люльку*). Я і с тым, я і с сім, а ты, каханінькая, роднінькая, згадай,—с кім?

Альжбета. А немач цябе ведае с кім!

Сьцепан. Ці ж ні казау, што у цябе тут (*Торкаючы сабе пальцам у лоб*) ні усе дома? Але слухай: з зяцем!

Альжбета (*зьдзівіушыся*). З зяцем?!

Сьцепан. Так, так, каханінькая, роднінькая. Хто с сватам, хто с свацей, а як Сьцепан Крыніцкі, дык з родным зяцем.

Альжбета (*накрываючы стол*). Такі прауду кажуць, што гарэлка людзей с поля зводзе. Калі-ж ты усьпеу яго нажыць?... Дачка ішчэ замуж ні вышла, а бацька ужо зяця мае!

Сьцепан. Калі ні маю цяпер, дык буду мець у чацьвер. Гэта, бачыш, ен ішчэ толькі зьбіраецца падмазацца к нашай Паулінцэ; ну, а каб сьлізчэй усе пашло, дык перш мяне ен падмазау.

Альжбета (*садзіцца*). Так-бы і казау адразу. А хто ж гэта такі?

Сьцепан. Адольф Быкоускі!

Альжбета. Э-э! Я думала, хто там!... Ажно нічога людзкога. Толькі езьдзе ды нюхае, якая дзяучына пасагу больш мае, а сам дык голы, як бізун.

Сьцепан. Пасаг нюхае, бо нос мае. Але усе такі гэта для нас блін ды ішчэ маслам падмазаны. Ен сам мне, каханінькая, роднінькая, хваліуся, што яго гаспадарка у сто раз лепшая ад усіх тутэйшых гаспадароу. За аднаго каня толькі, казау, заплаціу селета тры сотні. «На гэтым-жа кані, кажэ, заутра к васпанству заедуся с кірмашу». (*Мацаецца па кішэнях, сам сабе*). Дзе-ж бы яна падзелася?.. (*Да Альжбеты*). Ты, баба, ці бачыла кніжкі, што я купіу сягоння? Дзе яна прапала?

Альжбета. А што я пастушка над тваімі кніжкамі? Прапіу можэ з гэтым сваім зяцем.

Сьцепан (*ідзе к куфру, находзе у бурцэ кніжку і кладзе яе за абраз, дзе Паулінка палажыла фотаграфію*) Каханінькая, роднінькая, ні думай, што я якую дрэнь выбрау сабе на зяця. Заутра ен прыедзе, паглядзіш, дык адразу што другое запяеш. Адным словам хлапец: шляхоцкаго заводу, з рызыкай, з усякай далікатнасьцяй і усе такое...

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбэта.**

Паулінка (*уходзючы з міскай, з лыжкамі і хлебам пад пахай*) Аб кім гэта, татка, гаворыце. што мае усякую далікатнасьць і усе такое? (*Ставіць яду на стол і садзіцца за шыцце*).

Сьцепан (*ядучы*). Вельмі васпанна цікавая! Скора састарышся, каханінькая, родніנькая, як усе будзеш ведаць.

Паулінка (*просючы*). Скажэце, скажэце, татачка!

Сьцепан. Ага, ні села, ні пала, захацела баба сала! Калі ужо табе, каханінькая, родніннькая, так хочэцца, дык скажу. (*С павагай*): Знакам тым, гэты паніч з далікатнасьцяй і с усякім такім—мой зяць.

Паулінка (*пырскнуушы сьмехам*). Зяць!!.

Сьцепан. Знакам тым, ен ні саусім іщчэ зяць, але скора на яго выкіруіцца.

Паулінка. А як жэ годнасьць гэтаго... гэтаго, ну, як яго.. што некалі татавым зяцем зробіцца?

Альжбета. Ды гэты-ж, гэты... Ты, пэуне, яго бачыла некалі... Адольф Быкоушчык.

Паулінка. Быкоушчык!!.

Сьцепан. Але. Але! Пан Адольф Быкоускі.

Паулінка. Ну, хіба татка для яго другой дачкі пастараецеся, або самі з ім ажэніцеся, каб перарабіць яго с простаго чалавека на свайго зяця.

Сьцепан. А ты што? Зломак?

Паулінка. Зломак—ні зломак, але і за ламаку ні пайду.

Сьцепан. А дзяга на што?

Паулінка. На усе, толькі ні на паганяку к замужству.

Сьцепан. Каханінькая, роднінькая, іщчэ паглядзім, дзе каго пасадзім.

Альжбета (*ядучы, да Сьцепана*). Еш, вот лепей, чымся с пустога у парожнае пераліваць! Як прыедзе сватацца, тады тое і будзе.

Паулінка. Татка ведаеш ні сягоння, за каго я толькі пайду, або за нікога.

Сьцепан (*зьмяніушыся, кідаючы лыжку аб стол*). Што?.. За каго?..

Паулінка (*устаючы і ідучы к ложку*). За каго? За Якіма.

Сьцепан (*стукаючы кулаком па стале*). Маучы, гадаука! Раз сказау, каб гэтаго шэльмы і звання ні было у маей хаці, каб яго імені я ні чуу ніколі... гэтаго нідавярка, гэтаго... гэтаго забастоушчыка! Дык і ні забывайся аб гэтым, каханінькая, роднінькая...

Паулінка (*з дасадай*). На што дарэмшчыну вясьці. Ен нікому ніякай забастоукі ні рабіу і ні робіць.

Сьцепан (*закурываючы са злосьцю люльку*). Чорт яго бяры, ні тут успамінаючы,—рабіу, ці ні рабіу. Знаць і бачыць ні хочу яго у сваей хаце, гэтаго хамуйлу, гэтае плюгауство.

Альжбета. Прыбірай, Паулінка, ужо са стала!

Паулінка (*кінуушы на ложак шыцце і ідучы к сталу*). А дауно гэта, татка, сам з ім цалавауся?

Сьцепан. Кахаўнінькая, родніўкая, ні лезь у вочы. А не, то вон с хаты і цябе з гэтай дрэняй выганю.

(*Паулінка ідзе з міскай к дзьверам; ніуспадзеукі дзьверы адчыняюцца, уваліваецца у хату пьяны Пранціська Пустарэвіч, за ім—яго жонка. Пранціська ніумысьля выбівае міску у Паулінкі*).

Паулінка. Ай, што-ж гэта, дзядзька, зрабілі?

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбета, Пранціська, Агата.**

Пранціська. Глупство, глупство, пане добрудзею! Пахвалены Езус. Собственно, адкупім, адкупім, вось-цо-да!

Сьцепан і Альжбета. На векі.

Альжбета. А мае-ж вы родніўкія, ці-ж гэта вы усе імчэ з рынку едзеце? Здаецца-ж раней за нас выехалі?

Пранціська. Собственно, вось-цо-да, кабыла заблудзіла, пане добрудзею.

Агата. Тудэма - сюдэма, ці-ж гэта, мачыляпа, калі прыехау у сваім часе дамоу? Ен жа, як рызьнік, то туды, то сюды блытаецца па дарозе.

Пранціська. Пане добрудзею, твае бабскае дзело—маучаць! Я, собственно, вось-цо-да, спрытны,—тонка панімаю, што і як раблю.

Альжбета. Ды садзіцеся-ж, мае міленькія!

Агата. Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, поувярсты да дому, а гэты, тудэма-сюдэма, начніца касавокая, ні вытрываў, каб людзям ні нарабіць у ночы ніспакойства. (*Садзіцца, а за ей—другія*).

Сьцепан. Э, што там такое! Высьпімся! Дзякуй Богу, ночка ні Пятровая, а Пакровая.

Паулінка (*падбіраючы чэрапакі*). Заутра госьці будуць, а дзядзька апошнюю міску стоук. Трэба, каб на кірмашы дзьве адкупіу.

Пранціська. Глупство, пане добрадзею, глупство! Хаутурнаго, собственно, выпьем па місцэ. (*Дастае з баковай кішані фляшку, пацягавае з яе і хавае назад*).

Альжбета (*сьмяючыся*). А каб гэта нам сваток дау гэтай сусолкі пассаць. Ці-ж мы с сваццей паскрэбкі...

Паулінка (*выходзючы с чэрэпкамі*). Ого! Гэтых сьвянцоных кропэль дзядзька і канаючаму ні дау-бы, ні то, што... (*Выходзіць*).

ЗЬЯВА VIII-ая

**Сьцепан, Альжбета, Пранцісь, Агата.**

Пранцісь (*у сьлед Паулінцэ*). Глупство, глупство, пане добрудзею. Маладзенькая ішчэ, маладзенькая! Лазы трэба, собственно, восьцо-да.

Агата (*да Альжбеты*). Што, сваццейка, тудэма-сюдэма, добраго купляні на рынку?

Альжбета. Ат, сее ды тое. Паглядзіце, калі хочэце. Нічога такога цікаускаго. (*Устаюць і ідуць абедзьве к куфру і разгледаюць кінутыя на ем пакупкі*).

Пранцісь (*да Сьцепана*). Чуу, сват, пане добрудзею, што сягоння людзі казалі?

Сьцепан. Не, не, каханінькі, родніньні, ні чуу, ні было калі! А што?

Пранцісь. Ды як-жа, вось-цо-да! Кажуць, пранцуз, пане добрудзею, ідзе на Барысау па шапку і рукавіцы, што калісь там аставіу. Чатырыста тысяч войска с сабой вядзе і собственно...

Агата (*перабіваючы, з мейсца*). Ні чатырыста тысяч, а чатыры сотні тысячау...

Пранцісь. Глупство, глупство, пане добрудзею. Усе роуна ідзе, вось-цо-да. Спранжыновы касьцел с сабой нясе, пане добрудзею.

Агата (*з мейсца*). Тудэма-сюдэма, ні нясе, а на паветры, на машыне, што летаюць. Гэты касьцел вязе.

Сьцепан і Альжбета (*зьдзівіушыся*). Ай-я-я! Аж на паветры касьцел вязуць!..

Агата. Але-ж, але! Тудэма-сюдэма, я сама на свае вушы чула.

Сьцепан. Во калі пашло усе уверх нагамі! Як паставюць гэты спранжыновы касьцел, то можна будзе спадзевацца і для нашаго брата якога-такога палягчэння. Дзякуй Богу, дзякуй Богу!!. А вось мая гэта ахмістрыня, дачушка мая сакатушка, сплуталася з гэтым... з гэтым безбожнікам, і хоць ты ей вар на галаву лі.

Пранцісь. Маладзенькая, собственно, вось-цо-да. Бярозавай кашы ні шкодзіло-б, пане добрудзею.

Альжбета. Дужа трудна паладзіць с цяперашняй моладзью. Пашло такое распуство на сьвеце, што ні дай Божэ! Заместа кніжак да

набажэнства—чытаюць нейкія дрындушкі. Вецяр у ваусіх па галаве ходзе. Гэта-ж мне калісь сказалі: ідзі за Сьцепана,—я і пашла без ніякай спрэчкі са сваімі старымі.

Агата. А так, так, тудэма-сюдэма! І мой, як ка мне пасватауся, бацька нябошчык і кажэ: ідзі, бо усе роуна ніхто цябе лепшы ні возьме; я падумала, тудэма-сюдэма, ну і пашла. *(Глядзяць абедзьве на сваіх мужоу, пасьля—адна на адну, плююць кожная у другі бок і разгледаюць ізноу клункі).*

Пранцісь. Так, так, пане добрудзею, іначай калісь было. *(Дастае пляшку і пье, а посьле дае Сьцепану)*. Собственно, глупство, вось-цо-да, было, а ты, сват, выпі, каб тое, што было, у памяці ні сядзело (*Сьцепан пье, Пранцісь прыдзержывае за пляшку каб той за лішне ні выпіу*).

Сьцепан (*абціраючы вусы ды сплевываючы*). Шчыпецца, каб яе гаручка!

Пранцісь (*хаваючы гарэлку*). Ага, вось-цо-да, шчыпецца, собственно, бо чужая. пане добрудзею. (*Абодва закурываюць*)

Альжбета (*да Агаты*). А ці заутра, свацейка, будзеце на кірмашы?

Агата. Ды трэба-ж будзе як сьцягацца.

### ЗЬЯВА IX-ая.

**Тыя-ж і Паулінка.**

Паулінка (*уходзючы, да Альжбеты*). Можэ-б, мамка, прыціснулі сыр, бо да заутрашняго ні адцісьнецца.

Альжбета. Яшчэ пасьпее... Дай мне с цеткай разгаварыцца.

Паулінка. Ідзіце, ідзіце, мамка, а я за вас, с цеткай пагавару.

Агата. Ідзіце. свацейка, тудэма-сюдэма, ні зважайце на мяне. Мы тут с Паулінкай пачакаем на цябе.

Альжбета (*выходзючы*). Ну, як сабе хочыце. (*Паулінка з Агатай садзяцца на куфры і жыва аб чымсь гаворуць*).

### ЗЬЯВА Х-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Пранцісь, Агата.**

Сьцепан. Знаеце, сваток, гэтаго, гэтаго... як ен... а каб цябе... (Да *Паулінкі*). Паулінка, як гэты завецца, што мяне сягоння падмазывау?

Паулінка (*з мейсца*). А скуль-жа я магу ведаць, хто татку мазау?

Сьцепан. Ну, гэты-ж?.. каб ен цяміуся... зяць, зяць!

Паулінка. (*прыпамінаючы*). Як-жа ен, як?.. Здаецца, Бык. . Бычок...

Сьцепан Ага, ен, ен. Не, ні так! Быкоускі, кахавінькая, роднінькая, вось як. Пан Адольф Быкоускі. (*Да Пранціся*). Дык бачыш, сватох, ен, значыцца, падлабунівaецца к маей Паулінцэ. Што ты на гэта?

Пранціcь (*дастаючы гарэлку*). Глупство, глупство, пане добрудзею. Собственно, бычок, вось-цо-да, больш нічога. (*Пьець і дае гарэлкі Сьцепану*).

Сьцепан (*выпіушы*). Заутра, знакам тым, прыедзе абнюхаць, як і што, дык і сваток са сваей загляньце да пас. А ну-ж, каханінькі, роднінькі, можэ які гандэль будзе наладжывацца, дык прыкінеш якое слауцо. Прыедзьце толькі.

Пранціcь. Глупство, пане добрудзею, і прыйці можна. Собственно, блізка, вось-цо-да.

Сьцепан. Блізка, то блізка, але каб ні было сьлізка: на дождж як-бы зьбіраецца.

Паулінка (*з мейсца*) А ці татка каня паілі?

Сьцепан. Не, каханінькая, роднінькая. Зараз пайду. (*Да Пранціся*). А можэ разам с сватам пойдзем? Я свайго напаю, а сват свайго паглядзіш, ці добра прывязаны.

Пранціcь. Глупство, пане добрудзею. Собственно, жонка завязе, калі-б кабыла уцекла. (*Да Агаты*) Прауда, баба?

Агата (*з мейсца*). Што?—прауда.

Пранціcь. Собственно, калі-б кабыла уцекла, то мяне тады ты дамоу завязеш, пане добрудзею.

Агата. А каб ты, тудэма-сюдэма, бокам езьдзіу! Ідзі скарэй, паглядзі! Гэта-ж і мне с памяці сышло.

Сьцепан. Пойдзем, каханінькі, роднінькі. (*Абымаюцца і сланяючыся выходзюць, напеваючы*).

Чаму-ж нам ні пець,  
Чаму-ж ні гудзець,  
Калі у нашых хатачках  
Парадак ідзець?

## З Ь Я В А XI-ая.

**Паулінка, Агата.**

Паулінка. Але-ж калі я яго люблю, цетачка.

Агата. Мала што, дзеткі, тудэма-сюдэма, любіш яго; але, калі бацька ні хочэ, дык падумай, што людзі скажуць, як супроці волі старых пойдзеш?

Паулінка. А што там людзі? Яны з ім жыць за мяне ні будуць, і па маей сьмерці за мяне пакутаваць ні будуць. Пагаворуць, пагаворуць, ды перастануць, як намазаляць языкі.

Агата. Як уважаеш, мае дзеткі. Што-ж, я, тудэма-сюдэма, нічога ні дараджу.

Паулінка (*заламаушы рукі на каленях*). Калі ен такі добры, такі разумны, што і сказаць ні магу.

Агата. Усе яны добрыя, пакуль ні убярэ каторы дзяучыны у сваё рукі, а як убярэ, тады на другі лад, тудэма-сюдэма, зайграе, а ты танцуй пад яго дудку. І мой, пакуль толькі сватауся да мяне,— патульны быу, як цяле, а як ажаніуся, дык праудзівым ваукам зрабіуся.

Паулінка (*як-бы ні зважаючы на гаворку Агаты*). Кніжкі мне прыносіу... Хараша так аб усім разсказывау... як трэба жыць, як людзей трэба усіх любіць, і шмат, шмат чаго. І любіць-жа ен гэтых людзей сусім неяк ні так, як мы іх любім. Гэта-ж трэба ведаць, стольки мой тата на яго усякай дарэмшчыны нагаварыу і ачарніу, а ен хоць бы што. «Ведама, кажэ, чалавек: яму нешта абышло, ці ні спадабалося, дык і памстуе. У нас, кажэ, усе ідзе ні так, як трэба. Людзі, кажэ, у нас, як зьвяры: адзін на другога кідаюцца, адзін другога цкуюць, пад'юджываюць, нінавідзюць адзін другога. З малку дзен, кажэ, прывыкаюць у нінавісьці жыць, з малку дзен іх к гэтаму вучаць і дома і за домам. Сьляпыя, кажэ, усе сьляцыя. Адзін над другім ні маюць ніякай літасьці, хоць усіх душуць зьверху уселякія папэсьці ды злыдні».

Агата. Чула я, чула аб ем ні раз. Вельмі ужо, кажуць, тудэма-сюдэма, разумны і добры ен.

Паулінка. (*ажывіушыся*). А што-ж, ці ні прауда? І усе-б было добра, каб ні гэты тата. Хоць німа ведама, што рабі з ім..

Агата. Трэба, дзеткі, пачакаць, ану-ж, тудэма-сюдэма, ліхо перамеліцца і усе добра будзе.

Паулінка. Трэці год, цетачка, чакаем і нічога ні выходзе. Трэці год трасуся і выгледаю тэй часінкі, каб толькі з ім пабачыцца. Павешуся, цетачка, павешуся, калі мяне з ім разлучуць!..

Агата. (*хрысьцючыся*). Мейца, Сына! Тудэма-сюдэма, што ты, Паулінка? Пабойся Бога гэткія рэчы гаварыць напроць ночы! Цьфу! Матачка Найсьвентшая!

Паулінка. (*паказываючы*). Калі тут, цетачка, так пад сэрцам баліць, што і жыць ні умагату. Такі ен міленькі, такі прыгожэнькі, такі паслухняны... (*Заглядзіушыся у даль*). Калі яшчэ с татам былі яны добра, прыдзе, бывала, вады за мяне прынясе, дрэукі нашчэпае. Ні глядзіць на тое, што калісь вучыуся, а цяпер сам вучэ і большых, і

меншых. Ніколі ад яго слова благога ні чула. Так, ведаеце цетачка, і хочэцца с кім колечы аб ім гаварыць і думаць без канца і пачатку. І чаму я такая нішчасная? (*Са сьлязьмі*). Бацька родны хочэ мяне адарваць ад таго, хто мне цяпер мілей ад усяго чыста—жыцця, хаты роднай, цэлаго сьвету. І чаму-ж я такая нішчасная?

Агата. (*тулючы к сабе Паулінку, праз сьлезы*). Ціха, мае дзеткі, ціха. Ні гаруй, ні маркоцься, міленькая, вельмі. Неяк-жа ды будзе. Бог Найвышэйшы, тудэма-сюдэма, міласэрны, і аб тваей тут цяжэнькай долі ні забудзецца.

Паулінка (*якобы збудзіушыся*). А ніхай сабе будзе, што мае быць,—я свайго такі дабьюся, або згіну, каб і сьледу ні асталося.

Агата. А усе-ж такі, скажы мне, дзеткі, чаму так твой тата на яго засуся?

Паулінка. Бо...бо Якім з мужыкоу...

## ЗЬЯВА XII-ая.

### Паулінка, Агата, Сьцепан, Пранціcь.

Пранціcь (*за дзьвярыма*). Глупство, вось-цо-да. Ні дзе падзелася! Я знаю, собственно, дамоу уцекла, пане добрудзею.

Сьцепан (*уходзючы у хату, а за ім—Пранціcь*). І трэбало-ж свату так дрэнна яе прывязаць, ды у гэткую яшчэ цемру.

Агата (*усхапіушыся*). Каго прывязаць?

Пранціcь. Кабылу, кабылу, пане добрудзею. Ужо-ж ні цябе, вось-цо-да.

Агата. Дык дзе-ж кабыла?

Пранціcь (*дастаючы пляшку*). Собственно, німа кабылы, дзе была, вось-цо-да, пане добрудзею.

Агата (*падбегаючы к Пранцісю с кулакамі*). Дык чаго-ж ты, тудэма-сюдэма, нісьвянцоная костка, разсеуся, як у сваей хаце!

Пранціcь (*пацягіваючы з бутэлькі*). Глупство, глупство, вось-цо-да. Пасьвенцім, собственно, пане добрудзею, калі нісьвянцоная.

Агата (*хочэ вырваць пляшку, Пранціcь ні дае*). Вот я цябе зараз, тудэма-сюдэма, як высьвенчу гэтай пляшкай па галаве, дык і сваіх ні пазнаеш, нішчасны ты «вось-цо-да». (*Галосючы*). А Божэ-ж мой, Бацюхна мой! На што мяне пакарау гэтай, тудэма-сюдэма, пьяніцай, гэтай нідарэкай, гэтай куксамордай, гэтай... гэтай...

## ЗЬЯВА XIII-ая.

### Тыя-ж і Альжбета.

Альжбета. (*убегае, трымаючы у руцэ клінок с тварагом*). Што гэта у вас тут парабілося, мае міленькія?

Паулінка. Кабыла дзядзькава уцекла, ці хто украу. *(Ідзе, садзіцца на ложку і шые).*

Альжбета (*да Пранціся*). Дык чаго-ж, сватка, чакаеце? Бяжыце скарэй дамоу,—пэуне там; гэта-ж ей ні першыня.

Агата. Ці-ж гэту, тудэма-сюдэма, трухлявую калоду зрушыш з мейсца! Сядзіць-жа вось анцыхрыст, каб яму моль пяты пабіла, і з мейсца ні скранецца.

Сьцепан (*закурываючы люльку*). Супакойцеся, свацця. Ні дзе яна дзенецца. Каханінькая, роднінькая, яна дома, напэуна дома.

Агата. А сват, тудэма-сюдэма, ні сунься с сваім носам туды, куды цябе ні просюць. (*Да Пранціся*). Ідзем! Чуеш, ці не!..

Пранціська (*устаючы*) Глупство, пане добрудзею, глупство. Мае мазгі спрытныя. На табе, вось-цо-да, паеду, собственно, дамоу.

Агата (*выводзючы Пранціся*) Бывайце здаровы! Пахвалены Езус!.. Падла гэты, ламака, нарабіу работы! (*Выходзюць, за імі—Альжбета с клінком*).

## ЗЬЯВА XIV-ая.

### Паулінка, Сьцепан.

Сьцепан. Ох, і даюцца-ж гэтыя сваякі у знакі. Але, дзякуй Богу, дзьве дзюркі у носе і скончылося,—ужо пазбыуся.

Паулінка. А дауно гэта таткау гняды уцек з Лужанкі, і татка дамоу пехатой прытрэпау?

Сьцепан. Што было, тое сплыло і болей, каханінькая, роднінькая, ні будзе, як кажуць людзі.

Паулінка. Паглядзім. Заутра кірмаш.

Сьцепан. Ні бойся, каханінькая, роднінькая. Я кабылу злаулю, але і ты глядзі, каб мне таго зяця злавіла, аб якім я табе сягоння гаварыу.

Паулінка. Што ен конь, ці вол, каб я яго ішчэ мела лавіць?

Сьцепан. Ні конь і ні вол, а так сабе, дойная жывеліна.

Паулінка. Дык татка яго і дойце, калі ен для вас такі дойны, а я і ні думаю. —

Сьцепан. Нічагутэнькі, каханінькая, роднінкая. Надумаешся, ваша, як пакармлю бярозавай кашай. Вось толькі, каб пагода была добрая, а то казау ен, што на кірмаш ні паедзе, калі будзе дождж ісьці.

Паулінка. Ліхо ні возьме! Гэткі цукер ні размокне.

Сьцепан. Каханінькая, роднінькая, як скажу, так і будзе; дзьве дзюркі у носе і скончылося. Вось толькі трэба даведацца, ці будзе напэуна заутра пагода. Купіу я сягоння календар—нейкі беларускі, як кажэ крамнік. Пытауся у яго, ці пішэ аб пагодзе, дык крамнік гаворэ,

мне, што аб пагодзе напісана у ім болей, як аб чым другім. Значыцца, паглядзім прауды. (*Ідзе і дастае з-за абраза календар, адкуль валіцца на зямлю фотаграфія. Паулінка, саскочыушы з ложка, падбегае падняць яе, але ні пасьпевае*).

Сьцепан (*падымаючы фотаграфію*). А гэта што такое?

Паулінка (*хочучы адабраць*). Гэта мае. Аддайце мне, тата!

Сьцепан. Я пытаюся—хто гэта?

Паулінка. Ці-ж, тата, ні бачыце?

Сьцепан (*са злоснай насьмешкай*). Ха-ха-ха! Якім!.. Хай-жа ен прападзе саусім. (*Хочэ рваць, Паулінка адбірае*).

Паулінка (*скрозь сьлезы*). Аддайце, татачка, аддайце, ні рвіце! Ні зьдзекавайцеся над ім...

Сьцепан (*адпіргнуушы ад сябе Паулінку*). Адчапіся ад мяне, гіцлеука! Я вам тут наразводжу шашняу... (*Стукат у сенцах. Уходзюць: Пранціська, Агата, а за імі—Альжбета. Паулінка стаіць патупіушыся, глытаючы сьлезы, і скубець пальцамі фартух*).

## ЗЬЯВА XV-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбета, Пранціська, Агата.**

Пранціська. Глупство, пане добрудзею. Я, вось-цо-да, казау, собственно, ні дзе падзеніцца.

Агата (*дражнючы*). Вось-цо-да, вось-цо-да! Сам кабылу, тудэма-сюдэма, паставіу у вас пад паветкай, а шукае за плотам. Дарма толькі поузалі і сьлядоу прыглядаліся.

Альжбета. Ну, дзякуй Богу, што хоць нашлася. (*Да Сьцепана*). Што ты там круціш у руках?

Сьцепан (*тыкаючы фотаграфіей у твар Альжбеце*). На, на! любуйся, якія прэзэнты атрымлівае твая дачушка!

Альжбета (*закрываючы рукой твар*). Чаго соваешся... Такая яна і твая, як мая.

Сьцепан. Лжэш! Каб яна была мая, то была-б такая, як і я.

Пранціська. Пакажы, пакажы, пане добрудзею, што гэта за птушка?

Сьцепан (*паказываючы*). На, глядзі, сватоЕ! Павіншуй мяне с такой дачушкай і з гэтым, з гэтым гарэтыкам!

Пранціська (*разглядаючы*). Эгэ! Гэта гэты разумнінькі, вучоны, грамацей... Собственно, Сарока, вось-цо-да.

Сьцепан. Але-ж, але! Якім Сарока.

Агата (*да Сьцепана*). Тудэма-сюдэма, пакажыце і мне, сватка.

Пранціська (*да Агаты*). Ты, пане добрудзею, баба, ні лезь сю-

ды с цікавым носам. Собственно, пілнуй сваей спадніцы і панчохау, вось-цо-да. А мы суд, суд зробім... правы і скоры.

Паулінка (*падходзючы да Альжбеты, ласкава*). Мамачка, адбярэце яе у таткі.

Альжбета. Што я з ім, дзеткі, зраблю? Ешчэ біцца будзе...

Сьцепан (*да Пранціся*). А добра, сватка, кажыш. Зробім суд, перасуд, добрым складам над гэтым гадам. А які?

Пранцісь. А такі, пане добрудзею: стражнікау паклікаць, спраунікy данясьці. Собственно, інквізытарскі суд зрабіць—па палавіне шась! і гатова, вось-цо-да.

Паулінка (*кідаючыся к Сьцепану і цалуючы яму рукі, скрозь сьлезы*). Татачка, аддайце! Ні зьдзекавайцеся над ім!... Ен-жа вам нічога благога ні зрабіу...

Сьцепан (*са злосьцю*). Спаць, спаць пашла, калі гэткаго пашла! Спаць! (*Рве фотографію*).

Паулінка (*с плачам апускаючыся на лаву*). Татка згубіць мяне хочэце... Гвалтам с хаты выгнаць.

Пранцісь (*дастаючы пляшку*). А цяпер, собственно, выпьем хаутурнаго, вось-цо-да. (*Пье*).

Паулінка (*усхапіушыся з лавы кідаецца к Пранцісю*). Па кабыле сваей ні хаутурнаго, а ні па чалавеку, катораго і падноскау ні варт! (*Вырываючы і разбіваючы аб землю пляшку*). Вось-цо-да!

Пранцісь (*разьвесіушы рукі, зьдзіулены, як і усе*). О-о-о!!.

**(Заслона).**

---

## АКТ ІІ-гі.

Тая-ж самая—што у першым акце—сьвятліца. За сталом сідзяць: Сьцепан, Альжбета і госьці—тры хлопцы і тры дзяучыны. Мужчыны седзяць з аднаго канца стала, а кабеты (жанкі)—з другога. Пьюць гарбату, налі-ваючы на сподкі; закусываюць. Дзяцюкі з дзеучатамі жартуюць, перакідываючыся крошкамі ад хлеба. З левай стараны (гледзючы ад публікі) пры сьцяне ад бакоукі—сідзяць два музыкі і, зводзючы інструмэнты, сьціха перагаварываюцца між сабой. Ля дзьвярэй ад сенцау, у канцы куфра, на табарэце стаіць самавар. Паулінка, прыбраушыся па сьвяточнаму, увіхаецца каля гасьцей. Трохі у твары зьмяніушыся; час-ад-часу уздыхае і ніузнак пагледае у вакно; адно стараецца быць з усімі вяселай і бойкай. Як падыймаецца заслона—Паулінка нясе гарбату.

### ЗЬЯВА І-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбета, Госьці, Музыкі.**

Паулінка (*стауляючы гарбату перад Сьцепанам*). Што-ж гэта нешта татаваго зяця так позна ні слуху, ні духу? Ці ні зьнюхау ен, што у мяне пасагу німашака?

Сьцепан. Каханінькая, роднінькая, ні бядуй. Ні будзе Гірша, будзе чорт іншы.

Паулінка (*насьмешліва*). Мала што будзе... Але-ж, калі мяне ужо неяк, як цмокам, стало цягнуць к гэтаму Бык.. Бычку... Ах, як яго?...

Сьцепан (*з націскам*). Быкоускаму.

Паулінка (*падходзючы к другому канцу стала*). Можэ Адэльцэ ешчэ шкляначку?

Адэлька (*госьця*). Дзякуй. Ужо напілася.

Альжбета. Ды бяры! Што там пытаешся! Панна Адэля толькі дзьве выпіла.

Адэлька. Калі-ж болей ні хочэцца.

Паулінка (*забіраючы шклянку*). Выпьеш, выпьеш, Адэлька,—зьмесьціцца.

Альжбета (*падсоўваючы госьцям яду*). Старайцеся, госьцікі, старайцеся. Вось—сыр, масло, вангліна! Такі-ж сягоння трохі напрацавалі каля полькі і лявоніхі.

Колькі галасоу (*перажоваючы і сербаючы*). Дзякуй, дзякуй! Мы стараемся.

Сьцепан. Чым хата багата—тым рада. Хлеб на стале,—рукі свае. Выбачайце толькі, каханінькія, родненькія, што гарэлкі німа. Але я у гэтым ні вінават. Хацеу узяць у Міхалішках, дык, як на ліхо, манаполька цэлы дзень была закрыта.

Музыка (*у старану да другога*). Каб ні салгау, дык-бы і ні жыу. Я сам бачыу, як пасьля імшы адбывауся с пляшкамі пры манапольцы нешпар.

Другі музыка. Слухаць. Скнэра і больш нічога.

Паулінка (*паставіушы Адэлі шклянку, к аднаму з гасьцей*). Можэ пан Вінцусь яшчэ выпье?..

Вінцусь—госьць (*уціраючы канцом настольніка губы і лоб*). Яно-б то было ужо і досіць, але, калі панна Паулінка так пекна просіць, дык можна яшчэ са шкляначку.

Паулінка (*ідучы са шклянкай, у старану публікі*). Гэты ужо дык пятую шклянку бабохае...

Сьцепан (*да Альжбеты*). Ці добра хаця ты прасіла Пустарэвічау? Чаму іх так доуга німа?

Альжбета. Каб і ні прасіла то прыедуць. (*З насьмешкай*). Пэуне, собственно, кабыла заблудзіла.

Адзін з гасьцей. Штось сягоння на кірмашы Якіма Сарокі ні было. А то, бывала, такім франтам пахаджывае, што куды мяне вядзеш, пусьці мяне к чорту.

Паулінка (*стауляючы гарбату*). А пану Бандысю зайздрасьць, што так прыадзецца ні патрапіць, хоць мо' і мае за што.

Госьць. Чымся грошы траціць на адзежу, я лепей іх каму пазычу.

Паулінка (*садзючыся на ложку*). І працэнцік добры злуплю, каб аж у пяты другому закалола.

Госьць (*самадавольна*). Хе-хе-хе! А панне Паулінцэ злосьць ішчэ ні адышла, што калісь гэтаму ягамосьці Сароцэ ні за які працэнт ні пазычыу.

Паулінка. Вельмі-ж яму гэтым і ні пашкодзілі. Нашліся людзі, што і без працэнтау пазычылі і далі яму магчымасьць паехаць на вучыцельскія курсы. Цяпер нічыей ласкі ні патрабуе.

Адна з гасьцей. Пэуне, што не! Такі чалавек нідзе ні прападзе.

Сьцепан (*прыслухіваючыся дагэтуль гутарцэ аб Сароцэ*). Каханінькія, родненькія, кіньце аб гэтым сьвінапасе гаварыць. Прыелася ужо мне гутарка аб ім горш горкай рэдзькі. І ці гаманіце аб ім, ці ні гаманіце—усе роуна нічога ні выйдзе. Я ужо яму дау дарогу.

Паулінка (*ніспакойна*). Якую дарогу?

Сьцепан. А ты, каханінькая, родненькія, ні слухай вушы разь-

весіушы, ды лепей гасьцей глядзі. Дзьве дзюркі у носе і скончылося. (*Нейкую хвіліну ціха. Паулінка падходзе браць шклянкі, але усе адказываюцца*).

Альжбета. Што-ж, выбачайце, госьцікі. Ні хацелі піць і есьці, пасьля самі будзеце жалець.

Сьцепан. Выбачайце, выбачайце, каханінькія, роднінькія, адно ні скажыце, што усяго было удаволь, толькі прынукі ні было.

Колькі голасоу (*устаючы з-за стала*). Дзякуем, дзякуем пану гаспадару і пані гаспадыні. Падмацаваліся, хвала Богу, як лепей ні трэба.

Паулінка (*устаючы з ложка*). Проша паненак сюды прысесьці, а паны кавалеры вазьміце сабе табарэцікі ды вось тут падсядзьце, а я тым часам пачастую гарбатай нашых музыкау.

Сьцепан і Альжбета (*вылазючы з-за стала*). А як-жа— трэба, трэба! (*Дзеучаты садзяцца на ложку, хлопцы каля іх на табурэтах; жартуюць між сабой*).

Альжбета (*падходзючы к музыкам*) Хадзеце, міленькія, выпійце са шкляначку гарбаты.

Музыкі. Дзякуем пані! Мы ужо сягоння пілі.

Альжбета. Мала што калі было, а цяпер трэба яшчэ падмацавацца. (*Забірае інструмэнты і кладзе іх на куфар, садзіць музыкау за стол і сама садзіцца. Да Паулінкі*). А ты, дзеткі, налі музыкам гарбаты!

Сьцепан (*закурываючы люльку*). Выбачайце толькі, каханінькія, роднінькія, што гарэлкі німа.

Музыкі. І без гэтых кропэль будзем жывы. (*Чуваць стукат у сенцах*).

Сьцепан. А бач, нехта такі хоць нарэшце зьявіуся. Трэба ісьці ды глянуць, а то яшчэ у дзьверы ні лучэ. (*Ідзе*)..

Адзін з гасьцей. Нясі, Божэ, ніжанатаго ды багатаго!

Адна з гасьцей. Жаніць будзем!

Паулінка (*стауляе музыкам гарбату, падходзе і глядзіць у вакно. У старану*). Ах, як-жэ цемненька!

Адзін з гасьцей. Каго так, панна Паулінка, выгледаеце?

Паулінка. Таго-ж—ніжанатаго ды багатаго.

## З Ь Я В А II-ая.

### Тыя-ж і Адольф Быкоускі.

Сьцепан (*спатыкаючы Адольфа у дзьверах*). А-а! Нарэшце зьявіуся, дарагі госьцік! Што-ж гэта, каханінькі, роднінькі, так доуга чакаць на сябе нас заставіу?

Адольф (*вешаючы пальто на сьцяне каля парогу*). Пахвалены у хату!

Колькі голасоу. На векі! На векі!

Адольф (*вітаючыся са Сьцепанам*). Выбачайце, што трохі прыпазьніуся. Але гэта вінават мой жарабец. Як панес з гары, што каля Прытыкау, і мяне выкінуу, і вось зламау, так што аж мусіу другую каламашку узяць; праз тое і змарудзіу.

Адзін з музыкау (*у старану, да другога*). Каб ен толькі дыхау. Які яго чорт нес! Прыстау конь, ды усе тут.

Другі музыка. Ні ужо-ж што. У мае вочы заплаціу вясной за нейкую здыхляціну трыццаць рублеу, і тая ужо скарэй яго папясе.

Сьцепан (*да Адольфа*). Проша-ж, проша далей, сюды, дзе бліжэй кут і дзе усе тут.

Адольф. Дзякую, дзякую вашэці. Проша са мной клопату ні рабіць. (*Ідзе і з усімі вітаецца; Альжбету цалуе у руку, стоючы к ей бокам і ні згінаючыся*).

Альжбета. Проша, пана Адольфа, проша за стол! Можэ выпьіце гарбаты і чаго закусіце? (*Да Паулінкі*). Паулінка, налі пану Быкоускаму гарбаты!

Адольф (*садзючыся за стол з другога канца да музыкау і закурываючы папіроску*). А што-ж у васпанства добраго чуваць?

Сьцепан (*прысаджываючыся к сталу*). Ды што у нас чуваць?—Старая баба ні хочэ здыхаць, а маладая—замуж ісьці.

Адольф (*самадавольна*). Хе-хе-хе! Старую трэба пшыдусіць, а маладую пшымусіць.

Альжбета. (*да Сьцепана*). А ваша схадзі паглядзі, ці добра прывязаны конь пана Быкоускаго.

Адольф. Ні турбуйцеся. Я яго добра прывязау.

Сьцепан. Каханінькі, роднінькі, хоць і прывязау, але сена пэуне ні дау. У нас так: госьць як папала, а жывеліну дык трэба добра дагледзіць. (*Выходзе*).

## ЗЬЯВА III-ая.

**Тыя-ж без Сьцепана.**

Паулінка (*стауляючы перад Адольфам гарбату і сама садзючыся аподаль*). Што-ж гэта пана Адольфа конь хацеу разнясьці?

Адольф. А як-жа! Тры сотні вясной заплаціу, і толькі клопату нажыу. Але у мяне усе так! Каровы мае кожная варта па якой сотні

рублеу; як загілююць летам, дык і па добрым кані іх ні угоніш.

Паулінка (*хітравата*). Пэуне і авечкі у пана Адольфа так сама гілююць?

Адольф. А так, так! Маю пятнанцаць старых і двадцаць маладых. Як ударэ гарачыня, дык явы чуць ні усе чыста круцяцца на адным мейсцы.

Паулінка (*ідучы па гарбату для сябе, у старану публікі*). Матыліцы авечак мучаць, як і сам тут (*Паказываючы пальцам на сваю галаву*) матылі мае, а думае, што яны зыгуюць.

Альжбета. Якія-ж селета ураджаі у пана Адольфа?

Адольф. А нішто сабе. (*Відам лгучы*) Жыта нажау коп са дзьвесьці, ауса так сама—са дзьвесьці, ячменю—с сотню.

Адзін з гасьцей. А колькі-ж у пана зямлі?

Адольф. Валокі с паутары добрыя будзе.

Госьць. І лес есьць?

Адольф (*абціраючы хусточкай лоб*). А як жа—есьць: с пауваловi, калі ні болей. Сасна у сасонку!

Госьць. І сенажаць есьць?

Адольф. Есьць, есьць! Над самай рэчкай, так сама с паувалочку. Мурог, як шафран.

Музыка. Дык у пана усяго с паувалочку ворнай зямлі?

Адольф. Н-нуў так! З добрую паувалочку.

Альжбета. У нас ворнай зямлі мусіць і са тры валокі будзе, і то мы стольві ні нажалі.

Паулінка. (*сеушы з гарбатай пры стале*). Пан Адольф лепшы, відаць, за нас гаспадар.

Адольф. О, у мяне гаспадарка ні у чым ні зблышэ. У мяне жонка і то будзе лепшая, як у ва усіх.

Адзін з гасьцей. Каб толькі ні удалася наравістая.

Паулінка. Цікавасьць, ці пан Адольф ужо затаргавау сабе якую?

Адольф. Гэта, пакуль што, сэкрэт.

Паулінка. А мне пан Адольф скажэ?

Адольф. Так. Але перш тату і маме, а пасьля ужо іваспанні на самае вушко.

Паулінка (*бяручы у яго шклянку*). Добра, добра! Пан Адольф як ведау, што я трохі глухавата.

Адольф. Глухавата!..

Паулінка (*ідучы па гарбату, у стар. ну публікі*). Трэба шэршня за нос павадзіць, каб і дзесятаму заказау, як жонкі купляць.

Альжбета. Пан Быкоускі, здаецца, у нас першы раз?

Адольф. А так—першы!

Адна з гасьцей Дык пану трэба даць пацалаваць старую бабу.

Адзін з гасьцей. Пан Адольф толькі да маладых ды багатых лас, а старыя у яго у рахунак ні йдуць.

Адольф. А праўда, праўда! Я толькі да маладых маю імпэт.

Альжбета (*у старану*). І дурны-ж ен, як відаць.

Паулінка (*падаючы гарбату Адольфу*). Ды каго гэта маеце такі імпэт, да дарагіх кароу, ці да дарагіх кабыл?

Альжбета. Ды не! Пан Быкоускі мае імпэт толькі ды маладых дзеучат.

Адольф (*пьючы гарбату*). Але-ж, але. Толькі да маладых дзеучат.

Паулінка. А кільчака часам з гэтаго ні нагоніце на язык?

Альжбета. Што ты?! Ці-ж пан Быкоускі конь?

Музыка (*у старану да другога*). Конь, ні конь, а як відаць, дык быдле парадашнае.

Адольф (*да Паулінкі*) Панна Паулінка дык усе мне каплімэнты гаворэ.

Паулінка. (*разсеянна*) Ага! Каплімэнты. (*Да музыкау*). Мацуйцеся, мацуйцеся, музыканцікі. А то ужо ногі чэшуцца. Так і хочэцца с панам Адольфам сыпнуць лявоніху.

Адольф. Фі! Я такіх мужыцкіх танцау ні гуляю.

Музыкі. (*да Паулінкі*). Дзякуем! Ужо як належыць сабраліся, цяпер можэм і рэзнуць што-колечы для паненкі. (*Садзяцца на свае мейсцы і зводзюць інструмэнты*).

Паулінка (*да Адольфа*). А якія-ж вы танцы гуляеце?

Адольф. Гэрц-польку, падзі-спаць, манчыз, падзі-кварту. (*Выходзючы з-за стала, цалуе Альжбету у руку, да Паулінкі*). Ну, што-ж? Можэ мы с паненкай папробуем?

Паулінка. Калі-ж я гэтых мудрых танцау ні толькі што ні умею, але ніколі нават іх і ні бачыла.

Адольф. Ні бойцеся! Я на усе лады выучу паненку скакаць. (*Бярэ Паулінку, як да танцу, да музыкау*). Зайграйце нам гэрц-польку!

Музыка. Мы гэтаго ні умеем.

Адольф. Ну, дык падзі-спаць!

Музыка. Першы раз чуем.

Адольф. А можэ падзі-кварту знаеце?

Музыка. І гэта першы раз чуем.

Паулінка (*як-бы бядуючы*). А-ей-ей! Вось табе і на! Так і ні научуся гэтых панскіх танцау.

Адольф. Ні бядуйце вельмі. Я буду вытылінгіваць на язык, а васпанна толькі прыслуховайся ды выробляй нагамі так, як і я.

Паулінка. Значыцца, будзем гуляць пад язык. (*Смех. Адольф іграе на язык і без толку выкручываецца с Паулінкай*).

Адольф (*паказываючы*). Вось так, вось так! Правую нагу сюды, а левую туды. Галаву у левы бок, а задам пад парог, ды вось так!.. Раз, два, тры, то на права, то на лева... (*Усе прыгледаюцца да іх і сьмяюцца*).

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Тыя-ж і Пранціськ, Агата, Сьцепан.**

Пранціськ (*пьяны*). Пахвалены Езус. Вось-цо-да, пане добрудзею.

Колькі галасоу. На векі! На векі!

Пранціськ (*глянуушы на Паулінку і Адольфа*). А гэта што такія, собственно, за выкрутасы, як у цырку, ці у сумашэдшым доме?

Адзін з гасьцей. Гэта пан Быкоускі навучае панну Паулінку навамодных танцау (*Пранціськ і Агата распранаюцца*).

Пранціськ Можна, можна далей круціцца, як у хваробе сьвятога Лявэнтаго. Далей, далей! Раз, два, тры, вось-цо-да!

Адольф (*далей паказываючы Паулінцэ*). Вось як, вось так! То направа, то налева. Раз, два, тры! То туды, то сюды, ножка у ножку, раз, два, тры!

Паулінка (*вырываючыся*). Не, такі нічога ні выйдзе. Ні кемкая я да навукі.

Адольф (*садзючы Паулінку*). Гэта толькі трудна перпы раз, а посьле пойдзе усе гладка, як нугай высмаліць! (*Ходзе па хаце, махаючы каля твару хустачкай. Пранціськ, Агата і Сьцепан садзяцца за стол; Альжбета падае ім гарбату*).

Пранціськ (*закурываючы люльку с Сьцепанам*). Собственно, пане добрудзею, кабыла заблудзіла і праз тое трохі спазьніліся. Але гэта глупство, глупство! Ешчэ парой будзе, вось-цо-да.

Агата. Якое чорта заблудзіла! Пакуль аб'ехау, тудэма-сюдэма, усю аколіцу, як пагарэлец, дык і поунач чуць ні агарнула. Тудэма-сюдэма, усе гары тэй сабе шукау.

Пранціськ. Ты, баба, собственно, маучы, вось-цо-да! Ты нічога ніколі ні кеміш, а я маю розум спрытны. Я, пане добрудзею, Барнашоу, дзе пашоу, там і прайшоу. (*Да гасьцей*). А вы, маладзічкі, ні зважайце, вось-цо-да, ды танцуйце, пане добрудзею, пакуль казінец ні убіуся у ногі.

Паулінка. А прауду дзядзька кажэ. Будземо гуляць, на што

дарма час марнаваць! (*Да музыкау*). Зайграйце, калі ласка, польку, але такую, як ведаеце... каб аж сьвет хадыром пашоу!

(*Музыкі іграюць польку; усе, апрача старых, танцуюць: Адольф с Паулінкай, другія госьці—хто с кім. За сталом Пранцісь с Сьцепанам частуюцца гарэлкай с пляшкі, каторую першы прынес с сабою*).

Адольф (*танцуючы прыпевае*).

Танцовала рыба з ракем,
А петрушка с пастарнакем,
А цыбуля дзівовала,
Цо петрушка танцовала.

Паулінка (*адпеваючы*).

А на печы, на лучыне,
Дзеукі грошы палічылі;
Налічылі пауталера,
Дый купілі кавалера.

Адольф. Дзяучынэчка суха, бляда,
Я да цебе у госьці яда,
І конікоу ні жалую,
Ушыстку ночку машырую.

Паулінка У гародзе ячмень родзіць,
А да мяне Якім ходзіць.
Радзі, радзі, ячмень, гусьцей,—
Хадзі, хадзі, Якім часьцей!

Адольф. Сядзіць голуб на галіне,
Салавей на ветке;
С аднэй дзевушкай гуляю,
Другая в прыметке.

Паулінка. Ажаніся, ні ляніся,—
Будзеш панаваці:
З аднэй будзеш сьвінні пасьвіць,
З другой—заганяці.

Адольф. Нашэ поле камяністо—
Ні праехаць, ні прайсьці.
Нашы дзевачкі фарсісты—
Нельга к ім і падыйсьці.

Паулінка. Я фарсуха, ты католік;
Ні руш мяне за падолік,—
Мой падолік шоукам шыты,
Хто палезе, будзе біты!

Сьцепан (*як сьціхла гульня*). Браво, браво, пан Адольф! Складзен да танцау, як, ні раунуючы, закрыстыян да ружанцау.

Пранцісь (*пацягіваючы с пляшкі*). Глупство, глупство, вось-

цо-да! Собственно, хоць у кішані пуста, за тое ногі сыпюць густа. Каб яму ішчэ ды мой розум растропны, дык зусім было-б добра, пане добрудзею.

Агата. Кінь ты ужо, тудэма-сюдэма, плявудзгаць, як латак у млыне! Гуляюць — ніхай гуляюць; ты сваімі качэргамі так ні патрапіш.

Альжбета (*да Пранціся*). Можэ-б чаго, сватка, закусілі?

Пранціcь. Глупство, вось-цо-да. Собственно, закушу, закушу. (*Да гасьцей*). А вы, пане добрудзею, забауляйцеся, пакуль гаспадар вон с хаты ні гоне, вось-цо-да.

Паулінка (*да Адольфа*). Можэ, пан Адольф, сьпяіце нам што колечы? Я чула, что вельмі пекны голас маеце.

Адольф (*астанауліваючыся*). Э-э! які там пекны! Ось так сабе! Канешне, лепшы, як у другіх.

Колькі галасоу. Дык проша сьпець. Мы усе просімо.

Адольф. Калі ужо так пекна просіце, дык можна. А якую-ж бы панна Паулінка хацела?

Паулінка. А усе роуна, хоць якую! Ну, якая лепей у пана Адольфа выходзе.

Адольф (*пяе нескладна, махаючы хустачкай па твару*).

Плываё голэмбы,
Летаё лабэндзі;
З нашэго кохання,
Пэуна, ніц ні бэндзе.

Паулінка. А такі-ж нічога ні будзе.

Адзін з гасьцей. Ці-ж гэта голэмбі плываюць, а лабэндзі летаюць?!

Адодьф. Ну, калі перабіваеце, дык саусім ні буду пець.

Альжбета. Хай пан Быкоускі на іх ні зважае ды пяе; ведама,— блазнота, што яны знаюць!

Паулінка (*паглядзеушы у вакно*). Выбачайце, пан Адольф! У мяне ніумысьле выляцело слауцо.

Колькі галасоу. Выбачайце, выбачайце! Просім, просім. Больш ні будзем!

Пранціcь. Собственно, пане добрудзею, завядзі яшчэ сваю шарманку: яна у цябе, прост, як грамафон, вось-цо-да, трубіць.

Адольф. Ну, ужо буду! Але калі яшчэ хоць раз перапыніце, тады загневаюся і саусім кіну пець. Пейце тады самі!

Колькі галасоу. Не, не! Ні будзем!

Адольф. (*пяе*).

Гляджу я бяз толку на хладную шаль,
І чорную душу церзае печаль.

Паулінка (*душучыся ад сьмеху*). Ці-ж у пана Адольфа чорная душа?

Адзін з гасьцей. На што-ж пан глядзіш на яе без толку?

Адольф (*насупіушыся*). Болей пець вам ні буду, хоць на каленях прасіце. Пейце сабе самі, калі такія разумныя! (*Садзіцца*).

Паулінка. Дык і сьпяем, калі пан Адольф такі ні кемкі, што нават жартау ні разумее. (*У старану*). Эх, скарэй-бы усе гэта кончылося!

Адзін з гасьцей. А такі-ж сьпяем, і усе разам.

Паулінка (*да Адольфа, хітравата*). А пан Адольф нам паможэ?

Адольф. Ані думау.

Колькі галасоу. А што мы сьпяем?

Паулінка. «Дый куды-ж ты, дуб зялены, пахінаешся»?..

Адольф. Фі, мужыцкая!

Паулінка. А пан Адольф можэ-б хацеу, каб завялі якога манчыза?!

Пранціcь. Собственно, вось-цо-да, калі такой панскай натуры, дык пазатыкай кудзеляй вушы, пане добрудзею.

Сьцепан (*да Пранціся, сьціха*). Каханенькі, родненькі, ні крапайце яго! Ен, бачыш, як я ужо і казау, масьціцца к маей Паулінцэ. Як будзеш яму наругацца, дык гатоу іншчэ адбіцца, а я яго стараюся прыручыць.

Паулінка. Ну, дык што? Згода на гэту?

Колькі галасау. Згода, згода!! А пасьля другую.

Паулінка. Толькі ні зьбівацца с толку. Глядзець, як я буду рукамі тахты адбіваць.

Колькі галасау. Добра, добра!

(*Пяюць. Паулінка, сумна усьміхаючыся, дырыгуе. Пасьля і Пранціcь паходзе і пляшкай адмахівае тахты; музыкі такжэ сваей ігрой памагаюць*).

Дый куды-ж ты, дуб зялены,
Пахінаешся?
Дый чаго-ж ты, мой міленькі,
Задумляешся?

Пранціcь (*як перасталі пець*). А цяпер, вось-цо-да, «Як-жа мне ні пець», пане добрудзею.

Адольф. Ізноу мужыцкую!

Пранціcь. Але, мужыцкую, але, вось-цо-да! А васпан, собственно, сваю панскую схавай сьвіням на сьнеданне.

Агата (*падходзіць і цягне Пранціся за полы*). Кінь ты ужо, тудэма-сюдэма, с поля сходзіць!

Пранціcь. Вось-цо-да, адчапіся ад мяне, пане добрудзею!

Паулінка. Ну, будзем пець «Як-жа мне ні пець, як-жа ні гудзець»?.. (*Пяюць, як першую*).

Пранціcь (*як скончылі*). А цяпер, собственно, «Чачотачку», пане добрудзею.

Колькі галасоу. Чачотачку, чачотачку! (*Пяюць чачотачку*).

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла нівялічкіх семера малых.

Альжбета (*як сьціхлі*). Аддыхніце, міленькія, хоць трохі, а то замарыліся дужа. (*Да Пранціся*). Хадзеце, сватоk, за стол, ды можэ чаго закусіце, бо і ты-ж памагау.

Пранціcь (*садзючыся*). Собственно, глупство, вось-цо-да. Маладым трэба паказаць, паказаць, пане добрудзею, а яны усе патрапюць... правільна толькі навучыць іх. (*Прапіваючы с пляшкі да Сьцепана*). А ты, сват, трымайся, вось-цо-да. Ім ні дам, яны маладзічкі яшчэ, пасьпеюць.

Сьцепан. А прауда, прауда, сватка! Яшчэ іх пара ні уцекла. (*Выпівае*).

Паулінка (*каля гасьцей*). А што-ж мы цяпер будзем рабіць? Ужо напеяліся, дык можэ ізноу пагуляемо?

Пранціcь (*закусываючы*). Собственно, пачакайце, я зараз скамандую, пане добрудзею, за што і як узяцца, бо мой розум растропны, а вы нічога ні ведаеце.

Паулінка. Ну, добра, пачакаем. (*Да Адольфа*). Што-ж гэта, пан Адольф, надууся, як мыш на крупы, або, як апошняе у печ усыпаушы?

Адна з гасьцей. Пан Адольф, відаць, закахауся.

Адольф. Ну, дык што, калі закахауся?

Пранціcь (*пералсовуючы яду*). Собственно, цяпер, вось-цо-да, пойдзем лявоніху, пане добрудзею!

Усе. Лявоніху! Лявоніху!

Адольф. Ізноу мужыцкае!

Паулінка (*да Адольфа, прыпадхлебываючыся*). А мы с панам Адольфам сыпнем лявоніху, сапрауды, сыпнем! Адпусьціцеся на мяне грэшную, болей ці удасца так весела з вамі паскакаць.

Адольф. Ды я ужо вельмі ні гневаюся. Калі ужо так хочэце, дык пойдзем, што-ж там натта такое?!..

Пранціcь (*да музыкау*). Собственно, рэжце, пане добрудзею! (*Да Альжбеты*). А мы с сваццей тупнем, вось-цо-да!..

Сьцепан (*да Агаты*). А мы с сваццей, каханінькая, роднінькая! (*Музыкі іграюць лявоніку. Кабеты трохі упіраюцца, але пасьля ідуць, за імі другія госьці. Паулінка з Адольфам*).

Пранцісь (*прыпевае*).
О, Лявоніха Сымоніха была,
О, Лявону хлеба, солі ні дала!
О, Лявоніха Єымоніха, а-ей!
Ні хадзі ламаць капусткі маей!

Альжбета. Хоць капуста зарасла лебядою,
Ні пайду яе палоць за табою.
Прападзі ты із капустай сваей,
Ні сушы ты маладосьці маей!

Сьцепан. О, Лявоніха, ты жонка мая,
Дый ні мытую сарочку дала;
Ні качаную, ні мытую,
Толькі шоукам абашытую.

Агата. А мой татка, дзевярусенька,
Вядзі мяне намалюсеньку.
Ні вядзі мяне па пожынцэ,
Вядзі мяне па дарожынцэ;
На пожынцэ мае ножкі ні йдуць,
Па дарожынцэ дык самі бягуць.

Адольф. Як я бегау, дык і бегау,
Абы мілую праведау;
Як каціуся, дык каціуся,
Абы к мілай прыхіліуся.

Паулінка. А калі-ж я у матулькі жыла,
Як вішанька у садочку цьвіла,
Дасталася зломму духу—мужыку,
Ссушыу мяне, як ліпінку у духу.

Адольф. Ты бярозачка, бярозачка мая,
Ты бярозка ні цярэбленая;
Твае лісьце ні сярэбранае,
Нашы дзеукі ні паседлівыя.

Паулінка. Ні вядзі мяне ні у лес, ані у сад,
Завядзі мяне к татульку назад;
Ні вядзі мяне ні у лес, ані у бор,—
Завядзі мяне к татульку на двор!

Пранцісь (*як перасталі гульню, да Сьцепана*). Собственно, і дала-ж твая баба мне дыхту, вось-цо-да. Аж лыдкі трасуцца, пане добрудзею.

Сьцепан. І твая, каханенькі, родненькі, ні адстала,—аж дыхавіцу чуць мне ні нагнала.

Агата. Абодва вы кавалевыя мяхі, тудэма-сюдэма, ніпаваротлівыя, дык і здаецца, што нехта вам дыхту нейкаго даваў.

Альжбета. А праўда, сваценька, праўда. Ім толькі каля пляшкі круціцца, а ні з дарэчнымі жанкамі лявоніху іcьці.

Пранціcь. Ага, собственно, добра, што сваценька, пане добрудзею, успомніла! (*Дастае пляшку і частуецца с Сьцепанам*).

Паулінка (*да Адольфа*). Ну, як-жа пану Адольфу спадабаўся наш мужыцкі танец? Як я уважаю, дык лепей у вас лявоніха выходзе, чымся тое нейкае «падзі-кварта». І прыпеўкі складныя знаеце.

Адольф (*нібы скромна*). А трохі-ж нейкіх навучыўся калісь.

Адзін з гасьцей. Пара нам і чэсць знаць! Пэўне, ужо каля поўначы матаецца.

Колькі голасоў. Так, так, час рухацца дамоў!

Паулінка (*з аблягчэннем у старану*) Дзякуй Богу!.. (*Да гасьцей*). А можэ-б яшчэ пагулялі?

Альжбета. Каму далека, то яно так, а каму блізка, дык ні шкодзіць яшчэ пазабаўляцца.

Колькі галасоў. Не! Не! Ужо час і пара!

Паулінка. Ну, дык хай музыкі на адходнае хоць марша зайграюць, каб весялей усім сьнілося, і каб моцна, моцна усім спалося.

Сьцепан. А гэта ні шкодзе! (*Да музыкаў*). Што-ж, каханенькія, родненькія, зайграйце, калі ласка, іщчэ што-колечы на адходнае дарагім госьцікам, а там дзьве дзюркі у носе і скончылося. (*Музыкі іграюць марш. Госьці адзеваюцца, адвітываюцца і выходзяць, за імі— музыкі*).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Паулінка, Адольф, Сьцепан, Альжбета, Пранціcь і Агата.**

Сьцепан. Вось і пацішэло трохі у нашай хаце, німа ужо каму скакаці.

Пранціcь. Собственно, глупство, вось-цо-да. Было шумна, пане добрудзею, і будзе шумна!

Агата. А так, так, тудэма-сюдэма, як будзе вяселле у Паулінкі.

Паулінка. Э-э, майго вяселля ніколі ні будзе, значыцца, і шумна ні будзе!

Адольф Ці-ж у бацькоў маладога, паненка, думаеце, ні хваце на вяселле?

Паулінка. Хваце, ні хваце, а такі вяселля майго ніхто ні убачэ...

Сьцепан. Гэта, каханенькая, родненькая, пабачым. Яшчэ я на тое есьць і у сваей хаце гаспадар, а ні госьць! Жыта повен аруд і сала ні адзін пуд.

Пранціс. Собственно, глупство, вось-цо-да. Часам ці вясельле ці павесіу—адно на другое, пане добрудзею, выходзе.

Агата. А ты, вось-цо да, прыкусі свой язык і ні тыцкайся, тудэма-сюдэма, туды, куды цябе ні просюць. Нашіуся, паеуся, дык і маучы!

Альжбета (*да Агаты*) Што-ж там, сваценка, такое? Сват-жа нічога благога ні кажэ. (*Да Паулінкі*). Прыбірай ты ужо, дзеткі, са стала.

Пранціс. Собственно, ці сьвіні елі, ці шляхта папасывалася—гэтак, вось-цо-да, стол выглядае, пане добрудзею.

Паулінка. Добра, мамка, зараз. (*Да Адольфа*). А пан Адольф мне паможэ?

Адольф. Калі патраплю, дык чаму-ж не? (*Прыбіраюць са стала; пасудак стауляюць на табурэце каля самавару*).

Альжбета. Вы-ж бы, дзеткі, занясьлі пасудак на тую палавіну.

Паулінка. Усе роуна; я посьля занясу сама, а цяпер... (*Пагледаючы плутавата на Адольфа*) я баюся с панам Адольфам ісьці адна на тую палавіну!...

Адольф (*нясучы пасудак, у старану публікі*). Відаць, дзеука уляпюскалася у мяне па самую шыю.

Паулінка (*ідучы к сталу, у старану публікі*). І собіло-ж Богу створыць гэткую чапялу нідарэчную!

Пранціс (*да Паулінкі*). А праудэ, собственно, лепш старожэ, як варожэ, пане добрудзею.

Агата (*да Пранціся*). А ты, «старожэ» ні мялі попусту, а думай, як да хаты ісьці.

Пранціс. Пане добрудзею, дык і пойдзем; што-ж там, собствэнно, такое. (*Развітываюцца абое і выходзюць. Алжбета памагае прыбіраць са стала*).

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Паулінка, Адольф, Сьцепан, Альжбета.**

Паулінка. Ні так, пан Адольф, бярэш шклянкі; трэба вось як. (*Паказывае*). Ну, і зграбны-ж! ні раунуючы—як вол да карэты.

Адольф. А панна Паулінка усе камлімэнты мне гаворэ.

Паулінка (*у старану публікі*). Дурню плюнь у вочы, а ен скажэ: дождж ідзе!

Альжбета (*да Сьцепана, каторы клюе носам за сталом*). Што ты табаку важыш? Ідзі ды кладзіся спаць. Гэта-ж табе тут ні карчма!

Сьцепан (*сонна*). Каханінькая, роднінькая, я паважу, а ты купіш. Сон ні кепская рэч. Для чаго Калядкі—добрыя сьвяткі, што пад'еу ды на палаткі. (*Вылазючы з-за стала, да Адольфа*). Каханінькі, роднінькі, выбачай... Забауляйся тут с Паулінкай, а я прыкархну трохі... Сягоння ішчэ до сьвіта мяне мая успарола. (*Адводзючы Адольфа у старану*). Ну, што? Як мая Пауліна... падышла пад мысль?

Адольф. О, важная маладзіца! Хоць сягоння гатоу з ею жаніцца.

Сьцепан. Ну, так тупай каля яе; толькі сьмела: яна дзеука падатлівая, хоць можэ і мае трохі якіх мухау у носе.

Адольф. Хэ-хэ-хэ! Я к усякай патраплю падлізацца.

Сьцепан. Ну, дык падлізывайся, каханінькі, роднінькі. (*Пращчаецца і ідзе у бакоуку*).

## З Ь Я В А VII-ая.

**Паулінка, Адольф, Альжбета.**

Альжбета (*сьціраючы стол*). А ты, Паулінка, можэ у карты пайграеш с панам Адольфам?

Адольф (*закурывючы*). Ды і мне ужо трэба зьбірацца дамоу.

Паулінка. Ці-ж пан Адольф разсыпауся, што маніцёся зьбірацца? Заедзеце яшчэ; каня-ж маеце ні жартачкі!..

Адольф. О, конь мой добры!

Альжбета. Ну, дык і чаго-ж сьпешацца?.. Нам старым, як той кажэ, такая рэч: пад'еу ды на печ.

Паулінка (*у старану*). Чаго добраго—заначуе, вот будзе беда! (*голасна*). А пагода сягоння ні дрэнная. Нават месяц сьвеце, што рэдка на Пакровы. Будзе добра для пана Адольфа дамоу ехаць.

Адольф. А хоць-бы і дрэнная, дык мне блізка, жарабец мой у момэнт дамчыць.

Альжбета. (*да Паулінкі*). Ну, дык паглядзі-ж ты, дзе карты, ды пазабауляйцеся яшчэ трохі с панам Адольфам, бо я мусіць зраблю сьледам за дзедам. Трохі-ж сягоння такі натупалася.

Адольф. Проша, проша, панічка! На нас маладых ні зважайце.

Альжбета. А ужо-ж я такі і пайду.

Адольф (*цалуючы у руку Альжбету*). Хутка і я паеду, вось толькі дам аднаго гаспадара панне Паулінцэ.

Паулінка. Паглядзім—хто каму?! (*Шукае карт. Альжбета выходзе у бакоуку*).

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Паулінка, Адольф.**

Адольф. Чаго паненка шукае?

Паулінка. Таго, чаго іпічэ ні маю. Карт.

Адольф. (*глянуушы на вакно*). А вось яны, на вакне.

Паулінка (*у старану*). Думала, што ні убачыць; скарэй-бы можэ с хаты выпхнула, ні нашоушы карт. (*Да Адольфа*). Ну, калі есьць, дык будзем іграць. (*Паглядзеушы у вакно*). А у што?

Адольф. У гаспадара.

Паулінка. Гэта, значыцца, у дурня?

Адольф. Ну, гэта толькі мужыкі так гаворуць. (*Раздае карты*).

Паулінка. А як пан Адольф думау, хто мы? То-ж так сама мужыцкаго роду.

Адольф. Першы раз чую!

Паулінка. Ды і пан Адольф так сама мужыцкаго роду. (*Іграюць у карты*).

Адольф (*зьдзіулены*). І я?!.

Паулінка. Але, але! Калісь былі усе мужыкі, ну, дык цяпер кожны чалавек мужыцкаго роду, хоць каторы і прыкідываецца панам, ці графам. Ды і што гаварыць! Адам і Эва і то былі мужыкамі.

Адольф (*зьдзіулены*). Адам і Эва?!.

Паулінка. І Ной і Езус...

Адольф. Што я чую?. Адкуль гэта, панна Паулінка, усе ведаеце?

Паулінка. Ого, ні скажу!

Адольф (*просючы*). Проша сказаць.

Паулінка. Ні тэй быце! Вот салапяка!

Адольф (*паправіушыся*). Ды скажэце!

Паулінка (*ніцярпліва*). Ну, добра. Запытайцеся у Якіма Сарокі: ен усе вам разскажэ. (*Адольф праігрывае*). Дурэнь пан! Дурэнь пан!

Адольф (*папрауляючы*). Гаспадар. (*Раздае карты*).

Паулінка (*у старану*). Які чорта гаспадар, калі дурэнь?!

Адольф. Што панна Паулінка кажэ?

Паулінка. Кажу: але, гаспадар. (*Хвілю маучаць. Паулінка у старану*). Што тут гаварыць з гэтай вандзонкай. І трымае-ж яго нідобрае! (*Да Адольфа*). А ці пан Адольф жаніцца хочэце?

Адольф Ой, страшэнна хачу. А панне Паулінцэ замуж хочэцца?

Паулінка. Ого, яшчэ і як хочэцца!.. Калі удасца, дык яшчэ і сягоння можэ пайду.

Адольф. А я-ж яшчэ с таткам і мамкай вашымі нічога аб гэтым ні гаварыу.

Паулінка. Аб чым—аб гэтым?

Адольф. Ну, аб тым, як я жаніцца буду, а панна Паулінка замуж іцьці. (*Праігрывае*).

Паулінка. Ізноу пан дурнем! Ізноу дурнем!

Адольф. Гаспадаром... (*Раздае карты*).

Паулінка. А можэ ужо будзе? Нешта спаць якбы хочэцца. (*Зевае, устае і паглядае у вакно. У старану*). А што, калі ні прышоу?

Адольф (*ні пачуушы*). Хто ні пашоу?

Паулінка. Я кажу, каб хаця дождж ні пашоу. (*З удаванай жаласьцю*). Я так жалею, так жалею пана Адольфа, каб ні замок, што аж тут нешта трасецца. (*Паказывае на грудзі*).

Адольф. І я так сама панну Паулінку жалею і цяпер і потым...

Паулінка. Калі гэта потым? Як пан Адольф яшчэ дурня возьме?

Адольф. Ды не! Тады, як будзем... як будзем... ну, як гэта сказаць?

Паулінка. Ізноу скруціу! (*Папрауляе*). Вось гэтак было, гэтак біць трэба, а з гэтай хаджу, і пан Адольф ізноу дурэнь, дурэнь, дурэнь!

Адольф. Гаспадар!

Паулінка. Усе роуна, хоць гаспадар, але, як карты паказываюць, дык дурэнь!

Адольф. Хай сабе будзе і так! Цяпер за тое, што пана Паулінка мяне гэтак абыграла, вазьму ды паеду. (*Устае*).

Паулінка (*з аблягчэннем у старану*). Сабрауся такі нарэшце!

Адольф. Дабранач панне Паулінцэ! Прошу чакаць,—я прыеду па канчатак.

Паулінка. Забярыце лепей яго цяпер!

Адольф. Каго?

Паулінка. Ды канчатак той.

Адольф. А панна Паулінка усе жартуе. (*Прашчаецца. Выходзючы, у старану публікі*). Вот так на усе бакі дзеука! Адным словам, як сторублевая кабыла. Гэткая—дыхт для мяне жонка!

## ЗЬЯВА IX-ая.

**Паулінка** (*адна*).

Паулінка (*ніспакойна*). А той, можэ, хай-бы лепей і ні прышоу! Так усе неяк у сярэдзіне трасецца... І на што гэта я яму абе-

цала? Лепей было-б пачакаць. Што тут рабіць? (*Ходзе ад вакна к вакну і пагледае*). Падшахнуло-ж мяне нідобрае на згоду прыстаць! (*Сумна-весела*). А можэ ні прыдзе?.. (*Сумна*). А калі ні прыдзе, то значыцца, ен ужо мяне ні любіць болей. Не, ніхай прыдзе лепей, а там, што будзе, то будзе. Трэба паваражыць. (*Стукае у пальцы*). Прыдзе, ні прыдзе, прыдзе, ні прыдзе, прыдзе... (*Весела*). Прыдзе, прыдзе! А цяпер—любіць, ці ні любіць? Ну, гэта трэба па карты паваражыць. (*Бярэ і перакідае карты*). Любіць, ні любіць, к сэрцу прыжме, к чорту пашле; любіць, ні любіць, к сэрцу прыжме... (*Весела*). Так, так, любіць, к сэрцу прыцісьне! Ну, раз карты гэтак паказалі, то трэба зьбірацца. Але мушу уперад паслухаць, ці сьпяць старыя. (*Ідзе і падслуховае у дзьверах бакоукі*). Сьпяць, ажно храпуць, якбы суконкі дралі. (*Падходзе, глядзіць у вакно, задумываецца*). Што тут узяць? Ага, трэба заглянуць у куфар. *Адчыняе куфар, капаецца у ім; дастае пацеркі і прымерае*). Во! гэта дык трэба забраць—так мне з імі да твару ідзе. Ну, суkенку новую так сама трэба узяць. Усе гэта зьвяжэм у хустку. (*Разсьцілае хустку і складывае свае рэчы*). А-а, і чаравічкі мушу забраць, бо у чым-жа я з ім бегаць буду? Шнуровачку так-жа вазьму, бо хто-ж яе будзе тут насіць?.. І—і!!. ужо болей, здаецца, нічога. (*Зьвязывае і ідзе к ложку. Чуваць шорах за вакном. Паулінка сьціха*). Ай, хтось там прышоу! (*Паглядываючы на публіку*). Прышоу мой міленькі, прышоу! Такі карты прауду паказалі. (*Ідзе к вакну*). Хто там?

Голас з-за вакна (*прыдушаны*). Я!.. Я!..

Паулінка (*угледаючыся у вакно, у старану*). Нічагутэнькі ні відаць! Цемната страшэнная! (*У вакно*)). Хто—я?

Голас. Я!.. Я!.. Ну, ці-ж ні пазнала?

Паулінка. Пачакай мінутку. Вось я зараз. Толькі падушачкі зьвяжу і коудру.

Голас. Ды мне нічога ні трэба!

Паулінка. Мала, што ні трэба, а я вазьму... (*Хутка ідзе к ложку, зьвязывае падушкі і коудру у пасьцілку*). Ну, ужо гатова! (*Адчыняе вакно і выкідывае вузлы*). Перайма́й, а зараз—і мяне! (*Да сябе*). Трэба з бакоукі узяць верхнюю апратку і хустку, толькі-б хаця-ж старыя ні прабудзіліся. (*Зьніжае агонь у лямпе і ідзе у бакоуку. Па неякім часе выходзіць стуль адзеушыся*). А цяпер і сябе трэба выкінуць! (*Шыбка ідзе к вакну. Чуваць шорах у бакоуцэ*). Ай, нехта устау!

### З Ь Я В А Х-ая.

**Паулінка, Сьцепан.**

Сьцепан (*Выбегае з бакоукі, ахінуушыся коудрай*). Хто тут! Хто тут лазе а поуначы? Альжбета! Альжбета! Хутчэй сюды! (*Паулінка, пе-

*рахрысьціушыся, кідаецца у вакно. Сьцепан убачыу*). Гвалт! Злодзей! (*Бяжыць к вакну і хватае Паулінку за ногі*). Альжбета! Скарэй сюды! Стрэльбу хватай!!.

### ЗЬЯВА XI-ая.

**Паулінка, Сьцепан, Альжбета.**

Альжбета (*выбегае—як Сьцепан—акрыушыся коудрай; уся трасецца*). Матачка Найсьвентшая! Што тут робіцца?! (*Мацае па сьцяне*). Зараз, зараз нясу стрэльбу. (*Хватае за гіру ад гадзінніка, гадзіннік з грохатам валіцца са сьцяны і разьбіваецца*). Ай! Што-ж я нарабіла!!

Сьцепан (*трымаючы Паулінку за ногі, да Альжбеты*). Куды цябе немач уперла? Падкруці хутчэй кнот ды памажы цягнуць!..

Альжбета (*бяжыць к лямпе*). Ужо, ужо!

Паулінка (*перавесіушыся праз вакно*) Цягні, братка, ямчэй!

Альжбета (*падкруціушы кнот і бягучы к Сьцепану*). Божухна мой! Гэта-ж Паулінка! Скуль ты узяу таго злодзея?

Сьцепан. Каханінькая, роднінькая, ні мялі языком ды вось памагай цягнуць; там нейкі гад яе за рукі трымае.

Паулінка. Мацней, мацней, браток!

Альжбета (*памагаючы Сьцепану цягнуць*). Што ты, дзеткі, адурэла, ці што? (*Сьцягіваюць Паулінку з вакна на хату*).

Сьцепан. Ты гэта, каханінькая, роднінькая, куды манілася ляцець?

Паулінка(*апіраючыся рукой аб стол, патупіушыся*). Я!.. Я!.. хацела замуж іcьці!

Сьцепан і Альжбета. Праз вакно?!

Паулінка. А што-ж, калі татка і мамка праз дзьверы ні пускаеце.

### ЗЬЯВА XII-ая.

**Тыя-ж і Пранціcь, Адольф, Агата.**

Пранціcь (*без шапкі уваліваецца у хату, трымаючы за каунер Адольфа*). Собственно, панс добрудзею, злодзея, злодзея злавіу, вось-цо-да.

Агата (*цягнучы вузлы*). А як жа, тудэма-сюдэма, з гэтымі катомкамі каля вашаго вакна калауся.

Паулінка, Сьцепан і Альжбета. Пан Быкоускі?!

Пранціcь. А так, так, панс добрудзею. Адольф, Адольф! Злодзей, собственно, вось-цо-да!

Сьцепан (*да Адольфа*). Дык гэта ты мне хацеу дачку украсьці, зладзюга, каханенькі, родненькі!

Адольф (*заікаючыся і ні разумеючы у чым рэч*). Я... я... зьбіуся тут каля саду з дарогі, дык хацеу у панны Паулінкі запытацца праз вакно, кудой выехаць...

Пранціcь. Собственно, злодзей, злодзей! Вузлы с хаты праз вакно павыцягівау. Можэ і шапку маю украу.

Агата. Ты зараз, пьяніца, тудэма сюдэма, і галаву забудзешся. Гэта-ж аж дамоу даволокся і тады толькі агледзіуся, што шапкі забыуся.

Пранціcь. Собственно, а баба на што, каб усяго пілнавала. Але злодзея, пане добрудзею, злавіу, злавіу, вось-цо-да.

Сьцепан (*да Паулінкі*). Дык гэта ты, каханенькая, родненькая, за яго хацела замуж уцекаць, як даведалася, што гэнаго гада, гэнае плюгауство за афішкі арыштавалі?!

Паулінка (*глуха*). Божухна мой, Божэ! Якімку арыштавалі!!

Сьцепан (*самадавольна*). Хе-хе хе! Ужо гэтае мужыцкае насенне ні будзе больш нашых сьцежак паганіць.

Паулінка. Якімку арыштавалі! Майго саколіка нінаглядпаго арыштавалі!

Сьцепан (*да Адольфа*). А ты, каханенькі, родненькі, нігадзяй, вірутнік с пад цёмнай гвязды, вон з маей хаты, каб твая і нага тут ні была! Ні мог, як трэба, па хрысьціянску—с сватам, с запаведзямі маю дачку узяць, але, як злодзей, хацеу праз вакно вывалачы! Вон! Вон!

Адольф. Я... я... толькі хацеу дарогі запытацца...

Пранціcь (*развязываючы вузлы*). Собственно, злодзей, пане добрудзею! Падушкі і сукенкі дзявочыя праз вакно пакрау. К вураднiку, марш! К вураднiку, гіцель, вось-цо-да!

Паулінка. Якімку арыштавалі! Маю зорачку ясную арыштавалі! (*Дзіка*). Ха-ха-ха! Зьвяры сьляпыя!!! (*Як сноп, валіцца на зямлю. Суматоха. Крыкі*: Ванды! вады!).

Пранціcь. Собственно, пане добрудзею, у мяне ёсьць кроплі. (*Дастае с кішані пляшку і пырскае у твар Паулінцэ гарэлкай*).

Агата. (*кідаючыся да Пранціся*). Тудэма-сюдэма, ашалеу!..

Сьцепан (*панура*). Каханенькія, родненькія, дзьве дзюркі у носе і скончылося!..

**(Заслона).**

*КАНЕЦ.*

Акопы. 3. VI 1912 г.

Францішк Алехновіч.

# МАНЬКА.

пьеса у 4-х актах.

# МАНЬКА.

**А С О Б Ы:**

МАНЬКА—маладая прыгожая дзяучына, 18 гадоу, нідауна з вескі.

ЮЛЬКА—старшая сестра яе.

МІХАЛКА—малады хлапец, студэнт.

СЬЦЕПАН—яго прыяцель.

ЛЕКДУГНА—стары студэнт, пьяніца.

ГАСПАДЫНЯ РЭСТАРАНУ.

ГАЛУБОУСКІ—музыкант.

ГРЫШКА.

ГОСЬЦІ.

## АКТ І-шы.

Рэстаран. Налева буфэт з закускамі, бутэлькамі і г. д. За буфэтам дзьверы. Бліжэй—шафа с півам. Пасярэдзіне дзьверы, праз каторыя відаць другі пакой. Направа на першым пляні дзьверы на вуліцу, на другім пляні—вакно. На сцэне столікі крэслы.

Перад тым, як завеса адчынілася, ужо чуваць рэстаранны гоман: нехта крычыць, нехта стукае шклянкай, нехта клічэ „Манька! Манька!". У другім пакоі іграе на гармоніку і пяе пьяным голасам Галубоускі:

Яна грошы ні узяла, ні узяла, ні узяла,
А па збанку плакала, а па збанку плакала.
Мой зялены збан, збан,
Што разбіу яго пан.

Як завеса адчынілаcа, Манька выходзіць з левых дзьвярэй ды йдзе у другі пакой. Пасьля кароткай паузы правыя дзьверы адчыняюцца, уходзіць Сьцепан і кліче кагосьці з вуліцы.

### ЗЬЯВА І-ая.

**Гаспадыня** (за буфэтам), **Грышка** (за столікам направа), **Сьцепан**, пасьля **Міхалка.**

Сьцепан. Хадзі! яшчэ рана! Хадзі! кажу табе, што шкадаваць ні будзеш! Ну, дык-жа хадзі... на адну мінуту!... Выпьем сабе па бутэльцы піва ды пойдзем дамоу!.. Ты толькі паглядзі!..

Міхалка (уходзіць). Ні хочэцца мне ні піва, нічагусенькі! Замарыуся ужо: спаць хочэцца...

Сьцепан. Ды хадзі-ж, кажу, нінадоуга!... Пабачыш,—зьдзівуешся! (Да гаспадыні). Добры вечар, пані! (Да Міхалкі). Сядзем тутака, а? (Седаюць каля стала, што пасярэдзіне). Ну, што? выпьем?...

Міхалка. (слабовольна усьмехаючыся). Эх, што ты, далібог, са мной робіш! Галава ад учарашняго яшчэ ні у парадку, а мы сягоння пьем ды пьем...

Сьцепан. Нічога!... Апошні дзень, міленькі, а заутра—новае жыцце!...

Міхалка (як вышэй). Ах, ведаю я гэтае «новае жыцце»!..

Сьцепан. Заутра будзем цьвярозымі людзьмі, а сягоння трэба гэтае пьянство кончыць тутака—з Манькай... Эх, пабачыш, якая дзяучына! Ні дзяучына—кветка, васілек! (Да гаспадыні). Панічка! дайце тут нам... ведаеце?... маю порцыю!

Міхалка. Бачу, што цябе тут добра знаюць... Скуль-жа яна?

Сьцепан. Нідауна прыехала з вескі... Сьвежынькая, чырвонінькая—яблычко райскае! Наіуненькая, сінявокая—васілёчак, кажу табе! Калі гляджу на яе, здаецца мне, што чую гоман каласістаго жыта, пах палеу зяленых... Э, на што казаць многа!.. сам пабачыш! (Да гаспадыні). Дзе-ж Манечка?

Гаспадыня. Зара прыйдзе, піво гасьцям падае...

Міхалка. (сьмяецца). Ты паэт!

Сьцепан. Але... Далібог! Я ні гляджу на яе вокам мужчыны, а толькі вокам паэта...

Міхалка. (іронічна сьмяецца). Хэ-хэ-хэ!...

## ЗЬЯВА II-ая.

**Тыя-ж і Манька.**

Манька (уходзіць праз сярэдзіну. Ідзе да буфэту. Гаспадыня нешта там ей гаворыць. Яна бярэ бутэльку, чаркі, талеркі, каб падаць гэта на стол, гдзе сідзяць Сьцепан з Міхалкай).

Сьцепан (да Міхалкі). Далібог! Ні сьмейся! Табе мо, здаецца, што я цынік, а у мяне душа, як у навароджанаго дзіцяці... Далібог!

Міхалка (я. в.). Хэ-хэ-хэ! На што казаць пустое! Я ведаю, хто ты, ты ведаеш, хто я...

Сьцепан. Гэта так... Але я кажу табе зусім шчыра, што на Маньку я гляджу іначай чымсі на іншых дзяучат. Яна... мае у сабо нешта с Форнарыны... Рафаэль!.. памятаеш?—простая дачка якогась пекара, якаясь там Форнарыначка, а ен што зрабіу?! Ці есьць на сьвеці інтэлігэнт, каторы ні знау бы ліку Форнарыны?..

Манька (ставіць на іхні стол бутэльку, чаркі і т. д.).

Сьцепан А—вось і яна—наш цукерачак! Манечка даражэнькая..: (Да Міхалкі, трымаючы Маньку за руку). Што? прауду я казау?—Кветка! Вішанька! Цукерачак!..

Манька (засароміушыся, вырывае сваю руку). Ды кіньце!...

Міхалка (глядзіць на Маньку с цікавасьцю; яна яму спадабалася. З яго вуснау зрываецца толькі адзін зык): А—а—а!..

Манька (стаіць, апусьціушы вочы).

Сьцепан (глядзіць то на Маньку, то на Міхалку, быццым хочучы сказаць апошняму: «А? спадабалася?!» Пасля кароткай паузы, да Манькі). Ну, Манечка, гэта мой найлепшы прыяцель!. сядай з намі,—выпьем, пагутарым... Ведаеш, мы з Міхалкай сягоння пьем, як шаленыя...

Манька (ні глядзячы на іх). Ні трэба піць,—гэта брыда ..

Сьцепан (сьмяецца). «Ні трэба піць»?—ха-ха-ха! Ах, ты мая каханенькая—дурненькая!.. Ну, дык апошні дзень!.. І ты сядай, бо мы зрабілі пастанову, каб гэты дзень скончыць с табой... Эх!.. (пяе): Апошні сення пью дзянечак...

Манька. Цяцер ні магу,—я зара прыйду. (Ідзе да буфэту, бярэ нешта і нясе у другі пакой).

## ЗЬЯВА III.

**Тыя-ж без Манькі.**

Міхалка (гарачымі вачыма глядзіць у след Манькі).

Сьцепан. Ага! заглядзеуся! Што? а?—А ні хацеу іськці!.. Шкадуеш, што прыйшоу?

Міхалка. Пекная дзяучына!.. Скуль яна тутака? дауно?

Сьцепан. Пачакай, я табе усе разскажу, я ведаю... Яна сірата. Жыла на весцы у цеткі. Старшая сестра дауно ужо тут у аднэй піуной служыць. Вось цетка думае сабе: старшая у месьці, паненкай, у капялюшы ходзіць, жыцце хваліць, ну дык і гэтую павезьлі да места: хай паненкай будзе, на легкае жыцце ідзе... Эх, людзі!.. Яна-ж, бачыш, дзяучына вельмі яшчэ маладая і саромлівая. Ей і падабаецца гэтае іншае, новае, местовае жыцце і пужаець адначасна. Ей і весела тут, гдзе гэтулькі розных людзей што-дзень пераліваецца, і адначасна сумна аднэй, без душы блізкай, без заступніка, дзе кожны легка скрыудзіць можэ, дзе пьяная гутарка ні шкадуе саромлівых вушэй дзявочых—вось як!.. Ды ні яна першая і ні апошняя. Усе гэтак... А усе-ж шкада!...

Ну, усе роуна... (Клічэ): Манечка! Дзе ты?

## ЗЬЯВА IV.

**Тыя-ж і Манька.**

Манька (ідзе з другога пакою). Іду!

Сьцепан. Ну, вось яна... Ну, сядай з намі, мая даражэнькая-пекненькая, бо нам без цябе сумна.

Манька. Э, пан дык зауседы сьмяецца.

Сьцепан. Ні сьмяюся, далібог!.. Ну, сядай! Чаго выпьеш? Гарэлку будзеш піць, анелачак?

Манька. Фэ, я ні люблю гарэлкі. Хіба нешта салодкае...

Сьцепан. Салодкае? Добра. Зара будзе. (Ідзе да буфэту).

Міхалка. Як жа-ж панне Мані падабаецца тут?

Манька. Нічога...

Міхалка. Весяла? Гасьцей шмат?

Манька. Ні заусёды... Есць іншыя дэлікатныя, а іншыя натта прыстаюць.

Міхалка. Хэ-хэ! Прыстаюць, бо панна Маня пекная дзяучына...

Манька. І пан жартуе. Такая я, як і іншыя.

Грышка (ад ухода Манькі ні спускае з яе сваіх вачэй. Цяпер пачынае званіць шклянкай аб бутэльку).

Манька (да Міхалкі). Выбачайце, я ураз... (ідзе да Грышкі).

Грышка (хватае яе за руку). Я ні хачу, каб ты там сядзела, чуеш? Я хачу, каб ты тут, каля мяне, сядзела.

Манька (ціха). Яшчэ чаго!? Чаму-ж гэта? Гдзе захачу, там і сядзець буду.

Грышка (горача, ціха). Слухай, кінь, прашу цябе, ні сядзі там, бо у мяне аж у грудзях тут нешта лапочэ... Кажу табе...

Манька. Вось яшчэ якая хванабэрыя!... Што хачу, то і раблю! (Ворочаецца да століка Міхалкі).

Грышка (грозна ей у сьлед). Папамятаеш!!

Сьцепан (тагды, як Манька гутарыла з Грышкай, вярнууся да свайго століка). Ну, сядаймо і будзем піці, есьці, весяліцца!.. (Ставіць на стол новую бутэльку). Вось для цябе, Манечка, салодзенькае, а для нас хай будзе чара горкая, каторую выпьем сягоння да дна.

Міхалка (усьміхаючыся). А заутра «новае жыцце».

Сьцепан. Але!.. Новае жыцце! Ну, дык чаркі у рукі! (пяе).

Чаркі налівай, дружна выпівай,
Усей, браты, душою весяліся!
Чаркі выпівай, тады вось будзе рай,
Тады увесь сьвет гульні нашай дзівіся.
Дзяучына і віно для шчасьця нам дано,
А калі песьня душу весяліць нам,—
Аб смутках забывай, тады сьвет будзе рай,
І шчасьліу ты, як у раю быу Адам!

(У часі гэтай песьні з другога покою высоувываецца Лекдугна; за ім цісьнецца, пакорна усьміхаючыся, Галубоускі і начынае акампаньяваць на гармоніцы. Усе хорам сьпеваюць: Чаркі налівай і т. д. Іншыя госьці глядзяць праз дзьверы).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Тыя-ж, Лекдугна і Галубоускі.**

Лекдугна (пьяны). А, і ты, Міхалка, прыйшоу да нас?! Паніч! Хэ-хэ! Чысьценькі паніч заглянуу у наш брудны шынок!..

Міхалка Дык вось Сьцепан мяне прыцягнуу...

Лекдугна. Але... але. Мы, бядота, мы у вялікія чыстыя рэстараны ні ходзім... Нам вось тут добра! А ты—пан! Чысьценькі паніч! Хэ-хэ!

Сьцепан. Ну, Лекдугна, кінь сварыцца! Вось лепш сядай з намі!.. Ты с кім сядзіш?

Лекдугна. Я? я сяджу адзін... Не! я сяджу з маім прыяцелям! (Абыймае Галубоускаго, каторы дурна усьміхаецца). Вось гэта мой друг найлепшы! гэта эхо душы маей! Ен іграе, а я... я пью, бо пьянство гэта... так сама музыка, а я—віртуоз!

Сьцепан (бярэ чарку). Ну, Сарасатэ пьянства! па чарачцы!

Лекдугна (сядае). Ну, што-ж, можна! Давай!

(Усе пьюць).

Галубоускі (ніськмела, стоючы за крэслам Лекдугны, цягне на гармоніцы мінорны тон).

Лекдугна (да Галубоускаго). А, і ты хочэш выпіць?.. Ідзі, прынясі маю бутэльку!

Галубоускі (ідзе у другі пакой).

Лекдугна. Ен, як хочэ выпіць, ніколі ні скажэ, а толькі бярэ гэты тон... Мы разумеем адзін аднаго.

Галубоускі (варочаецца з бутэлькай).

Лекдугна. Ну, бяры крэсло і сядай вось тут, каля мяне... Пі!

Галубоускі (цягне па гармоніцы іншы акорд).

Лекдугна. А, і закусіць хочэш, маэстро? Бяры, што хочэш, ні рабі цэрамоніі... Мае прыяцелі павінны быць прыяцелямі і майго прыяцеля...

Міхалка (да Манькі). Ну, яшчэ чарачку!

Манька (трохі ужо пьяная). Калі ужо галава круціцца.

Міхалка. Э, ніхай сабе круціцца! На тое чалавек і пье каб галава закруцілася... Ну, яшчэ!.. (налівае).

Манька. Калі я ужо пьяная,—с крэсла звалюся—ха-ха-ха!

Міхалка. Ні звалішся, бо вазьму як птушачку на рукі, (абыймае яе) пасаджу сабе на калены, прытулю да сябе, закалышу... (Другой рукой бярэ чарку). Ну, брат!.. (Дэклямуе).

Груканем, стуканем, чарка у чарку, як сьлед,
Бач і стане душа паланеці агнем;

Весялей і сьмялей глянуць вочы на сьвет,
Весялей і сьмялей пойдзе усе хадуном!*)

Манька. Ах, як певна! Яшчэ!
Сьцепан. Браво! Дэклямуй, Міхась!
Лекдугна. Задэклямуй!.. (разам).

Міхалка. Не, лепш засьпеваем! (Да гаспадыні, паказываючы бутэльку). Пані гаспадыня! яшчэ!

Сьцепан. (Сьмяецца). Бач, як разыйшоуся! А ні хацеу ісьці!

Міхалка. Апошні дзень!

Сьцепан (я. в.). А заутра новае жыцце?..

Манька (пьяная). I я буду піць!

(Усе сьмяюцца).

Сьцепан і Лекдугна. Браво!

Міхалка. Ну, калі так... (Аднэй рукой абыймае Маньку, а другой трымае чарку і пяе; іншыя за ім у сьлед).

Чаркі налівай, дружна выпівай,
I усей, браты, душою весяліся...

Галубоускі (хапае гармоніку і пачынае іграць).

Грышка (стукае шклянкай аб бутэльку).

Манька (махінальна зрываецца з мейсца).

Міхалка (затрымлівае яе). Ні трэба, сядзі! Гаспадыня падасьць... а то ніхай сам возьме, што яму трэба.

Грышка (стукае далей і крычыць). Манька!

(Усе парушыліся ніздаволеныя).

Сьцепан. Што гэта?!

Міхалка. Гэй, каму «Манька», а табе ні «Манька»... Ты чаго там крычыш?

Грышка. Ну, ну! Ні настауляйся так, бо ні напужаеш!... Манька! ідзі сюды!

Манька (да Міхалкі). Бараніце мяне!

Міхалка. Ні бойся, Манечка! (Да Грышкі). Эй, ідзі лепш вон адсюль, бо дачэкаешся!..

Грышка. Ні напужаеш! Ні такіх бачылі... Што вас многа, а я адзін... Нічога... Скаціна!

Міхалка (ускочыушы с крэсла). Што?! Як ты сьмееш, падлец! Вон!! (ударае Грышку па твару).

Манька (стараецца супакоіць Міхалку). Ні трэба!... Кіньце гэта!..

Сьцепан (хапае крэсло).

Лекдугна (хапае бутэльку).

Грышка. Ах, ты!! (Выцягівае с халявы нож, ударае Міхалку і хутка выбегае).

---

*) Верш Я. Купалы.

Манька (крыкнула, хацела бараніць Міхалку, ды ужо было позна).

Сьцепан. Дзе ен! стой!... } (разам).
Лекдугна. Стой! трымай яго!.. }

## ЗЬЯВА VI.

**Тыя-ж** без **Грышкі.**

Гаспадыня (стараецца усіх супакоіць). Паночкі даражэнькія! Ні рабіце скандалу!.. Паночкі! ні губіце мяне! Як прыйдзе паліція—-зачынюць мой рэстаран!.. Паночкі! ні губіце мяне,—у мяне дзеткі малыя...

Галубоускі (зачыняе дзьверы).

Міхалка (сядзіць на крэсьлі, трымаючыся за левую руку).

Сьцепан. А, падла! уцек! (да Міхалкі). Што? ен цябе ударыу? пакажы! хутка!

Міхалка. Нічога... Здаецца, глупство...

Сьцепан. Пакажы! пакажы!

Манька. Ах, трэба прылажыць што-колечы, перавязаць...

Сьцепан (сьцягівае з Міхалкі марынарку. Міхалка ранены у левую руку).

Манька. Ах, Божэнька ты мой! Гэта я усяму вінавата! Каб я пайшла, як ен мяне клікау, дык і ні было-б усяго гэтаго! .. Божэнька Ты мой!...

Сьцепан. (да Гаспадыні). Пані гаспадыня! Чыстай вады! Хто мае чыстую хустачку?

(Ідзе з Міхалкай у другі пакой; за імі Лекдугна і Гаспадыня).

Гаспадыня (выходзючы). Трэба-ж на маю галаву такога нішчасьця!...

Манька (выходзіць з усімі).

## ЗЬЯВА VII.

**Галубоускі** (адзін).

Галубоускі (астаушыся адзін на сцэне, падыходзіць да століка, гдзе сядзеу Грышка, і выпівае астаушаеся у бутэльцы піво.

Пасьля варочаецца да столу пасярэдзіне сцэны і пачынае яго апаражняць).

## ЗЬЯВА VIII.

**Галубоускі і гаспадыня.**

Гаспадыня (уходзіць). Галубоускі ізноу хочэ напіцца пьяны, як учора!.. Хай Галубоускі зачыняе ваконніцы, позна ужо!.. (выходзіць праз дзьверы налева).

Галубоускі (выходзіць праз дзьверы управа).

## ЗЬЯВА IX.

**Манька** і **Міхалка** (уходзяць).

Міхалка (апранаецца у пакінутую на сцэне марынарку).

Манька. Вельмі баліць?

Міхалка. Э, глупство!... Зусім ні баліць.

Манька. Ні прауда. Вы толькі так кажыце.

Міхалка. Ды німа аб чым казаць.

Манька. Усяму... гэтаму... мая віна... (пачынае плакаць).

Міхалка. Дзетачка! супакойся! Што ты?! Кінь плакаць. Ды я для цябе ні толькі руку-бы пад нож падставіу, а з галавой у агонь кінууся-б.

Манька (усьміхаючыся праз сьлезы). Ці прауда?

Міхалка (абыймае яе). Манечка даражэнькая! птушачка беленькая! я-ж люблю цябе! (Хочэ яе пацалаваць).

Манька (легка баронючыся). Ці-ж гэта прауда? Вы-ж толькі сягоння, нідауна, мяне спазналі...

Міхалка. Манечка! Каб закахацца, ні трэба, як кажуць, зьесьці супольна бочкі солі... Іншы раз хопіць аднэй мінуты... Адзін момэнт кароценькі, адзін зірк вокам—і сэрцо зашчэміць... аж затрасешся, аж мурашкі прабягуць па сьпіне!..

С першаго таго момэнту, як я цябе пабачыу... як ты прыйшла тут да нашаго століка, мяне нешта кальнуло у сэрцо... Адразу я пачуу да цябе дзіуную сымпатыю...

Манька. І я так сама.

Міхалка. (з радасьцю). Прауда?! О, Манечка! вось бачыш—значыцца нам так суджано... Мая салодзенькая, каточак мой! (абыймае яе і цалуе).

## ЗЬЯВА X.

**Тыя-ж, Сьцепан, Лекдугна** (уходзяць), **пасля Гаспадыня** і **Галубоускі.**

Сьцепан. О, браво! наш рыцар часу ні траціць! Зара пасьля турвіру дастае награду ад дамы свайго сэрца!

Міхалка. Ідзі да чорта!

Лекдугна. Ну, дзеля гэтаго варта яшчэ выпіць... (Клічэ): Галубоускі!

Гаспадыня (уходзіць). Паночкі! ужо позна! ужо зачынено!

Галубоускі (уходзіць, бярэ гармонік і сядае у куце).

Сьцепан. Зачынено? Добра! Ніхай будзе зачынено!.. Галубоускі! Ці добра зачыніу дзьверы і вакеніцы?—а мы прасядзім тут да раніцы!

Лекдугна. Браво! Да раніцы!

Сьцепан (да Міхалкі, усьміхаючыся). А заутра, Міхалка, як?.. што?.. Пачынаем новае жыцце?

Міхалка (паважна). Я сягоння ужо пачау новае жыцце! (Абыймае Маньку). Хадзі, Манечка!

Сьцепан. Добра! Віна давай!.. Хай жыве наша Маня і—«новае жыцце»!

Галубоускі (пачыне іграць і пеяць).

Яна грошы ні узяла, ні узяла, ні узяла,
А па збанку плакала, а па збанку плакала...

**(Заслона хутка зачыняецца).**

# АКТ II.

Дэкорація тая самая. Закусак і бутэляк на буфэці німашака. На століках ніпарадак. Рэч дзеецца на другі дзень раніцай. Каля буфэту с правай стараны сьпіць Галубоускі, акрыушыся марынаркай, пад галаву падлажыушы гармонік, а пад бок дыванік.

На сцэне цемра, бо вакеніцы зачынены.

## ЗЬЯВА I.

### Галубоускі і Манька.

Манька (уходзіць праз сярэдзіну). Пан Галубоускі! а, пан Галубоускі! Уставайце, бо ужо позна.

Галубоускі (ускаківае). А? хто прыйшоу?.. позна, кажыце. (Пазевае і працягіваецца). Ааа!.. ой, бакі баляць!..

Манька. А я ні раз казала: чаму ні возьмеце са складзіку выкінуты там сяннік? Можна яго палатаць і зусім добра было-б спаць. А то вы на падлозе, як сабака.

Галубоускі (скрабецца). Усе роуна! Як сабака жыву, як сабака памру!.. Усе роуна!

Манька. Адчыніце, пан Галубоускі, вакеніцы! Ужо трэба рабіць парадак.

Галубоускі (ідзе у правыя дзьверы і хутка ворочаецца. На сцэне робіцца сьветла).

Манька. Чаму гэта вы, пан Галубоускі, зауседы махаеце рукой і кажыце: усе роуна! Ні «усе роуна», бо кожны стараецца, каб яму ляпей было. Вось толькі вы...

Галубоускі. Сьмерць ідзе! Чую: сьмерць ідзе!.. Ужо хутка... На што-ж мне лепшае? Усе роуна: скрыня з дошчак, сіроцкія могілкі— згнію, як падла!

Манька. Ды яшчэ ні памрэце!

Галубоускі. Памру! (Паказывае рукой пад горлам). Тут душыць... ведаю... Мой бацька так сама: тут здушыло—памер...

Манька. Пан Галубоускі! Ці гэта прауда, што людзі кажуць: што вы маеце жонку?

Галубоускі. Маю сьцерву.

Манька. Чаму-ж вы з ей ні жывеце?

Галубоускі. Выгнала мяне, падла.

Манька. Выгнала? Чаму?

Галубоускі. Як піць пачау—выгнала. З іншым зыйшлася, каб яе немач!

Манька. Кажуць, вы службу нейкую мелі, чыноунікам былі?

Галубоускі. У канцэлярыі пісау, трыццаць рублеу брау. Добра жылося, пакуль ні піу.

Манька. Ах, Божэнька! як гэта людзі самі сабе жыцце загубляюць!.. (Хочэ выліць вон застаушуюся у чарках гарэлку).

Галубоускі (хапае яе за руку). Што вы робіце! ні вылівайце! Панна Манечка! як астанецца пасьля гасьцей—мне адлівайце... (адлівае астаткі у шклянку і выпівае).

Манька. Ні трэба, ні трэба, ні пійце!

Галубоускі. Трэба, трэба, панна Маня, трэба, ні кажыце.

Манька. Ды скажэце, па што вы так многа пьіце?

Галубоускі. Чорт ведае... вось пью... Здаецца, што лепш на душы будзе, а усе роуна дрэнна.

Манька. Вось верніцеся да жонкі...

Галубоускі. Ні пускае, падла! з іншым жыве.

Манька. Кіньце піць, пашукайце службы...

Галубоускі. Позна ужо. Тут душыць. Усе роуна: гроб, сіроцкі могілкі... памру, як сабака.

## ЗЬЯВА II.

**Тыя-ж** і **Юлька** (уходзіць).

Юлька (апранута с „шыкам“ кэльнэркі: капялюш с кветкамі, коляровая блюзачка і г. п.). Як маешся, Манька! Ішла я міма і зайшла тутака да цябе, паглядзець, як жывеш. Здаволена? (Сядае).

Манька. Нічога...

Юлька. Папірос ні маеш? я забылася купіць.

Манька. Гаспадыня зачыняе.

Галубоускі (дастае с кішэні папіросу і падае Юльцы).

Юлька (да Галубоускаго). Ну, што я буду голаго абдзіраць!.. На, маеш грошы (дае яму рубель), купі мне пачку папірос, тэгды мае закурыш.

Галубоускі (бярэ грошы, шапку і выходзіць).

## ЗЬЯВА III.

**Манька** і **Юлька**.

Юлька. Ну, як тут ідзе? Гасьцей шмат?

Манька. Нічога, Юлячка!... Ах, учора вось дык была авантура!.. Сядзеу тут вось гэты, ведаеш, што да мяне прычапіуся..,

Юлька. Грышка?

Манька. Але, але... А сюды прыйшлі нейкія іншыя госьці, дэлікатныя такія, хараша апрапутыя... Я сядзела з імі... А ен усё: ні сядзі, ні сядзі!.. значыць, каб я пайшла да ягонаго століка. А я ні пайшла. Вось ен зрабіу скандал. Яны пасварыліся і гэты чорнамазы разрэзау нажом руку пану Міхалу.

Юлька. Хто-ж гэта пан Міхал?

Манька. А гэта адзін с тых, с каторымі я сядзела.

Юлька. Хто-ж яны?

Манька. А, здаецца, студэнты ці што. Маладыя, пекныя, чыстыя...

Юлька. Дурная, дрэнна ты зрабіла.

Манька. Чаму?

Юлька. Ну, дык што, што маладыя, пекныя?... Ахвота сядзець з нейкімі студэнтамі! Як будзеш такая дурная, то нічога з гэтаго ні будзе... Вось Стэпка мела розум і жыве цяпер, як пані, Юзя так сама знайшла сабе якогась—і шмат іншых!.. А ты нават пякнейшая ад іх і так сама магла-б зрабіць кар'еру, каб захацела... Я табе добра раю, я—сестра твая...

## ЗЬЯВА IV.

### Тыя-ж і Галубоускі.

Галубоускі (варочаецца і дае Юльцы папіросы і грошы).

Юлька (да Галубоускаго). На, маеш папіросіну, а рэшту (дае назад Галубоускаму грошы) бяры сабе на апахмялку і ідзі адсюль, каточак Галубоускі, бо нам трэба пагутарыць.

Галубоускі. Дзякую. (Цалуе Юльку у руку і ідзе у правыя дзьверы].

## ЗЬЯВА V.

### Тыя-ж без Галубоускаго.

Манька. Дык што-ж мне рабіць?

Юлька. Я-ж кажу: ахвота табе задавацца з голымі студэнтамі, калі цябе клікау Грышка!

Манька. Хто ен?

Юлька. Ну, той самы... А чым ен займаецца?—а Бог яго ведае! кажуць, у карты іграе, шулер ці што... Ведаю толькі, што мае грошы; а гэта—грунт!.. А ты яму надта спадабалася!

Манька. Ен мне казау гэта...

Юлька. Ну, вось... А што-ж ты на гэта?..

Манька. Калі ен мне ні падабаецца—нейкі страшны ен...

Юлька. Дурная! Чаго табе?... Калі ен закахаушыся, дык ты павінна за нос вадзіць яго, трэба толькі умець з мужчынамі...

Вось скажу табе прауду: ен прыслау мяне сюды, каб я пагаварыла с табой, даведалася, ці ты гневаешся на яго за учарашняе [дастае с торбачкі грошы] і вось прысылае табе дзесяць рублеу на блюзку...

Манька. Ні хочу ягоных грошы, ні трэбэ!

Юлька. Дурная! чаму?

Манька. Бо ен мне ні падабаецца.. Жулік!

Юлька. Ну, вось табе маеш!.. Эх, ты дурная, Манька! Што-ж ты думаеш, што лепшаго знойдзеш? Ні кожная гэтакае шчасьце мае, як Степка або Юзя... Ну, на! бяры!.. [Манька ні бярэ грошы]. Ну, як хочэш! Глядзі, каб ні шкадавала!.. Ну, і думаеш далей задавацца с сваімі студэнтамі?

Манька. Я нічога ні ведаю... [Пауза]. Пан Міхал мне вельмі спадабауся...

Юлька. Які пан Міхал?

Манька. Дык вось той, што учора... Ен такі... да іншых ні падобны, дэлікатны такі...

Юлька. Эх, з гэтых знаемасьцяу дабра ні будзе!...

Манька. Мне нічога ні трэба. [Ідзе да вакна].

Юлька. Як, ні трэба!? А блюзку купіць трэба? а боцікі купіць трэба? а капялюш купіць трэба? Хіба-ж ні зауседы будзеш хадзіць абарваная, у хустачцы, як цяпер! А с пяці рублеу, каторыя плоціць табе у месяц гаспадыня, усяго гэтаго ні зробіш.

Манька. [ні слухае яе і глядзіць у вакно].

Юлька [ізноу дае ей грошы]. На, маеш, бяры, а то пасьля пашкадуеш!

Манька (гледзючы праз вакно). О! ен ідзе! Глянь—гэта ен!

Юлька. Хто такі?

Манька. Міхась... Вось сюды... Здаецца, сюды ідзе!...

Юлька. Здурэла!.. Эх, дурная, дурная! Калі ты набярэшся розуму?! [Устае]. Ну, я іду ужо, а ты добра падумай аб тым, што я казала... Бывай здарова! [Выходзіць].

## ЗЬЯВА VI.

**Манька** [адна].

Манька (астаушыся адна, адчыняе вакно і гаворэ за сцэну). Дзень добры!.. Што?.. Не, нікагусенькі!.. Чаму-ж не, толькі у нас яшчэ усе зачынено, бо гаспадыня сьпіць... Добра!.. (Злазе з вакна і бяжыць да дзьвярэй).

## ЗЬЯВА VII.

**Манька, Міхалка**, пасьля **Галубоускі**.

Міхалка (уходзіць з нейкімі пачкамі-торбачкамі). Дзень добры, Манечка!

Манька. Добры дзень, пан Міхал!

Міхалка. А? ізноу: пан Міхал?.. Забылася?

Манька. Калі неяк так... сорамна казаць.

Міхалка. Ну, Манечка, ні сорамна!.. Кажы: Міхась, Міхалка,—як хочэш, толькі ні «пан Міхал»...

Манька. Міхась... калі далібог ні магу...

Міхалка. Ну вось сказала «Міхась»—і добра! А учора ты мне казала: Міхась,—і ні саромілася...

Манька. Бо учора я... (сароміцца) была пьяная... Фу!...—(Паказываючы на прынесенныя Міхалкай пачкі). Што гэта пан Міхал...

Міхалка. Што?!

Манька (папрауляецца). Што гэта Міхась прынес?

Міхалка. А вось зара пабачым... (Разьвязывае торбачкі). Вось гэта яблыкі, а тут вось цясткі, а гэта цукеркі...

Манька. На што гэта?

Міхалка. Будзем есьці.

Манька. Ні трэба было... Шкада грошы...

Міхалка. Пустое... Маеш, бяры, Манечка!

Манька (бярэ цястко і есьць). Гэта мусіць шмат каштавало?

Міхалка. Глупство...—Ведаеш што, Манечка: ці ні знойдзецца у вас гарбаты?

Манька. Есьць. У гаспадыні у пакою кіпіць самавар...

Міхалка (затрымлівае яе). Цс!... ні хачу, каб гаспадыня...

Манька. Нічога... Яна яшчэ сьпіць. (Ідзе у дзьверы налева).

Міхалка (астаушыся азін, бярэ з буфэту пустыя талеркі, старанна раскладывае на іх свой трактамэнт і ставіць на стале).

Манька (варочаецца з 2-ма шклянкамі гарбаты). Як бачу, то пан Міхал ласун.

Міхалка. Ласун,—толькі ні «пан Міхал», а я—Міхаська.

Манька. Ну... Міхась... (Пьюць гарбату і закусываюць).

Міхалка. Як гэта чалавек ніколі ні згадае, дзе яго шчасьце!—Калі учора цягнуу мяне сюды Сьцепан, я ні хацеу ісьці, думау ужо пайсьці дамоу спаць... А вось, што суджэно, таго ні мінаваць!—Прыйшоу сюды, пабачыу цябе, пазнауся с табой, закахауся...

Манька (ні веручы). Ну, так адразу і закахауся!

Міхалка. Вер мне, Манечка, што так! Я ад учора... ды не!—я ад сягонняшней начы як дурны. Я сягоння ні спау. Я пайшоу за

место, у лес. Я хадзіу і думау, што гэта са мной робіцца?.. Я усе думау аб табе... Я ні мог дачэкацца той часіны, калі ізноу цябе пабачу. Нарэшці я прыйшоу сюда, пад гэты вокны. Гляджу: ваконніцы адчынены. Вось, думаю, добра!...
Манечка! а ты ці думала аба мне хоць трошачкі? (Абыймае яе).

Манька. Думала. Я цябе сьніла.

Міхалка. Сьніла? як? скажы!

Манька (саромліва сьмяецца). Ні скажу... Ні магу...

Міхалка. Ах ты, даражэнькая мая Манечка!...—Але чаму-ж ты нічога ні ясі?

Манька. А ты? Вось маеш гэты кавалачак... смачны... (Дае яму цястко].

Міхалка. Не, ні так!.. Калі смачны, ніхай будзе яшчэ смачнейшы! (Дае ей цястко у зубы). Вось гэтак, бяры у зубкі, трымай... (Нахіляецца над ей и адгрызае з ей вусн поу цястка). Вось так... (Ядуць, сьмяюцца, цалуюцца).

Манька. Я цябе буду карміць, бо бачу, што ты ні хочаш нічога есьці.

Міхалка. Добра, так як раней... Хадзі, сядай, птушачка, на маі калены!.. (Саджае яе сабе на калены).

Галубоускі (уходзіць. Пабачыушы у чым справа, закашляу, адвярнууся, каб ні глядзець, падняу с падлогі гармоніку і пайшоу у сярэднія дзьверы).

Манька (засароміушыся). Пабачыу?

Міхалка. Нічога! Ен у сваім жыцці ні гэткія рэчы бачыу!

Манька (прыпомніушы). А!.. а я забылася зусім: як-жа рука? баліць?

Міхалка. Глупство... Трошачкі...

Манька. Можэ трэба перавязаць... Дай, я перавяжу.

Міхалка. Не, ні трэба, Добра будзе.

Манька. Ах, як я учора страшэнна спалохалася! Такі разбойнік!.. Каб трапіу у сэрцо, дык мог-бы забіць на сьмерць!

Міхалка. А табе было-б шкада?

Манька. Ведама! Яшчэ пытаецца!

Міхалка. Птушачка мая даражэнькая! (Туліць яе да сябе).

## ЗЬЯВА VIII.

**Тыя-ж і 2 госьці (уходзяць).**

1 госьць (да Манькі). Што, яшчэ нічога німа?

Манька (падбегае да дзьвярэй налева). Пані гаспадыня, а пані гаспадыня! Госьці прыйшлі! Трэба адчыняць буфэт!

Міхалка (падыходзіць да Манькі). Я пад вечар прыду. Бывай здарова, Манечка!

Манька. Прыдзі!

Міхалка. Прыду. (Выходзіць).

## ЗЬЯВА IX.

**Манька, гаспадыня, госьці, Галубоускі.**

Гаспадыня (уходзіць с ключамі у руцэ). Можэ паночкі пойдзеце у гэты пакой (паказывае на сярэднія дзьверы), бо тут яшчэ ні прыбрана. (Адчыняе буфэт).

Госьці. Добра. (Ідуць у другі пакой).

Галубоускі (спатыкае іх у дзьверах другога пакою). Дзень добры, паночкі! Паночкі сягоння раненька!

1 госьць. Як маешся, стары пьяніца! (Ідуць за сцэну).

Гаспадыня (ідзе за імі). Во, сядайце там, паночкі! Зара усе будзе пададзено.

## ЗЬЯВА X.

**Манька**, пасьля **Грышка**.

Манька (астаушыся на сцэне адна, ізноу начынае мыць шклянкі, выціраць талеркі і т. п.).

Грышка (уходзіць пасьля паузы. Манька яго ні бачыць).

Грышка. Маня!

Манька (спалохаушыся). Ах!

Грышка (падыходзіць бліжэй да яе). Маня! Гневаешся?

Манька. Чаго прыйшоу, разбойнік? Чаго ад мяне хочэш? Вон!

Грышка. Вон?! Не, брат, тут кожны мае права зайсьці: так сама я, як гэтыя (паказывае на другі пакой), як і гэты твой паніч—як усе. Кожны пан за свае грошы.

Манька. Вон! Чаго прыстау ты да мяне?

Грышка. Чаго прыстау? Ты добра ведаеш, чаго прыстау... Чаму ты цяпер ні такая, як раней была?... Памятаеш, калісь, як я цябе толькі спазнау? Тады ты інакш са мной гаварыла! Ты раз нават казала, што любіш мяне, памятаеш?

Манька. Адчаліся!.. Я тады сама ні ведала, што казала. Я тады црыехала з вескі,—я была як адурэушы...

Грышка. Як адурэушы?—Не! гэта ты цяпер, бытцым адурэушы. (Зло сьмяецца). Хэ-хэ! Спадабауся табе гэты... гэты студэнт! Я яму

раз ужо задау. Пачакай жа-ж! як ен ад цябе ні адчэпіцца, то галаву яму скручу!.. студэнт!..

Манька. О, не! Раней я на цябе у паліцыю данясу, раней ты у турме згніеш!..

Грышка. Данясеш? (Падыходзіць блізка да яе і раптам хапае яе за руку). Данясеш?! Папрабуй, ты гадзіна!

Манька (вырывае руку). Ай! пусьці!

Грышка (іншым тонам). Маня! Скажы, чаго табе трэба? чаго ты шукаеш? Маня! ты думаеш, што я благі чалавек, што я зауседы такі звар'яцеушы? Не! Гэта толькі цяпер, бо я страшэнна люблю цябе, мая Манька!..

А табе спадабауся гэты зломак, гэты... гэты... каб яго паляруш!..

Маня! Чаму ты мяне ні любіш? Маня! чаго ты хочэш? Скажы адно слово і я цябе вазьму адсюль, будзеш паняй, выедзем з гэтаго места...

Слухай: сягоння мне ужо трэба ехаць. Хочэш ехаць са мной? Паедзем!... Хочэш грошы? Маеш!—вось грошы!... Колькі хочэш, бяры!.. (З гэтымі словамі выцягівае с кішані тоусты партфэль і выкідае з яго на стол грошы).

Манька. Ні трэба мне тваіх паганых грошы!

Грышка. Манька! Чаму ты мяне ні любіш?

Манька. Бо ты хам, разбойнік!... Я-б можэ калісь цябе і палюбіла, але ты памятаеш, як тады, на другі дзень ты у цемным складзіку спаймау мяне і там... ты прычапіуся да мяне... памятаеш?.. Я тады пачала крычаць...

Грышка. Маня! Даруй! выбач!... бо я цябе люблю страшэнна!.. Ну, ні гневайся ужо за гэта... (Падходзіць да яе і хочэ яе абняць).

Манька (адпіхае яго). Ідзі вон!

Грышка (іншым тонам, са злосьцю). Вось як! Значыцца, с табой трэба дэлікатна, як той—гэты студэнт! Ах, ты... паненка! Хэ-хэ-хэ!... Ну, пачакай жа-ж! Мо' пашкадуеш! Мо' прыйдзе час—пабачымся, мо' у ног маіх валяцца будзеш, рукі цалаваць будзеш, каб рубля дау, каб дау табе хоць залатоуку,—як суку брыкну і адганю проч ад сябе, як ты цяпер мяне гоніш!... (Зьбірае параскіданыя на стале грошы і хавае ізноу у портфэль).

Каб цябе усе пакінулі, каб цябе радня твая адрэклася, каб цябе сточыла найгоршая хвароба, як ты сэрцо мае точыш,—шэльма ты!!..

Я цяпер іду—і болей ужо ні вярнуся! Мо' зловяць мяне, мо' сам галаву у пятлю усаджу,.. Ды ведай адно: калі жыу буду, то табе гэтаго ні дарую! калі-ж сабакі косьці мае па сьвеці разьнясуць,—хай сам чорт помсту на цябе выдумае! (Выбегае).

## ЗЬЯВА XI.

**Манька**, пасля **гаспадыня** (за сцэнай).

Манька (стаіць як ніпрытомная, глядзіць уперад). О, Божэ мой!.. за што? за што?!

Гаспадыня (клічэ за сцэнай). Манька! што ты заснула там, ці што? Ідзі сюды, Манька!

Манька (уздрыгнула, працірае вочы, як пасьля сну). Іду ужо, іду!.. (Бяжыць у сярэдзіну).

---

**(Заслона).**

## АКТ III.

---

Рэч дзеяцца пару месяцау пасьля. Дэкорацыя тая-ж самая. Вечар. Лямпы запалены. **Гаспадыня** дрэмле на крэсьлі за буфэтам. **Манька** сядзіць з другой стараны буфэту і нешта шые. **Лекдугна** і **Галубоускі** сідзяць і пьюць.

### ЗЬЯВА I.

**Гаспадыня, Манька, Лекдугна і Галубоускі.**

Лекдугна (пьяны). Пі, Галубоускі!

Галубоускі (ікае). Нне... магу!..

Лекдугна. Ты, Галубоускі, мастак, ты—артыст. У цябе душа ні такая, як у іншых людзей, у цябе душа, як гарфа Эольская. Легінькі дмух ветра, кожнае дрыгненне чалавечага сэрца адзываюцца на струнах душы тваей, Галубоускі! Ты, Галубоускі, павінен пісаць, ты напішэш вялікую рэч! Увесь сьвет пахіліць голавы перад табой, Галубоускі!.. І чаму ты ні пішэш, Галубоускі?

Галубоускі. Я пісау. У канцэлярыі пісау. 30 рублеу брау. Піць пачау. С канцэлярыі выгналі... і жонка выгнала...

Лекдугна. А вось: жонка, Галубоускі! Што жонка, Галубоускі? Для такіх людзей, як ты і я, німа жонкі, Галубоускі! Ты, Галубоускі, павінен ісьці праз жыцце, як праз усеяную кветкамі сенажаць... Сарвау кветку, катора да спадобы—і далей ідзі... Сарвау кветку—і далей ідзі!.. А жонка?—Адна есьць жонка для такіх людзей, як ты і я, Галубоускі,—гэта мастацтво, штукарство—вось твая жонка, Галубоускі!

Галубоускі. Была адна, і тая прагнала, з іншым зыйшлася. Цяпер намауляе хэуру, каб мяне с таго сьвету згладзіць, каб, значыць, замуж магла пайсьці... Але я ні дамся...

Лекдугна. Кінь, Галубоускі, аб гэтай бабе!.. Ні дамся!—вось наш кліч! Але, але, ні даймося!.. Усе крычаць, паказваюць пальцамі: вось пьяніца! пьяніца! Дык што, што пьяніца? Якое вы маеце права крычаць: пьяніца? Што вас многа цьвярозых, а я адзін пьяны?.. А ведаеш ты, Галубоускі, што значыць: адзін?.. Ібсэн добра сказау: найдужэйшы той, хто адзін... Вось як!.. Дык што, што крычаць?—Ніхай крычаць, бьюць, хай душаць нават, а ты—адзін!..

Галубоускі. Дауно ужо душыць... тут душыць... паміраць трэба...

Лекдугна. Паміраць?.. Хэ-хэ!.. паміраць?! што—сьмерць? Глупство! Ты, Галубоускі, безсьмяротны! Толькі ты павінен пісаць... Пішы, Галубоускі! [бярэ чарку]. Пі, Галубоускі!

Манька. Ці пан Лекдугна ні бачыу сягоння Міхася?

Лекдугна. Э? (жартуючы сьпевае): Як толькі бачу- сьвет...

Манька. Я ні жартую! Бачылі, ці не?

Лекдугна. Не, ні бачыу, Манечка!

Манька. Ці гэта прауда, што я чула: што яму ужо трэба ехаць на унівэрсытэт?

Лекдугна. О, дауно ужо пара, толькі наш брат ні натта любіць сьпешацца: пасьпяшыш—людзей пасьмяшыш! А ці-ж ен нічога яшчэ ні казау, што у канцы гэтаго тыдня паедзе?

Манька (спалохаушыся). У канцы тыдня?

Лекдугна. Нічога ні казау? Хм, дзіуна! (Падыходзіць да яе). А што? Сумнінька будзе без Міхася? Іншыя пацешаць... (Хочэ яе обняць).

Манька (адпіхаючы яго). Што вы робіце! Кіньце!

Лекдугна. Чаму? Галубоускі Міхасю ні скажэ, а гаспадыня сьпіць...

Манька (я. в.). Дык што?! А я ні хачу!

Лекдугна. Ні хочэш—як сабе хочэш!.. Ты думаеш, што Міхась так сама табе верны, як ты яму?

Манька. Я ведаю...

Лекдугна. Нічога ты ні ведаеш, зязюлечка! (Хочэ пагладзіць яе пад бараду).

Манька. Што вы?! пан Лекдугна!

## ЗЬЯВА II.

**Тыя-ж, Міхалка, Сьцепан і 2 інш. госьці.**

Сьцепан (увайшоу першы і пабачыу гэст Лекдугны). А, Лекдугначка! што я бачу! Ты хіба памыліуся! Табе, мусіць, здавалося, што Манечка—муза олімпійская!... (Да гаспадыні): Добры вечар, пані гаспадыня!

Гаспадыня (прачнуушыся). Добры вечар... Добры вечар...

Сьцепан. Хадзеце, хлопцы у гэты пакой, там спакайней будзе! (Ідуць у сярэдзіну, за імі Міхалка).

Лекдугна (затрымліве Міхалку). Ты, крый Божэ, ні думай, што я... Я так... толькі жартам, бо я трохі ужо... Я цябе перапрашаю...

Міхалка. Што ты!.. Глупство! ды мне усе роуна!

Лекдугна (зьдзівіушыся). Усе роуна?!

Міхалка. Але. Ну, пойдзем да іх! (Выходзяць у сярэдзіну).

## ЗЬЯВА III.

**Гаспадыня** і **Галубоускі** (сьпіць на крэслі).

Гаспадыня. Я ужо колькі разоу казала Галубоускаму, каб так ні напіваўся! Ізноу пьяны! Сабраліся госьці, а ен сядзіць, налізаушыся, як шавец!.. Э, годзе ужо гэтаго! найму фартэпьян, пасаджу якогась музыканта, а Галубоускаго з гэтым гармонікам вон выганю!

Галубоускі (цалуючы яе у руку). Панічка! ні выганяйце! Гдзе-ж я падзенуся? (С пьянымі сьлязьмі у голасе). Жонка выгнала, пані выгане,—хіба пятлю на шыю!.. А гэта... як жа-ж ні піць, калі такі добры пан, гарэлкі дае, ласкава гаворыць...

Гаспадыня. Ну, йдзі у складзік, прасьпіся! (Ідзе у дзьверы на лева).

Галубоускі. Не, я пайду зайграю! (Бярэ гармонік і ідзе у сярэдзіну).

## ЗЬЯВА IV.

**Манька** і **Міхалка** [уходзяць пасьля паузы].

Міхалка. Ну, чаго хочэш?

Манька. Чаму-ж так доуга ні прыходзіу? га?

Міхалка. Ці-ж доуга? Здаецца—не.

Манька. Не? Гэта-ж будзе ужо каля двох тыдняу!

Міхалка [няшчырым тонам]. Вось як! Ці-ж гэтулькі будзе?

Манька. Калісь ты часьцей прыходзіу. Мусіць часу ні меу?

Міхалка [я. в.]. Але... але... Ні меу.

Манька. Міхась! каточак! я маю да цябе просьбу...

Міхалка. Ну?

Манька. Ні пі! Я так ні люблю, як ты пьяны!.. Мы так дауно ні бачыліся,—вось пасядзім, пагутарым, раскажэш мне, што ты рабіу, а яны ніхай сабе пьюць... Добра? Я цябе вельмі прашу...

Міхалка. Вось табе маеш!.. А чаго-ж я сюды прыйшоу?

Манька. Што?! Ты, значыць, прыходзіш сюды для гэтай паганай гарэлкі, а ні дзеля мяне?

Міхалка. Ды і да цябе прыходжу і выпіць с прыяцелямі прыходжу... Адно аднаму ні перашкаджае.

Манька. Але... Для цябе твае прыяцелі і гарэлка даражэйшыя за мяне? Каб іх! (Плачэ).

Міхалка. Вось маеш! Ізноу сьлезы!.. Ну, скажы сама: ці-ж ты ні дурная? Ну, чаго ты плачэш? есьць чаго? Што я прыйшоу трохі выпіць, закусіць?.. Каб я з іншымі дзеучатамі задаваўся,—тады іншая справа!..

Манька. Хто цябе ведае! Можэ і гэта бывае, як я ні бачу... Ты-ж так дауно ні быу!..

Міхалка. Пакуль ні бачыла—ні кажы! Можэ с часам будзе, а пакуль што—не.

Манька. С часам? гэта будзе?.. Вось як! Ты мне гэта гаворыш! Значыцца, ты мяне ні любіш! Значыць, ты ашукау мяне!

Міхалка. Ды кінь рабіць трагедыі без патрэбы! Ведама, што німа нічога вечнаго! [Ідзе у сярэднія дзьверы].

Манька [седае на крэсло і голасна пачынае плакаць].

Міхалка (затрымліваецца на сцэне). Ну, і пачалося!.. Чаго я, дурны, прылез сюды?!

Манька. Але!.. «Чаго прылез!»... «Чаго прылез!»...—Раней прыходзіу кожны дзень, а нават і два разы у дзень, а цяпер—«чаго прылез!»... Эх! прауду людзі казалі, перасьцерагалі: ні вер яму, ні вер!.. Вось маю за гэта, што ні паслухала добрай рады!

Міхалка (іранічна). Але, трэба было слухаць апаша Грышкі, або сваей разумнінькай сястрычкі, тады-бы добра было!

Манька. А ведама, што горэй ні было-б!

Міхалка (я. в.). Але... але...

Манька. Нідауна я даведалася,—чаму-ж ты нічога ні казау?—што у гэтым тыдні ты ужо паедзеш... Гэта прауда?

Міхалка. Але... Прауда. А ні казау, бо сам добра ні ведау, калі паеду.

Манька. Ага! А я аб гэтым даведываюся ад чужых людзей,—а ты маучыш!... Ты хацеу уцячы ад мяне,—вось які ты! А ты-ж колькі разоу казау, што ні паедзеш!

Міхалка. Яшчэ чаго! Ты-б мо' хацела, каб я для цябе і унівэрсытэту ні кончыу? Набяры-ж ты розуму! Ці ты ведаеш, што гаворыш?

Манька. Ты-ж абяцау, што шлюб возьмем і паедзем разам.

Міхалка. Ізноу свае! Усе толькі адно: шлюб ды шлюб! Для цябе усе глупство, хай усе прападзе, ніхай нават сьвет да гары нагамі перавернецца, каб толькі шлюб быу!

Манька. На што-ж ты сам казау?

Міхалка. Э, пасьпеем з гэтым шлюбам!.. Але скажы сама, які гэта сэнс мае? Сама ты ніраз казала, што я благі, што я табе атруціу жыцце... А іншы зноу раз кажэш: а рабі тое, а гэтаго ні рабі, а на што табе гэтыя прыяцелі—адным словам, пачынаеш мне накідаць сваю волю... А ведай, каханінькая, што я вельмі ні люблю, як мяне вучаць, што трэба рабіць, а што ні трэба, а асабліва, калі такія навукі даеш мне ты!.. Дык вось... на якое ліхо гэты шлюб?

Манька [сумна]. Інакш ты калісь гаварыу са мной, інакш! Што-ж, німа дзіва: надаела я ужо табе і ідзеш шукаць іншай. Што-ж,

шукай! шукай! я за табой ні паганюся... Ідзі! шукай!... (Пачынае плакаць).

Міхалка. О! ізноу сьлезы!... С табой зусім нельга пагутарыць спакойна!..

Сьцепан (за сцэнай). Міхась! Хадзі сюды!

Міхалка (крычыць у другі пакой). Зара! (Да Манькі). І ты дзівішся, што я табе раней ні сказау, што паеду. Каб сказау раней, дык раней пачаліся бы гэтыя сцэны ды сьлезы!... (Са злосьцю). Ах, надаело мне усе гэта! (Падходзіць да сярэдніх дзьвярэй і кажэ за сцэну). Эй! хлопцы! я іду ацсюль, а вы—як сабе хочэце!... Што?.. Іду! ні хачу тутака заставацца!..

## ЗЬЯВА V.

**Тыя-ж, Сьцепан, Лекдугна** і інш. [уходзяць], пасьля **Гаспадыня**.

Лекдугна. Што? Чаму?

Сьцепан. Куды-ж ты хочэш ісьці?.. (Пабачыушы, што Манька плачэ). А! чаго ж Манечка плачэ? (Да Манькі). Ну, ні трэба плакаць, бо ні пекна будзеце выглядаць: вочкі будуць чырвоніwhen і носік чырвонінькі... (Да хлапцоу). Ну, як ісьці, дык ісьці! Пойдзем!

Гаспадыня (увайшла пры апошніх словах Сьцепана). Эх, гэтая Манька зауседы псуе інтэрас!..

Сьцепан. Але і Манечку бярэм с сабой!.. Пані гаспадыня! добра?

Гаспадыня. А ніхай сабе ідзе!.. Толькі чаму-ж вам тут ні застацца? Усе, чаго захочыце, есьць, а чаго німа—прынесьці можна...

Сьцепан. Дык вось Міхалка... (Да Міхалкі). Міхась, а? Можэ застанемся?

Міхалка. Як хочэце!.. Я—іду!

Сьцепан. Ну, калі так, дык пойдзем! (Да Манькі). Панна Маня! Апранайцеся! Хутчэй!

Манька (ціха да Міхалкі). Ты хочэш, каб я з вамі йшла?

Міхалка. Яшчэ чаго! На што? Я уцекаю адсюль, а яна за мной гоніцца! Вось добра!...

Манька. Ах, так? Ты ад мяне уцекаеш? Добра... (Сядае).

Сьцепан. Ну, пойдзем ужо, шкада часу! (Да Манькі). Пойдзем!

Манька. Я ні пайду!

Сьцепан і Лекдугна. Чаму?

Манька. Ні хачу! Ні пайду! Адчапіцеся!

Сьцепан (разводзючы рукамі). Ну, калі так, дык нічога ні парадзімо... Ну, марш, дзеткі! Да пабачэння, панна Маня! Бывайце здаровы, пані гаспадыня! (Пяе): Allons enfants de la patrie... (Сьпеваючы, усе выходзяць на вуліцу].

## ЗЬЯВА VI.

**Гаспадыня** і **Манька**.

Гаспадыня. І на што ты хванабэрыі робіш? Яны-ж людзі ні простыя, а вучоныя, а ты простая дзяучына—і хванабэрыі... І сабе шкоду робіш і мне гасьцей выганяеш.. эх! (Махнуушы рукой, пайшла у пакой за буфэтам].

## ЗЬЯВА VII.

**Манька**, пасьля **Галубоускі**.

Манька [глядзіць у сьлед выйшоушым хлопцам і сумна ківае галавой]. Пакінуу мяне! пакінуу!...

Галубоускі (убегае з другога пакою і, пабачыушы, што нікога ужо з гасьцей німа, сумна кажэ). І мяне пакінулі!

---

**(Заслона).**

# АКТ IV.

---

Рэч дзеяцца пару гадзін пазьней. Сцэна цемная. Каля буфэту, як у 2-м акці, сьпіць Галубоускі. Пауза. Пасьля чуваць стук у дзьверы.

## ЗЬЯВА I.

**Галубоускі і Сьцепан** [за сцэнай], пасьля **Манька.**

Галубоускі [будзіцца]. Хто гэта? чаго? [Стук трывае далей]. Хто тамака стукае так позна? [Устае і ідзе да дзьвярэй]. Хто тамака?

Сьцепан [за сцэнай). Адчыняй, адчыняй, стары! гэта мы!

Галубоускі. Паночкі, позна... Ужо усе сьпяць: пані гаспадыня сьпіць і панна Маня сьпіць...

Сьцепан (я. в.) Адчыняй! Мы разбудзім.

Галубоускі Калі я сам ні ведаю... Каб гаспадыня ні злавылася...

Сьцепан (я. в.) Ні будзе!.. Адчыняй!

Галубоускі. Зара, я толькі запалю сьвятло. (Запаляе электрыку. На сцэне робіцца сьветла.)

Манька (босая, акрыушыся хусткай, уходзіць праз сярэдзіну.) Хто тамака?

Галубоускі. А гэта тая кумпанія... (Адчыняе дзьверы; уходзяць: Сьцепан, Міхалка і два статысты, каторыя падтрымліваюць пад пахі зусім пьянога Лекдугну).

## ЗЬЯВА II.

**Манька, Міхалка, Сьцепан, Галубоускі, Лекдугна і статысты.**

Сьцепан. Выбачайце, панна Маня, што мы вас сярод ночы разбудзілі, але ужо усюды зачынено, нікуды нельга дастукацца, а сягоньня трэба канечне яшчэ трохі выпіць...

Лекдугна (ніпрытомны, пяе сабе пад нос):

Трэба, трэба, трэба піць,
Каб лягчэй было нам жыць...

(Статысты ссунулі крэслы і кладуць на іх Лекдугну. Пасьля, узяушы з буфэту сыфон с сэльцэрскай вадой, уліваюць яму у горло воду. Ен плюе і чхае).

Сьцепан. Сягоння развітанне с прыяцелем.. Міхалка, раптам, ні с таго, ні с сяго, замест ехаць у суботу, пастанавіу выехаць заутра раніцай.

Манька. Ах, так?

Сьцепан. Дык вось трэба выпіць, праўда?

Манька (іронічна). О, трэба!

Сьцепан (да статыстау). Ды кіньце яго! Ніхай сабе сьпіць, а мы часу ні трацьмо!

Манька (я. в.) Але! шкада часу!

Сьцепан (ні зразумеушы іроніі). Вось разумныя словы! Ну, дык хадзеце, сядаймо! (Усе, апрача Манькі, Міхалкі і сьпячаго на крэслах Лекдугны, выходзяць у другі пакой).

## ЗЬЯВА III.

**Манька, Міхалка і Лекдугна** (сьпіць).

Манька (стаіць каля буфэту і глядзіць на Міхалку).

Міхалка (ходзючы па сцэне). Манечка! мне трэба с табой пагутарыць. Дауно я ужо хацеу ды вось ні мог... А трэба. Цяпер, галуным чынам, дзеля гэтаго і прыйшоу, каб адразу сказаць усе, што па душы.. Толькі, калі ласка, спакойна, без сцэн!

Манька. (глядзіць на яго шырока расплюшчанымі вачыма, спалохаушыся ужо гэтых ягоных слоу).

Міхалка. Бачыш, Маня, пару месяцау назад мы спазналіся, палюбіліся,—добра нам было,—але што-ж далей з гэтаго будзе? Усе мае свой канец...

Манька (нісьмела). Ты-ж казау, што жаніцца будзеш...

Міхалка. Жаніцца! Хм! жаніцца! Легка сказаць... Але ці тут ужо шчасьце?—Ну, пажэнімся, добра. І што-ж далей? Будзем шчасьлівы? О, ніколі! Нашы характэры ні згаджаюцца, ты мяне ні разумееш, мне трудна зразумець цябе; я хачу рабіць тое, ты кажэш: рабі сее... Ты зусім мяне ні разумееш!.. А душа людзкая гэта... гэта ні гладкая бутэлька. Там шмат розных загібау, перагародак, куточкау, каторыя усе трэба пазнаць жывучы с чалавекам, а ты усяго гэтаго ні спазнаеш, бо ты... бо ты... (хочэ сказаць: „дурная", але зьмягчае свой сказ) бо мы с табой быццым з розных канцоу сьвету. Ну, і вось—нам, Манечка, трэба разстацца! Але, але... трэба!

Манька (маучыць і глядзіць на яго).

Міхалка (падыходзіць да яе). Ну, чаго-ж ты маучыш? Ні гневайся на мяне, мая ты сумнінькая, але нічога ві парадзіш: трэба. Іншай рады німа. Як сама добра аб гэтым падумаеш, то згодзішся са мной... Ну, ні рабі толькі трагедыі... (гладзіць яе па валасох).

Манька (хапае яго за руку). Міхась! Ні кідай! Я буду для цябе слухмянай, я ніколі ні у чым табе перашкаджаць ні буду, рабі, што хочэш, толькі ні кідай мяне!.. Залаценькі мой, ні кідай!.. Што я без цябе рабіць буду? Як жыць буду?—ні кідай...

Міхалка. Эх, дзетачка! Ні маеш ты розуму! Раней ці пазьней—гэта-ж павінно было стацца. Мы-ж так вечна ні будзем... Ніхай ужо раз усе скончыцца—лягчэй на сэрцы будзе!... Ты яшчэ маладая, вельмі маладая, ты яшчэ палюбіш, будзеш шчасьліва...

Манька. О, не, Міхась, о, не!... Нікагусенькі ніколі ужо ні палюблю!... Ты мой ядыны, Міхась! Ні кідай! ні трэба шлюбу, нічога,—толькі ні кідай мяне! (са сьлязьмі закідывае яму рукі на шыю і пачынае на яго грудзех плакаць).

Міхалка. Ну, ціха, дзетанька, ціха, супакойся...

Манька (пасьля паузы падымае галаву і глядзіць яму у вочы]. Міхась! скажы ты мне прауду: ці ты мяне калісь шчыра любіу, так, як казау?... Кажы!

Міхалка. Але... Ведама... Любіу... Я і цяпер цябе люблю, Манечка!

Манька (спакойна). А ці... ці калісь... раней... с самога пачатку ні думау аб тым, што нам трэба будзе разстацца? Ці ты тагды шчыра прауду казау?

Міхалка. Хм... я тагды... Я зауседы шчыра кажу. Тады мне усе здавалося гэтак, як я казау, цяпер—інакш...

Манька (іншым тонам, энэргічна). Брэшэш, Міхалка!... Я цяпер многа зразумела, чаго раней ні магла сьцяміць... Быццым мне вочы адчыніліся! Я цяпер ведаю, чаму ты зауседы хавауся, як быу за мной, я ведаю, чаму ты ні хацеу хадзіць са мной па вуліцы, я ведаю, чаму твае прыяцелі усьміхаліся, калі нас разам бачылі,—ты мяне стыдауся, я ведаю...

Міхалка. (хочэ нешта сказаць).

Манька. Але, але! Ні пярэч,—ты стыдауся. Стыдауся ты мяне, бо я простая дзяучына з вескі, бо я ні патраплю так разумна гаварыць, як нейкія паненкі-выкрутаскі; ты стыдауся, бо я кэльнэрка, а калі ты стыдауся, значыць ты ні любіу мяне!.. А я дурная! Я верыла яму! (хапаецца рукамі за галаву). О, на што я верыла яму!?

Міхалка. Чакай... супакойся...

Манька. Але!.. «Супакойся!»... Хочэш, каб я супакоілася! Разбіу мае сэрцо, нігоднік, і цяпер «супакойся!» А ці ведаеш ты, што ні водная с тваіх разумненькіх, «інтэлігэнтных» паненак ні будзе цябе любіць так, як я любіла! Я табе аддала усю душу, усе сэрцо, усе думкі свае! Я падавала госьцям піво і думала аб табе, я мыла шклянкі, а думала аб табе, я клалася спаць, я уставала—думала толькі аб

табе ды аб табе! Калі ты доуга ні прыходзіу, я мейсца сабе ні знаходзіла, я думала, ці ні здарылося с табой якое нішчасьце... А ты! Ты—вось які!!

Міхалка. Супакойся... яшчэ спаткаемся.. Я прыеду... Гэта-ж ні на зауседы...

Манька. Але!! «ні на зауседы»! Ты хочаш мяне супакоіць... Не! Я ужо ведаю усю прауду і ужо мяне ні ашукаеш... Вось цяпер, вось нідауна гэтая прауда вырвалася з вусн тваіх,—і я цяпер ужо усе ведаю, усе разумею!..

Але, прауду ты казау: ніхай ужо усе адразу скончыцца—лягчэй на сэрцы будзе...

Ах, за што я цябе так любіла?! О, як я нінавіджу цяпер цябе! О, чаму-ж гэты Грышка тады вось, у гэтым мейсцы, замест у руку, ні усадзіу табе нож у сэрцо! Ні мучылася-б я цяпер так!..

Міхалка (зазлаваушыся). А! прыпомніуся табе твой Грышка—твой першы каханак!

Манька. Брэшэш! ен маім каханкам ніколі ні быу! Ты добра ведаеш, што ты быу першым і... апошнім!.. А калі-б нават і быу, дык што? Ен можэ болей варты за цябе, ен, пэуне, ні зрабіу-бы так, як ты!...

Міхалка (я. в.) Ты ні раунай мяне з Грышкамі!.. Ты!.. (Грозна падыходзіць да яе).

Манька. А ты—што лепшаго? Ах, ты паніч подлы! сабака! Плюю я на твае панство і на цябе! Тфу!

Міхалка (хапае яе за плечы, хацеу ударыць, але стрымауся і толькі адпіхае проч ад сябе). Вон з маіх вачэй!..

Манька (упаушы на падлогу). Ах, так!.. вось які ты!—вось!..— (Падымаецца с падлогі і ідзе у другі пакой, пагледаючы на Міхалку вачыма, с каторых прабіваецца цяжкая крыуда).

## ЗЬЯВА IV.

**Міхалка, Сьцепан, Галубоускі і статысты** (уходзяць с чаркамі у руках), а пасьля **гаспадыня**.

Сьцепан (с чаркай і бутэлькай). Чаго-ж ты, Міхалка, уцек ад нас? Хадзі-ж піць! Заутра паедзеш, пакінеш нас, а ні хочэш с прыяцелямі выпіць па разьвітанне! (Дае яму у руку чарку). На, маеш дружэ, і вып'ем за тое, каб мы зауседы да самай сьмерці былі душой моладзы, як цяпер, каб ніколі ні адракліся сваіх ідэалау і зауседы паважалі усе гордае, сьмелае, шляхотнае... Гурра!.

Статысты. Гурра!

Гаспадыня (убегае праз левыя дзьверы). Цсс! паночкі! Ні крычыце!.. Зачынено!...

Міхалка. (ні выпіушы сваей чаркі, кідае яе з імпэтам на падлогу).

Усе. Што гэта?.. Ты пьяны?.. Чаго?!..

Сьцепан (пасьля кароткай паузы). Я ведаю, што гэта... (Да Міхалкі). Сумнінька на душы, а? Давайце новую чарку! Пі, Міхась, усе пройдзе!.. О! глянь на Лекдугну; сьпіць, шчасьліучык,—нічога ні ведае, ні аб чым ні думае...

(Да Галубоускаго). Галубоускі! Іграй, каб было весялей! (Усе сядаюць навакол стала).

Галубоускі (іграе і пяе):

Яна грошы ні узяла, ні узяла, ні узяла,
А па збанку плакала, а па збанку плакала.
Мой зялены збан, збан...

(Іншыя разам з ім сьпеваюць).

Гаспадыня (усьцішае іх, каб ні натта шумелі).

(У другім пакоі чуваць кароткі крык і нешта упало на падлогу).

Усе. Што гэта?

Міхалка (сьцяміу, што гэта значыць. Ускочыушы з мейсца, ні ведае, што рабіць: ці бегчы у другі пакой, ці сядзець на мейсцы).

Галубоускі (кінуушы гармоніку на крэсло, пабег у другі пакой).

Усе (быццым адзеравянеушыя, глядзяць яму у сьлед).

Галубоускі (хутка варочаецца). Маня атруцілася!..

**(Заслона).**

*КАНЕЦ.*

**Наум Прыгаворка.**

*(Вінцук Дунін-Марцінкевіч).*

# Залёты.

---

Сьмяхотная штука у 3-х дзеях.

*(напісана у Люцынцэ 8-го сьнежня 1870 году).*

# ЗАЛЁТЫ.

**АСОБЫ:**

ЯН ПАЧЦІУСКІ—маршалак.

АЛЕКСАНДРА САКАЛЬНІЦКІ—судздзя.

АДЭЛЯ—яго дачка, 16-ці гадоу.

АДОЛЬФ—сын Сакальніцкаго, 12-ці гадоу.

СТАНІСЛАУ ЗАЦНЕУСКІ—малады памешчык.

АНТОН САБКОВІЧ—арэндатар.

ДАМІЦЭЛЯ—яго сястра.

ПЯТРУК—парабак.

ГАПОН БАРЫЧКА—селянін.

АКУЛІНА—яго жонка.

МАРЫСЯ—іх дачка.

МОРДКА—жыд, сталяр.

КЛЮЧВОЙТ.

---

Першая дзея адбываецца у кватэры Сабковіча, другая—у лесі перад сялібай Барычкі, трэцця—у доме Сакальніцкаго.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.

(Сцэна прэдстауляе нівялічкі пакой, у каторым направа—два вокны, налева і прост—дзьверы. З левай стараны—стол, на каторым Даміцэля прасуе (гладзіць) хустачку для брата. Сабковіч зусім ужо апрануты і толькі без фрака, каторы вісіць на крэсьлі,—пакручываецца і узіраецца у туалетавае люстэрко, а пасьля бразгае грашыма у кішані і сьпевае):

### ЗЬЯВА І.

**(Сабковіч—Даміцэля).**

Сабковіч.

Маю грошы, маю я,
Мне ніхто тут ні рауня;
Прад маей машонкай поупай
Гнецца роуны і ні роуны.
Як ганяу скаціну у лес,
Кожны чуць ні с фігай лез,
А як стау багат сягоння,
Бьюць паклон мне па паклоне.
Ці дауно там ясны пан
Дууся, як парожны жбан?
Знай, як льокая, частуе,—
Цяпер лашчыцца, цалуе.
І паненкі, ці дауно,
Усе сьмеяліся у вадно,—
Сення, бач, глядзяць мілютка,
Бразну—дзын, зьбягуцца хутка.
Пісар, войт, ці аканом
Называлі балваном,—
Як пачулі толькі грошы,
То знайшлі й розум харошы.
Хто маю хацінку знау?
Сьлед к ей зеллем зарастау;
Сення-ж повен і дзядзінец,
А усе сьцежкі—як гасьцінец.

(Гаворыць) Дык што-ж... ці-ж я ні прыгожы хлапец? (Круціцца па пакоі). Паузірайся, сястрыца... Цяперака, як прычаплю поупэруку, мая Адэльця напэуна з радасьцю пойдзе за мяне... дык што-ж...

Даміцэля. Ці ні пасьпяшыуся, мой даражэнькі, называць яе сваею,—ні будзь такім пэуным, каб ні ашукацца...

Сабковіч. Дык што-ж... або-ж я ні маю грошай?..

Даміцэля. Мне здаецца, з дзяучынай добраго роду і багатай на усе, трэба мець яшчэ нешта, апроч грошай.

Сабковіч. Цікавасьць! Дык што-ж... чаго-ж гэта яшчэ патрэба?

Даміцэля. Перш-на-перш, мой даражэнькі,—кавалер, што залецаецца да паненкі, павінен быць таго самаго стану, як і яна;—калі-ж

ен з ніжэйшаго стану, то павінен, прынамсі, мець славу вучонаго і разумнаго,—інакш той стан, да катораго належыць паненка, будзе крычаць, што гэта мэзальянс і адгаворыць ні толькі бацькоу, але і паненку, калі-б ты нават ей і падабауся. Другое,—трэба, каб кавалер быу адукаваны, калі ні лепш за паненку, дык і ні горш, гэта дзеля таго, каб ей ні было сорамна за свайго мужа. Трэццяе і самае важнае,—каб той, што залецасцца, меу добрую славу у людзей;—а ты, мой брацейка,—даруй, што прауду скажу,—ні можаш пахваліцца ні першым, ні другім, ні трэццім.

Сабковіч. Дык што-ж... цікавасьць... Адным словам разабью усе твае наймудрэйшыя довады: маю грошы,—а грошы цяперака для усіх станау натта ласая рэч. (Стукаючы па кішэні, пяе):

Грошы усім кусочак ласы,
Хоць хто мае іх даволі,
Усе-ж к ім прэ, як да каубасы,
Калі убачэ у каго болей.
Вось ліхвяр, што кублы мае
Поуны золатам набіты,
Блізкіх, дальшых абірае,
Век працэнтамі ні сыты.
А паны ясьне-вяльможны,
Хоць дабра, зямлі шмат маюць,
Так жывуць ніасьцярожна:
У ліхвяроу дапазычаюць.

Ксендз, поп, рабін, хоць набожны,
Усе у эдарэнню гэтым роуны:
Любіць золато з іх кожны,
Гоне у стан яно духоуны.
Любяць золато і судздзі:
Як хто у іхні улезе краты,
Хай ні дасьць—віноуным будзе,
А як дасьць—ні вінаваты.
Ліхвярамі судздзі нашы
І паны, і стан духоуны,
І дзеучат дукат ні страшэ:
Любяць золато усе роуна.

(Гаворыць). Дык што-ж...

Даміцэля. Прауда. У цяперашніх цяжкіх часах шмат паненак, заплюшчыушы вочы, пайшло бы за багаццем, але шчасьця і дабра ад гэтаго німа чаго і спадзевацца: усе жыцце ваша атруцілося-бы сваркамі ды калатней. Панна Адэля ні такая. Каб меу нават багацце Крэза, то і тады-б яе да сябе ні прынадзіу; яна шукае чагосьці іншаго, большаго за золато.

Сабковіч. Цікавасьць!.. чаго-ж гэта?..

Даміцэля. Я табе ужо казала аб гэтым і магу у некалькіх словах сказаць яшчэ раз: добрай славы у людзей, навукі, адукацыі і полеру, дзякуючы каторым ты ні саромiу-бы таго стану, да катораго яна належыць.

Сабковіч. Э! пляцеш, мая даражэнькая. Дык што-ж... Каб я ні меу розуму, то і грошай ні сабрау-бы. Што датычэ якогасьці тамака полеру, катораго быццам, як ты кажаш, мне бракуе,—яго старчыць для мяне: усюдых патраплю вясьці сябе ні горш за якога лішне разумнаго с пустымі кішэнямі,—дык што-ж... Ось, напрыклад, шумна уходжу да панскае салі поунай гасьцей,—дык што-ж... прыбліжаюся да

пані-гаспадыні, трымаючы левую руку у кішані, а правую, як-бы ні хочучы, цісну ей ручку так—па-панску, і кажу праз нос: коман ва, як здароуечко, як ідзе гаспадарка і так далей,—цікавасьць... Дык што-ж... пасьля падыходжу да гаспадара, с каторым, як роуны з роуным, цалуюся; далей, усунуушы ужо абедзьве рукі у кішэні і, як-бы ні хочучы, бразгаю сумысьля усыпаным туды золатам, навокал з гары узіраюся і с павагаю... дык што-ж... ківаю галавою адным ніжэй, другім меньш нізка—павэдля багацця і становішча іх, дык што-ж.. Потым іду да паненак і, як-бы нінарокам, кідаю залатую манэту на зямлю, і раблю гэта, ведама, тады, калі блізка, дык што-ж... льокай круціцца; ен, падбегшы, падымае грошы і хочэ мне аддаць,—тады я спакойна, арыстократычна кажу: «пакінь гэта сабе, даражэнькі», і... дык што-ж... Як-бы нічога ні было, пачынаю с паненкамі... дык што-ж... жартаваць, бразгаючы усе золатом у кішэнях; вяду гутарку а пагодзе, апратках, хлапцох, ці аб нечым падобным, дык што-ж... А! а! ці ты ведаеш, сястрыца, што я ужо і контраданса умею скакаць... Дрыгальскі мяне крыху падмуштравау, толькі другая хвігура неяк нідобра ідзе. Паглядзі, мая даражэнькая, шакжа-ж ты шмат бачыла скокау, дык што... дык можаш па праудзі асудзіць... (пачынае скакаць і пяе)

Сабковіч (Дуэт). Тра-ля-ля-ля, тра-ля-ля-ля!
Стань ля боку, угледзься здаля
Да паставы, да натуры...
Даміцэля. Чысты мех з мядзьвежай скуры.
Сабковіч. Дык што-ж... Суд крыху застрогі,
Глянь! Як поузам ходзяць ногі,
Стан схілісты і павабны...
Даміцэля. Ах, які-ж ты увесь нізграбны!

Сабковіч і Даміцэля (разам).

Перабіра ты сярдзіта,
Кпіш без літасьці і квіта!
Мяне знаюць ні такія,,
Так скачу, як і другія.

Ні да скокау ты суджоны,
Да сахі і да бароны:
Ногі крывы, як кавелы,
Значна, што з Смаргонскай школы.

(Скачучы, прыбліжаецца да дзьвярэй, што знаходзяцца прост сцэны і, штурхнуушыся аб парабка Пятрука, што у гэты момант уваходзіць, падае на землю).

## З Ь Я В А II-ая.

**Тыя самыя і Пятрук парабак.**

Сабковіч. Вось уцяу! аж цемна у воку;
Ах, чорт лысы ды шалены!
Стой тут! З мейсца ані кроку!

Пятрук. (скрабучы галаву, нізка кланяецца.)
Ніхай будзе пахвалены!

Сабковіч. (устаючы)
Ехаць меуся у важны госьці,
Гад зьвіхнуу нагу у косьці,
На манеры мо' быць страта.

Даміцэля. Раджу, лепш пільнуйся хаты.

(Трое разам).

Сабковіч. Дык ні веру у прачуванне,
С паваротам жджы шчасьлівым.
Веру у мілачкі каханне,
Бо усе з іх к рублям жычлівы.

Даміцэля. Ні вер золату, васпане,
Паварот мо' быць сьлязьлівы;
Той кахання ні дастане,
Хто адно глядзіць нажывы.

Пятрук. Дауно пас скацінку у полю,
А цяпер пан над панамі.
Дай свіні рог, дурным—волю,
Сьвет павернуць у верх нагамі.

Сабковіч. (кажэ.) Што, мядзьвяжонак! Ці справіуся з інтарэсам, за каторым я цябе пасылау?

Пятрук. Кепска, паночак. Сказалі там у... што гэта ні чысты інтарэс.

Сабковіч. Дурны! Колькі разоу казау табе, каб ты, адказываючы, казау на мяне—ясны пане.

Пятрук. Эт, пано... хацеу сказаць: ясны пане... я чалавек бывалы, зубы зьеу на дворнай службе, і па Вільні ні раз цягауся; ото-ж часта мне здаралося паміж шляхты чуць гутарку, што ясьне—згасьне, а васпане—застане.

Сабковіч. Дык што... дык ты і у Вільні быу?—Што-ж ты тамака бачыу цікаваго... дык што... сьмешны ты с сваей гутаркай.

Пятрук. Што пано... хацеу сказаць: ясны пане... гаварыць німашака нічога цікаваго. Палацы амаль усе каменныя, вуліцы так вузкі, што нельга размінуцца; як ссунуцца дзьве фурманкі, то хоць ты калом іх разнімай—вось як часам пан чаго загневаецца да зубы занічэміць, так і яны с сабой сплятуцца. Людзі бегаюць, як падстрэляныя, адзін другога штурхае... Мауляу бы хто, што яны за пільнай сьпешаць работай, а яны так, з дуру толькі с кута у кут летаюць ды зубы скаляць. Прауда, бачыу я адно дзіво цікавае; бачыу, як пранцузы муштруюцца;—эт! ды і то,—як прыпомніу маладзенькія мае леты, мэрам як то калісь старэнькі дзядок мой, дай Бог яму крулеуство нябеснае, каторы па ту пару, як я быу дзіцем, перакінууся ужо за

сотню гадоу; бывала, веу разказы на зімовых вечарніцах, то і гэта іх муштраванне выдалося мне кепствам.

Сабковіч. Дык што... што-ж вам дзядок твой разсказвау?

Пятрук. Э!.. э!.. э! па... Ясны пане,—як засядзе, бывала, пры лучыне лапці плясьці, а пачне вясьці, с перапрашэннем яснаго пана, разсказы, то мы усе, бывала, як тыя зайчыкі, калі часам пачуюць якісь шорах каля лугавіска, і вушы наставім да і зубы вышчэрым, мэрам як наш Курта, калі углёдзіць жыда:—так цікава, бывала, вядзе разсказы. Баш, ен быу ні тутэйшы, а захожы с-пад Кіява; так вось распрауляе, бывала, якое было у іх войско, аж міла слухаць. Бывала стары як раздабрухаецца, а прыпомніць старыну, так вось кажэ: гэй!.. гэй.. брацівi, німашака на сьвеці, як то калісь, слаунай памяці, за гатманшчыны! Як баш —войско нашае сабярэцца у кучу. Ні знало яно што то—«стой» і «ні шавяліся.» Бывала, пры Хмельніцкім атамане стоуніцца над ясным украінскім небам сіла казацкая,—полкі Чэрнаморскі, Полтаускі, Гуманскі, Граняускі, Пятыгорскі і Каняускі. Казакі у шапках сівых с красными галавіцамі—вось мак, цьвітуць. Урадніки на коніках фінцяць, сотнікі вусікі круцяць, а ассаулы губы дуюць. Так бывала мудра разсказуе, што і сьцяміцца ні змога.

Сабковіч. Ну, дык што... а у Вільні што ты бачыу?—

Пятрук. Эт!.. што бачыу, то ні было чаму дзівіцца. Муштраваліся, здаецца, і дружна, вось арэх згрыз, да куды ім... Прауда, яны паубірaушыся, як дзедавы казакі, у шпанцэрках, але на што ім папрышывалі хвосьцікі с чырвонымі беражкамі—мэрам у шчыглікау? Цераз плечы перавешаны у іх белы стрычкі, а на галавах такія шапкі, як макатры. Але-ж то мне было вельмі дзіуна, што на перадзі у тых шапках вось галавешкі стырчэлі, на лбе якаясь у іх птушка із масендза да з двумя галавамі—ні ведама якая:—ці сыч, ці сова, ці загуменная варона. Бог яе згадау-бы. Ото-ж яны так стаялі у кучы, рушніцы паставіушы у казялкі, мауляу чумакі, калі на папасе саганчыкі с кашай над агнем вешаюць. Аж адным разам выежджае з завулку якісь старшы; як крыкнуу—гэй! Так усе скочылі, схваціліcь за рушніцы і сталі роуна, хоця ты нітку працягні. Гляджу я на старшаго,—зьлез ен з каламажкі. Эт!—такі самы пранцуз, толькі брухатшы, цераз плечы перавешана сіняя стрычка, на грудзях навешана цацак і мендалей жыдоускіх, так што ен выгледау рабы, мэрам стракатая панская ялаука. На галаве яго то такая шапка, як заслонка ад печы. Чалавек якісь ні тутэйшы, ні рускай пароды, а з-за мора. Але ні была-бы заморская штука—хоць старшы да рукі меу крыху прыдоугі; як стаяу гдзе-сь на квацеры, то падхваціу пявуна дый схавау у шапку. Ні сьцяміу, дурны, што ен, хвост с шапкі выставіушы, усе ім віляе. Як баш, падышоу бліжэй да пранцузау, то адзін скочыу

вырваушыся з грамады, мауляу з укропу: ляціць... ляціць... ляціць.. і разпяуся, а пасьля рушніцай—кіу, а яны драг! Ен зноу—кіу, а прантузы—драг! Так вось старшы і разгневауся... падбег да грамады і крыкнуу: «З дарогі, жэрабята!» А грамада па узгарду забарматала: «Галды—балды! галды—балды!»—мэрам індыкі, калі дзеці іх падражняць. Тут старшы, як выхваціць сваю шаблю... Эт! ці то така, як была па-дзедаускаму, за слаунай памяці гэтманшчыны!.. Вось, дыхтэр, капыстка, што бабы лямеш мяшаюць, сьпічка—пацукоу калоць; таж ен трымаючы такі ражончык у аднэй руцэ дзеля пастраху, а другую прылажыушы ка лбу—мэрам паказапь ім, што у галаве ні крыхі розуму ні маюць,—стау іх лаяць, аж адзін із кучы выскачыушы, вось як чорт із балота і тож прылажыушы руку ка лбу: «Уціхамірцеся, ваша міласьць, кажэ, та-ж і мы маем крыху тут алею; усе, што робім, то па хвормі». Ото-ж ен скрыжытнуу зубамі са злосьці, адышоу крыху і крыкнуу, а яны—драг. Ен зноу якоесь слауцо выкінуу із рта, а яны, усе да аднаго, рушніцы паставілі пры назе:—«Муштруйся, кажуць, сам, калі такі разумны!» Потым ен загаласіу працяжна, кажысь пастух у лесе рогам быдло наклікае; відна жаласна вельмі стау іх прасіць, бо яны, зьлітаваушыся над бедным, разам ад чабатоу да галавы—чара-ах!... Але потым чурым, да пэк. ім! Стыдна бачыш і казаць—як крыкнуу старшы—так усе да аднаго правую руку за сябе і закінулі; зноу крыкнуу, а яны наперад руку падняськлі да носу дый панюхалі. Пасьля сталі набіваць стрэльбы; то-ж Бог мя, як раз набілі, то са дваццаць раз стрэлілі. Нарэшце ен ім дакучыу, відна, сваім муштраваннем то налева, то направа, то зноу налева,—што яны раптам пагналіся за ім. Ен жа усе наперад чэшэ ды чэшэ, боязна агледаючыся, што-б часам грамада ні дагнала. Калі-б я, або дзедавы казакі, то б яго мігам нагналі, бо казакі сьмела па Божай зямлі хадзіць могуць у шырокіх нагавіцах, што у адну калошу трох маскалеу схавау бы, а у іх былі нагавіцы, вось абцугамі панацяганы і да іх папрышываны якіясь языкі, так, што і ні змогуць сьмела ступаць, да усе, як буслы, ногі выцягіваюць і пруцца за ім лаваю. Ужо блізка яго нагналі, аж с канца якісь там закрычау: «Пакіньце гнацца за гэтым бачонкам, бо і жыды сьмяюцца!»—і прауда. Я сам бачыу, як на платах да па варотах начапляушыся жыды сьмеяліся с таго муштравання. Але пасьля ен, відаць, сьцяміу, што стыдна быць такім баязкім, дый, сабраушыся з духам, крыкнуу на усе горло. Грамада жа маладзецкая, ні спужаушыся яго крыку, так вось дружна, за пазваленнем, адвярнулася к яму задам, тады ен, страціушы цярплівасьць, плюнуу, махнуу рукой, сеу у сваю каламажку дый цягу дау. Але-ж то шальмоуская управа! Адзін конь усьцяж аглядаецца, ці ні гоніцца каторы; да куды ім,—змучаны, галодны, трубячы і барабанячы дзеля ахвоты, загаласілі на

усе горло дый парасцягаліся па вуліцах, відна, да жыдоу на кватэры.

Сабковіч. Дзякую табе, даражэнькі... насьмяшыу ты сваей гутаркай.. Сястрыца, дай яму чарку гарэлкі, каб прамачыу горло. А цяперака да справы—дык што... Ці валоу ты замяніу?

Пятрук. Не, пано... ясны пане—пастух ні прыступіу.

Сабковіч. Ты мусіць ні дау яму рубля?

Пятрук. Гдзе там!—Я і другі яму суліу ад імяні яснаго пана, да, псяюха, вельмі цьверды на сумленне; сказау, што гэта і стыдна і брыдка абманываць. Кажэ, прадаушы валы па шэсьцьдзесят рублеу кормныя, пасьля замяніць іх худымі,—гэтакаго кепства і жыд ні зробіць а па... цьфу! Прападай ты з яснасьцю, усе забываю,—а яснаму пану, кажэ, за такую штуку Бог у гаспадарцы ні дасьць спору. Я яму гэтак: вялікая бяда ашукаць жыда,—то-ж ні хрышчоны. Ен жа і ні спазнае, бо і тыя рыжыя і гэтыя, капля у каплю, схожыя—бяры два карбаванцы ды аддай два кормныя, а места іх пастау у гурме, каторыя я цяпер прыгнау,—жыд ні сьцяміць, забярэ, якія знойдзе у аборы. Гдзе там,—ен у другую дудку, баш, сьвішчэ. Кажэ, што ці жыд, ці хрысьціянін—усе людзі роуныя перад Богам, а атуманіць ці таго, ці другога, асабліва па... яснаму пану—сорамна і грэшна. Што было рабіць? Я вось, як тая сабака, падхмыліушы хвост, як ні пышны пан, пагнау валы назад.

Даміцэля. Бачыш, Антосячка! Просты мужык, без прасьветы, а якую дау табе маральную навуку. Ці ні час ужо апамятацца і пакінуць усялякія махлярствы, ашуканствы, за каторыя і на гэтым сьвеці прад людзьмі і на тым прад Богам прыйдзецца парахавацца. Будзь пэуным, што шахраванне будзе гладка сходзіць, пакуль гэтаго будзе ні праз меру.

Пятрук. Гэта, кажуць, паненачка, патуль жбан воду носіць, пакуль ні прарвецца вухо, а там...

Сабковіч. Маучы!

Пятрук. Ну... Маучу!

Сабковіч. Ты, сястра, выводзіш мяне с цярпення. Я выйшау ужо с-пад апекі і ні люблю, каб нехта, хоць бы і сястра, мешауся у мае справы... Ідзі лепш да сваей гаспадаркі і ні лезь туды, куды ні трэба.

Даміцэля. Ай, брацейка! Глядзі, каб с часамі ні пашкадавау, што ні слухау рады свайго прыяцеля, сястры. (Пайшла, закрыушы вочы хустачкай.)

## ЗЬЯВА III-я.

**(Тыя самыя, апрыч Даміцэлі).**

Сабковіч. А ты, асел, чаго яшчэ чакаеш? Ідзі у гумно!..

Пятрук. (чухаючы галаву). Вось я да па... цьфу!—прападай ты с панам! Хацеу сказаць: да яснаго пана,—маю просьбу.

Сабковіч. Дык чаго табе?.. (падыходзіць да вакна.)

Пятрук. Гэта-ж ужо позная восянь, зараз і зіма, а у мяне німа кажуха. Прасіць, каб ясны пан дау мне кажух.

Сабковіч. Прыбліжся і глянь у вакно—чые тамака быдло на сенажаці,—дык што-ж...

Пятрук. Гэта Лубінскае!

Сабковіч. Ось будуць кажухі ні толькі для цябе, а і для мяне нават—шакжа-ж і я яшчэ ні маю; а добра будзе у зімку, устаушы с пазаранку, у цеплым кажусі абыйсьці гаспадарку.

Пятрук. Як-жэ гэта, ясны пане,—ці пан думае у Лубінску купіць авечак і пашыць новыя кажухі? Да там-жа на сенажаці ні відаць авечак і, здаецца, у Лубінскім дварэ зусім іх німашака.

Сабковіч. Асел!.. Пастарайся добра і будзем мець кажухі за дарма. Вазьмі трох парабкоу, займі усе быдло у хлеу. Сепнека холадна і людзі прыйдуць напэуна прасіць аддаць заграбленае у кажухох,—тады ні аддавай быдла, пакуль ні пакінуць іх, быццам у заставу. А кажухі, папаушы у нашы рукі, так і застануцца,—гэта ужо мая справа, дык што...

Пятрук. Па... Цьфу табе! Ясны пане! Яны-ж ні на нашай да на сваей пасуць сенажаці. Каб хоць адна штука перайшла граніцу, а то усе быдло ходзіць на Лубінскай.

Сабковіч. Дурны!.. дык што... зайдзіце з заду Лубінскім лесам і займіце, а калі-б хацелі прашкодзіць, дык пастухом задайце чосу, дык што... тамака пасуць малыя дзеці і ні патрапяць вам перашкодзіць: ні будзе вам шмат клопату—угледзіушы вас, уцякуць.

Пятрук. Ці гэта будзе па-панску? Ці прыгожа цягацца да чужога дабра...

Сабковіч. Хоць ні прыгожа, але складна дастанем сабе за дарма колькі кажухоу.

Пятрук. Кажуць старыя людзі, што чужое дабро ні грэе.

Сабковіч. Супакойся! Каб толькі мягкае ды з воуны, а напэуна грэць будзе.

Пятрук. Які цяпер сьвет настау, мой Божэ мілы! Як паны пачалі браць вельмі на розум да сьляпіць разумныя ксенжкі, то горш ад ніхрышчоных сталі круціць ды муціць. (Пяе):

Верх дном паставілі сьвет гэты!
Ні так было у дауны леты;
Як начаді хітравадь, мудрыці,
То з дуру сталі усе круціці.

Дауней усяк Бога баяуся,
Дабра чужога, бач, чурауся,—
Цяпер стараюцца панята,
Калі-б пакрыудзіць свайго брата.

А гдзе-ж сумленне—боязьнь
(Божа?
Быцце такое з разбоям схожо;
Пакіньце цнотай шахраваці,
Панкі, лепш станьце працаваці!
Пры працы мысьль людзка сва-
(бодна,
Бо праца Господу угодна.
Шавец, што шылам зарабляе,
Спакойнае сумленне мае.

Сабковіч. Што гэта?.. Ты сьмееш навучаць мяне!..

Пятрук. Паночак... цьфу, ты пропасьць!—хацеу сказаць—ясны пане—то-ж ведама стара гутарка: хлеб еш, прауду рэж.

Сабковіч. Цык я табе пакажу гутарку, дык што... ідзі і рабі тое, што кажу, інакш дастанеш кіем.

Пятрук. Нечаго казаць, на чыем вазку едзеш, таму і песенькі сьпевай. Пайду грабіць быдло, але што будзе пасьля...

Сабковіч. Дык што... ні твая беда, ідзі! (Пятрук пайшоу).

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Сабковіч** (адзін).

Сабковіч. Усе кажуць, што я жыву людзкою крыудай,—дурні! Ось у тым і розум, гэта і штука, каб умець выкарыстаць абмылкі і нікемкасьць другіх. А сумленне? (думае) глупство сумленне!

Дзе ні кінь, ад краю к краю,
Будзь сумленным—кожны бае.
Ну, і усе брахня на сьвеце:
У губе—цнота, у сэрцы—сьмеце.
Вось багач гаворэ з вамі,
Усіх багаціць ен славамі,
А тут з боку, як ні знае,
Што хтось з голаду канае.
Ваякі адвагу маюць,
Сябе самі выслауляюць,
А як прыдзе да трывогі,
Дык на уцекі,—дай Бог ногі.
Ксендз, ці бацюшка вялебны,
Вучыць: грошы ні патрэбны,
А у хрысьціны, ці у хаутуры
Самі ласы к братняй скуры.
Шэпчэ «Войчэ наш» дэвотка,
Для сірот пры ей работка,
Спаведаецца са скрухай,
А усіх чэрне усім на вухо.
Маладзіцу вам пакажуць,—
Жонка верная—усе скажуць.
Мужу міласьць прысягае,
А хлапцам так і міргае.
Глянь,—дзіце яшчэ дзяучына,
Быццам жартау, хоць нівінных,
Ані знае, ані чуе,
А у кутку хлапцоу цалуе.
Грэх вылазе у хлопца з міны,
А удаецца да дзяучыны,
Аб каханні байкі бае,
Аб пасагу-ж толькі дбае.
Гэтак наша пакаленне
Нібы хваліцца сумленнем,
Хоць таго ужо астаткі
Уцяклі дауно да Вяткі.

(нажэ): Дык што... дурны той, хто гоніцца за сумленнем, калі яно пакінуло нас і уцякло на край сьвету. Дык што... Золато—гэта усе. Хто мае яго, той патрапіць навят перацягнуць на сваю сторану сумленне... Але час ужо ехаць да маей найдаражэйшай. (прычэпляе поупэруку на галаве) Дык што... Сеннека нарэшце канец, выясьніцца мая справа. Пры такіх яе дастатках, асабліва матэрыяльных, я, напэуна, буду шчасьлівым з ею. Па-праудзі, на што мне здауся яе пасаг? Але усе-ж такі дзесяць тысячак—гэта грошы і ніколі ні зашкодзіць павялічыць імі тое, што я сабрау (хочэісьці ужо). Але што гэта тамака зноу за гоман? Сеннека мяне замучаць начыста уселякімі справамі. (сеу).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Сабковіч і Мордка** (сталяр).

Мордка. (кланяючыся) Добрый дзень пану,—ны! А што будзе з намі?..

Сабковіч. Дык што... што мае быць? Пачынай строіць сьвіран, а тады адтрымаеш свой задатак і за работу—дык што...

Мордка. Хас ду гегэрт,—цікавасьць! Як-жа строіць, калі пан пры угаворы патрэбавау цаго інсаго, а цяперака, калі я, дзеля пэунасьці, каб пан каго іншаго ні узяу да працы, дау сэсьць рублеу задатак, пан ставіць мне куды цязэйсыя варункі. Ны агроуль—гэтакім парадкам я і да паловы работа ні даедзе, а праем усе, колькі угаварыуся.

Сабковіч. Гэта ужо твае дзело; прападуць шэсьць рублеу, калі ні возьмішся за работу—дык што...

Мордка. Ны!.. цікавасьць... Як-жа за яе брацца, калі мне будзе вялікая прыуда.

Сабковіч. Задатак твой прападзе, а я вазьму другога майстра, дык што...

Мордка. Гівалт! Сакзэ-с мовы ні было аб такой работа, якая пан цяперака мне дае...

Сабковіч. А ці маеш, пархуць, пісаны угавор?

Мордка. Ны!.. на сто ен, для якога глупства, ці ні досі панскае слова,—агроуль...

Сабковіч. Дык што... слово—вецяр, а распіска гэта грунт, мой даражэнькі; дурань верыць на слово, а разумны карыстае с таго, дык што... Ось я ужо трэцяго такога ашукау і зарабіу гэткім парадкам двадцаць рублеу. Яшчэ злаулю так са двух і свіран мне нічога ні будзе стоіць.

Мордка. А ці гэта будзе па панску—беднаго майстра асуківаць —хас ду гегэрт?

Сабковіч. Досі ужо, мой даражэнькі, шахраваць вашаму брату, цяперака на нас прыйшоу чарод двойчы адплаціць вам,—дык што.

Мордка. (сьціхаючы) Цікавасьць, да цаго дайсло! (зноу цмокае) мусіць хутка будзе канец сьвету. (пяе):

Ляхтірыдi—бам!
Ляхтірыді—-бум!
Ляхтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум!..
Уй! хапун сьвет гэты схопе,
Мэсыяша ні далека,
Калі пан жыдка так кропе
Акціванствам с пірад, з бока.
Меу калісь пан «гунур слова»,
Сенні ужо грымзоль цыдулі,
Ды у суд даушы рыхт на нова,
Мах глыбока ві шкатулі.
Ляхтірыді—бам.
Ляхтірыді—бум.

Ляхтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум!
Ны, ні толькі слово схваце,
Але горе ясцэ падладзе,
І німалу, ні спазнаці,
Ад зыдка цыдулю украдзе.
Ай, вэй! Сто за гандэль гэткі,
Калі так змудрэлі паны,
Хіба гэхэр, кіндэр-дзеткі,
Гоц да земляу абецаны.
Ляхтірыді—бам.
Ляхтірыді—бум.
Лахтірыді—ліхтірыді
Бім—бам—бум!

(кажа): Ны!.. сто-за будзе?..

Сабковіч. Дык што... што будзе? Ось, калі ні возьмешся за работу, твае шэсьць рублеу фарфал, дык што...

Мордка. (энэргічна) Хай гэта мая убогая і крывавая праца застанецца пану на хаутуры. Будзь пан здароу! (пайшоу).

Сабковіч (у сьлед за ім). Ах, ты шахрай! пархаты жыд!... Ен яшчэ клясьці мяне будзе!... дык што... Але чаго-ж я злую?.. Трэба быць справядлівым, хай гэты бедак нацешыцца за свае грошы хоць кляцьбой,—дык што... А цяперака у дарогу. Гэй! есьць тамака хто?

## ЗЬЯВА IV-я.

**Сабковіч і Марыся.**

Сабковіч. А! ты яшчэ тут? Добра, прыбяры тутака у пакої, вынясі стол і можаш сябе зьбірацца да бацькоу. Як раз учора скончыуся год твае службы у мяне,—дык што...

Марыся. А заплату,—ці ад пана, ці ад паненкі адбяру? Я-ж цэлы год ні гроша ад пана ні мела.

Сабковіч. Прауда, прауда, мая даражэнькая, дык што... Прыбліжся і паслухай: трэба нам яшчэ парахавацца (сеушы, выймае з бумажніка картачку і чытае). Паступіла ты да мяне 17 трауня,—дык што...

Марыся. Але!

Сабковіч. І згодзілася за 18 рублеу у год.

Марыся. Так, паночак!

Сабковіч. Ні сто раз казау я вам называць мяне ясным панам,—дык што...

Марыся. Так, ясны пане!

Сабковіч. 18-го кастрычніка ты захварэла і пралежала тры тыдні,—дык што...

Марыся. Бо па... бо ясны пан ні дау, вэдле умовы, кажуха,—я празябла і захварэла.

Сабковіч. Фі! мая даражэнькая, грэх так лгаць, дык што... Цепла было, як у летку, і ты захварэла у самы гарачы рабочы час. Я быу змушаны наняць на твае мейсцо падзенщчыцу і плаціу я ей двузлоты у дзень... За тры тыдні гэта выйдзе шэсьць рублеу трыццаць капеяк. А дзеля таго, што ты праз тры тыдні нічога ні рабіла, лежала, ела дарма хлеб і ні мала клопату рабіла маей сястрэ,—я табе рахую яшчэ па трыццаць капеяк у дзень: разам гэта будзе дванаццаць рублеу трыдцаць капеяк, дык што... Я абмыліуся,—ні трыццаць, а шэсьцьдзесят капеяк. Цяперака далей—дык што... памятаеш, як у верэсьні быдло натаптало мне дзесяць град капусты—за тое, што вы ні пільнавалі быдла, я налажыу на усіх вас па тры рублі штрафу,—дык што...

Марыся. Але-ж, ясны пане, быдло належыць да пастуха.

Сабковіч. Ціха!—дык што... маучы і слухай. Я зауседы старых прытрымвауся законау—шакжа-ж і у вас у канцэлярыі уся грамада адвечае за аднаго. Дык ось што... за капусту тры рублі штрафу. Трэцце:—па Калядах—памятаеш—прасілася ты на два дні да хворай маткі, дык што... я маю мягкае сэрцо, пазволіу табе пайсьці, а ты, заместа двох, прасядзела тамака шэсьць дзен. Дык што... сама прыстанеш на гэта, што за чатыры дні справедліва будзе адрахаваць табе наймеш па двацацць капеяк,—дык што... гэта будзе рубель; сама бачыш, які я справядлівы... Далей, за тое, што ты прыйшла на чатыры дні пазьней, як трэба,—два рублі. Дык што... усяго на усе выходзіць: восемнаццаць рублеу шэсьцьдзесят капеяк, але я, маючы на увазі тваю шчырую службу, дарую табе гэтыя шесьцьдзесят капеяк... дык што...

Марыся. Папочак, ясны пане! Ці ж я цэлы год дарма працавала?

Сабковіч. Дык што... шакжа-ж ты сама чула, мая даражэнькая, што ні за што я табе шмат ні палічыу.

Марыся. Не, гэтак ні будзе,—я за сваю крыуду падам да пасрэдніка жалабу.

Сабковіч. Што? Ты мяне страшыць будзеш! Піскні толькі—ураз жа дам знаць, што ты мяне абакрала. Мусіць памятаеш, як я, на трэці дзень твасй службы у мяне, паслау цябе шукаць паненку у пакоях на гары; ні даждаушыся, сам пайшоу і бачыу, як ты выходзіла

с пакою, у каторым я трымаю свае грошы. Хіба ты ні шукаючы сястры туды заходзіла, бо яна тамака ніколі ні бывае, дык што...

Марыся. Па... ясны пане! Ці гэта па-хрысьціянску крыудзіць так бедную дзяучыну? Паслау пан да пакою шукаць паненкі,—я, шукаючы усюды, заглянула і да таго пакою; то-ж я ні ведала, ці есьць тамака якія грошы, ці німа. У пакой я ні уходзіла, бо як угледзіла, што там на стале ляжаць грошы, то, стараніушыся, ужо ні пакідала дзьвярэй, чакаючы, каб ці пан ці паненка прышлі. Чаму-ж пан тады ні казау мяне абшукаць, а цяпер так крыудзіш?!

Сабковіч. Дык што... ні маю я часу і ахвоты гутарку с табой разводзіць. Прыбяры у пакоі, здай паненцы начынне і ідзі сабе з Богам, а калі пісьнеш, што я табе ні заплаціу, ураз-жа дам знаць, што мяне абакрала, і усе будуць пальцамі на цябе паказываць, дык што... (пайшоу).

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Марыся** (адна).

Марыся. Мой Божачка міляванькі! Служыла я у паноу, да нігдзе мне такой крыуды і такой вялікай ганьбы ні давялося сустрэць. Усе паны былі добрыя, адзін толькі нашоуся круцель (плачэ). Ніхай-жа сьлезы мае падуць па яго душу. Што я цяпер буду рабіць? Спытаюць бацька, маці—многа цераз год зарабіла? (малая пауза). Ды ці мая-ж у тым віна? Ведала-ж я, бездольная, што натраплю на такога круцеля? А як чыста мая душа, так сьмела разскажу бацьком маю крыуду,— яны уймуцца за сваю ядыначку і да пасрэдніка пададуць жалабу.

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Марыся** і **Пятрук**.

Пятрук (усунуушы галаву у дзьверы). А ці паненкі тут німа?

Марыся. Бачыш, што німашака.

Пятрук (блізка падышоушы да Марысі). Што ты, мая ягадка, так надулася, вось пузыр валовы? (падскочыушы яшчэ бліжэй да яе, абыймае яе і хочэ пацалаваць, а яна адпіхаіць яго, кажучы: «адчапіся!»—тады ен весяла пяе):

Чаго лезеш ка мне? Я-ж табе ні роуня:
Ты шавец—капылец, а я—бандароуна!

Марыся. Адчапіся! (бье яго кулаком па карку). Добра табе весяліцца, калі нішто ні руціць; я-ж вот служыла цэлы год і зарабіла хвігу.

Пятрук. Альбо што?

Марыся. Палічыу, паганец, жыдоускім манерам,—то якіясь штрапы, то маю хваробу,—так што я асталася яму вінна шэсьцьдзесят капеяк.

Пятрук. А паганец, а ніхрышчоная сабака! А яшчэ кажэ сябе звацьясным панам. Яго, анцыпара, цемным, нічыстым маніць трэба! Ні тужы, мая галубка! Ты павернеш да бацькоу, будзеш выглядаць мяне. Ні раз, таскуючы ды выхіляючыся чэраз ваконцо, засьпеваеш:

У агародзі майран родзіць,
Да Марысі пан Ян ходзіць.
Радзі, радзі майраначка,
Хадзі, хадзі мой Яначка!

А ты места Яначкі засьпеваеш—Пятручок,—ні прауда-ж? (залецаецца да яе).

Марыся. Ідзі ты! (адпіхае яго).

Пятрук. Як ні шарашыся, да я ведаю добра, што я табе на сэрцы: ты-б рада была і зараз засьпеваць:

Прыедзе ка мне—рада буду,
Я с спадніцы зраблю буду.
Нашмаруем дзегцям колы,
Дый паедзем да касьцела.

Марыся. Нечаго запірацца,—можа-б і рада была, ды калі ведаю добра, што бацькі ні прыстануць: яны ж пусьцілі гэты год на службу, каб зарабіла сабе на выправу дзеля таго, што хочуць мяне аддаць у хату багатаго, хоць старога ужо, Апанаса Губара. Казалі, што ен мае пару коней, дзьве каровы, два валы ды і сьвіран ні пусты і у гарудах ні стоупіцца.

Пятрук. Ах ты, гадзіна! На пальцах, бач, ужо палічыла, што Панас мае. Дык гэта так? Новае сітко на калочку вешаеш, а старае пад лаву кідаеш? А знаеш:—стары друг лепш за новых двух. Нічога с таго ні будзе. Я цябе ні на жарты палюбіу,—хоць бы цэлы сьвет прышлося да гары нагамі перавярнуць, то усе такі с табою ажанюся. Ну, ведама, калі ты будзеш ні ад таго. Панас—стары хрэн, якое табе жыцце з ім будзе? Я-ж малады, працавіты, статэчны, да гарэлкі ні гад,—цябе-ж, мая зязюлька, так мілую, што як цень за табою цэлы век-бы цягауся. (Сьпевае).

Жаваранак у полі звоніць,
За Марысяй Пятрук гоніць;
Хлопец відны, маляваны,
Душой, сэрцам ей адданы.

А што, мо' я хлушу? Пацалуй-жа мяне за тое... (падбліжаецца да яе, а яна адпіхае).

Марыся. Пачакай крыху! Як павенчаемся, тады цябе пацалую,—

цяпер-жа ні йдзе. Бог будзе гневацца і у гаспадарцы нам ні пашанцуе.

Пятрук. Э-э-э! Тады я цябе прасіць ні стану; цікунка, быццам саромяецца, а ведаю добра, што так-бы і кінулася на шыю. (пяе).

Да калі-ж ты бандар, набі-ж ты мне бочку,
А я цябе пацалую у цемным куточку.

Марыся. Да годзе ужо, годзе языком малоць! Мне трэба ісьці да бацькоу, (уздыхае) а ты тут, з другімі дзяучатамі цягаючыся па вечарынках, мяне бедную забудзеш.

Пятрук. Бог мяне пакарай, калі я зараз, як ты нас пакінеш, ні падзякую за службу. Ніхай апцыпар і мне ні плаціць; я,—хваліць Бога,—у добрых паноу служыу, накапіу сабе пяцьдзесят карбаваных,—маю чым гаспадарку запамагчы. Пайду да цябе у прымакі і зажывом па Божаму.

(Дуэтъ).

Пятрук.
Пойдзеш адсюль—ні забуду,
У прымы к табе скора буду.
Станем шчыра працаваць,
А шчырэй сябе кахаць.

Марыся.
Панас са мной ні дасьць рады,
Буду чакаць за Каляды,
Бо мой мілы Пятрук
Гэта сталы дзяцюк.

Пятрук.
Так мяне моцна кахаеш,
То напэуна прычакаеш,
Пераможам бацькоу дур,
Дый зажывом чэраз-чур.

Марыся.
Як бацькі захочуць мусіць,
Я ні ставу вельмі трусіць,
Загалашу са усіх сіл—
Апанас то мне ні міл!

Марыся і Пятрук (разам)
Як бацькі нам сваю волю
Скажуць, то мы нашу долю
Богу ручым; Ен місьцюк,
Збавіць нас с тых цяжкіх мук.

Марыся. Мы тут загаварыліся, а мне пара ужо у дарогу. Памажы упратаць пакой, а там пайду с паненкай папрашчаюся.

Пятрук. Ці-ж ты мяне на прашчанне ні пацалуеш? (падбліжаецца да яе).

Марыся. (стыдліва) Да калі-ж я саромлюся...

Пятрук. Чаго? Ці-ж ты ні мая нявеста? Дзіуныя гэтыя дзеучаты! Перад вянцом саромяцца сваіх жавіхоу цалаваць, а па шлюбе то і дзяцюкоу рады.

Марыся. (даганяючы Пятрука, каторы уцекае) Ах, ты паганец! Будзь пэуны, што я нікога ні пацалую!

Пятрук. А мяне...

Марыся. Ну... тагды—па шлюбе... дзело другое; тагды па закону Боскаму я павінна цябе слухаць.

Пятрук. Паслухай-жа цяпер, мая ягадка!

Мярыся. Боязна, мой Пятручок. Часам хто угледзіць, (угледаецца ва усе бакі).

Пятрук. Німа нікога у пакоях, а паненка пашла да кухні. Ну... (падсунуушыся блізка да яе, сьпевае).

Сплюшчы вочы, а так... скора,
Пацалуй, мая сікора.

Марыся. Што рабіць,—ты ні адчэпішся, пакуль ні пацалую (цалуе яго ды, адскочыушы, закрывае вочы хвартухом).

Пятрук. (падскаківаючы,—пяе) А я цябе пацалую у цемным куточку!..

Марыся. (даганяючы яго,—бье) Баш, паганец, яшчэ сьмяецца! Бярыся за стол да вынясем яго у першы пакой. (Ачышчаючы сцэну, выходзяць. Здалеку чуцен сьпеу Пятрука: «А я цябе пацалую...»)

---

**(Заслона.)**

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ.

---

(Сцена прэдстауляе бераг лесу: у глыбі відаць веску; на лева—багаты двор, а на права, каля лесу, так сама у глыбі сцэны,—мужычая хата. З-за дрэу відаць, высунутыя да паловы, калесы, на каторых сьпіць Гапон Бадрычка, зьвесіушы галаву; каля яго сьпіць, сідзючы, апершы галаву у луку калес, яго жонка Куліна. Выходзіць з двара Пятрук с кароткай люлькай і у задуме гаворыць).

### ЗЬЯВА І.

**Пятрук** (адзін).

Пятрук. Ледзь адпрог коні, так зараз выбег са двара, штоб пабачыцца с каханай Марысяй. Пан у залёты і фурман чэраз плоты. Ну, ужо гэтаму пану, то, пэуня, служыць пякельная сіла: што толькі здумае, то зараз збудзецца. Выежджаючы з дому бедавау, што на трох конях гоніць у залёты; глядзі ты,—ні даехалі мы да Машанскай карчмы, аж якісь жыд ляціць на каламажцы, а обак тут жа прывязана кабыла прыгожанькая, аж міла на яе палюбавацца,—ножкамі перабірае—вось паненка у танцы,—пырскае весяла, шыю у дугу сагнуушы. Пан аж казау прыстаці, штоб падзівіцца хараства. Пытае жыда, чы ні прадасьць. А паганцу так і падавай. Слова за словам—старгаваліся пятнаццаць рублеу. Гэта-ж рэч нісьлыханная. Я ад слова дау бы за яе трэйчы пятнаццаць да і яшчэ дзесятак дабавіу-бы. Здаецца толькі, ці ні крадзенная, што так за нішто амаль уступіу. Пэуня і пан тое спазнау, бо адразу засуліу малую цану, а жыд, псяюха, і згодзіуся. Тут мяне пан скарэй па хамут і пастронкі конна да дому пагнау, а сам астауся чакаць у Машанскай карчме; і аж душа расла, як мы чацьвярней сюды пад'ехалі пад ганак. (думае) Цьфу, ты пропасьць! Здаецца, я гэту клячу гдзесь бачыу. Гнедзенькая з белай латай на лбе... так-жа белакапыта. Ну, вось... ані як ні прыпомню, а яна мне знаемая... (падыходзіць да калес і, агледзіушы сьплючых, спыняецца зьдзіулены) А-а-а! Гэта што за дзіво? Бацькі Марысі... Які дур на іх напау, што падкацілі пад лес калесы ды улегшы на іх, паснулі? А-а... (стукнуушы рукой у галаву) пачакай! Ці ні у іх я толькі бачыу капля у каплю схожую кабылу? Здаецца так... так, так... Цяпер сьцяміу. Куліна прасыпаецца; схаваюся за дрэво ды паслухаю, які чорт іх сюды загнау. (хаваецца).

## ЗЬЯВА III-ая.

### Гапон і Куліна.

Куліна. (пацягваецца, пазеваючы працірае вочы; чухаецца; агля-даецца на усе староны, спуджаная; саскаківае с калес, заглядае у глыб лесу, а посьля будзіць мужа).

Дзед, дзед, дзед, дзед!
А кабылкі нашай нет!

Гапон. (У тым часі, як яна пяе, злазіць с калес і, агледаючыся на усе бакі, адказвае).

Ці ты, баба, ашалела,
Гдзе-ж кабылу ты падзела?
Ты-ж на перадзі сядзела, —
Дык на вошта-ж ты глядзела?
Што-ж перад носам мела?
Што маучыш,—чы асавела?

Куліна.

То-ж ты, Гапонка, мужчына,
К табе належыць скаціна.
Мая-ж толькі віна цэла,
Што на перадзі сядзела.
І ты-ж сядзеу на калесах,
Нос твой быу аж пры атосах;
Відаць мы, абое спалі,
Як у нас кабылку кралі.
Досіць з мяне таго стало,

Гапон.

Глядзі, каб была скаціна,
Будзе у рабоці дубіна.
Ты-ж на перадзі сядзела,
Так на вошта-ж ты глядзела?
Вось як вярнуся да дому.
Мушу ісьці к score аканому.
Ен там крыкне: «Ах, ты гадзе!»
І кулака у вухо усадзе,—
І будуць розгі у рабоце,
Мо'а дзіця асіроце.
Скажэ: душу чорту прадай,
За кабылку грошы аддай.
А тут, баш,—душа такая,
Што чорт яе ні прымае.

Гавары, каб ты хварэла!
Чаго, гадзюка, зьбядзела,
Вось як бы сем дзен ні ела—
Блекату нажвацца усьпела.
С чаго-ж ты так ацурэла?

Кулина

Што паміж пнеу кіравала,
А як пасеку мінула,
Вось і я крыху заснула.
Дык за што-ж ты мяне лаеш?
Чы-ж прыгаворкі ні знаеш?
Ні вер у зьвецці нікому:
Каню у полі, жонцы у дому,
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам воду мерыць.

Гапон

Бо да таго наш пан прыгожы,
Што душу у банк заложыу;
І чорт, відаць, гэта знае,
Так душ нашых ні купляе.
Цяцер сьмерць—пацеха цэла.
Ці ты, баба, ашалела?
Гдзе ты кабылку падзела?
Ты-ж наперадзі сядзела,
Так на вошта-ж ты глядзела?
Як вазіу я у места дровы,
Усякі раз быу грош гатовы:
Усяго я меу здаволі,
Лыкау, селядцоу і солі.

Гапон і Куліна (разам).

Як прапала кабыла,
Так ты мяне пагубіла,
Так ты мяне суздром зьела,
Ці ты баба ашалела,—
Гдзе ты кабылку падзела?
Ці прыгаворкі ты знаеш?
Ні вер у сьвеці нікому;
Каню у полі, жонцы у дому,
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам воду мерыць.

Куліна. Паглядзі толькі,—то-ж мы амаль да самай хаты даехалі. Відна, тутка скацінка астанавілася траву скубсьці, а як гэта свавольніца Марыся угледзіла, што мы сьпімо на калесах, пэуна с парабком ціха адпраглі клячку і завялі яе у хлеу. Зазаву толькі Марысю—абачым, што ты крычау на мяне ніспраўядліва (падыходзіць пад хату і клічэ:) Марыся! го, Марыся!...

## З Ь Я В А III-ая.

### Тыя самыя і Марыся.

Марыся (выбегаючы с хаты). Хваліце Бога,—вось і бацькоу дачакала. Як можна было так доуга сядзець у месьці? Маці казала, што к абеду вернецца, а тут ужо і вечар на дварэ (падышоушы бліжэй). А гэта што,—гдзе кабыла? Да на чом-жа бацькі прыехалі?

Гапон. Бачыш, дачушка,—едучы мы абое паснулі і самі ні сьцямім, як тутака ацынуліся. Ці-ж вы с парабкам ні выпраглі кабылы?

Марыся. Парабак у лесі дровы сячэ, а я і у вочы ні бачыла кабылкі!

Гапон. Ах, доля-ж наша горкая! Відна, як мы крэпка паснулі, зладзеі адпраглі скацінку; трэба папрасіць каня у суседа Ігната і гнацца.

Куліна. Ці ты адурэу, ці што? Куды ты пагонішся? Для цябе дзесяць дарог, а для злодзея адна.

Гапон. Ды няужо-ж, рукі сашчаміушы, тут стаяць ды галасіць? Гэта-ж цэлае багацтво. Добра мне казау кум Тодар: «Ні купляй ад аканома скацінкі,—рукой ні пойдзе, на крадзеным, баш, аусе ускормлена»; вось і праўда. А тут яшчэ абецау аконаму на гэтым тыдні аднесьці рэшту грошы нідаплачанныя за кабылку. Што я, бездольны, зраблю?

## З Ь Я В А IV-ая.

### Тыя самыя і Пятрук.

Пятрук (выходзіць з-за дрэу). Хай будзе пахвалены!

Гапон. На векі векау.

Марыся. Ах! (спусьціушы вочы, нізначна узіраецца на Пятрука і грозіць яму пальцам).

Пятрук. Добры дзень, бацька Гапон! Добры дзень, маці Куліна, добры дзень, Марыся! (кожнаго цалуе у руку). Якая тут у вас вазьня?

Гапон. Баш, мы с кабетай ехалі ранкам з места ды на калесах паснулі. Панас,—ніхай яму дабро,—сваім гашчэннем амарочыу нам галовы, дык вось прыгода сталася: пад самым домам злодзей выпраг кабылку. А ты, Пятручок,—што ты у нас робіш,—пэуна за Марысяй прыцягся? Кепска, што для дзяучат кідаеш службу. Ды нішто з гэтаго ні будзе,—я ужо Марысю абецау Панасу. Ен, бач, мне дакляравау пазычыць трыццать рублеу даплаціць аканому за кабылку. Ой, горкая ж мая долячка! Гдзе-ж я адшукаю яе?...

Пятрук. Бацька Гапоне, ні прагневайся да паслухай мяне з увагай. Я хоць яшчэ і ні стары да нацягауся па Божым сьвеці здаволі; быу і на kані і пад канем. Ой, ні з аднэй печкі прышлося мне на долю хлеб спажываць. У вас адно дзіцятко,—гэта кажуць, як воко у лбе. Тож калі вы яе адпусьціце у чужую хату ды яшчэ да мужыка ні па сэрцы, то бедная зязюлька, таскуючы па бацькох, гатова і памерці. А вы-ж тут без яе ці будзеце вяселы? Ды і хату хто паддзержыць, тож ні маеце дзяцюка... Яна-ж, бедная, будзьце пэуны, за Панасам ні нажывецца,—таска без пары зьвядзе яе у магілу; тады чыя-ж рука на старасьці прымкне вашы вочы? Хто на магілках паняне душачкі вашы?...

Куліна (плачучы). Прауда, прауда, мой Пятручок! Я ні сто раз тое казала, ды на ліхо—вельмі упарты. (Марыся плачэ, закрыушы вочы хвартушком).

Пятрук. Як казел у капусьце.

Гапон. Бачыш, мой Пятручок, ен пазычае мне трыццаць рублеу.

Пятрук. Паслухайце-ж. Я лепшую падам раду; нараю вам такога, што і дачушкі вашае ні вывядзе з дому; места трыццаці—пяцьдзесят рублеу, і то ні пазычыць, а так дасьць вам на запамогу гаспадаркі. Да што яшчэ важней,—скацінку вашу адшукае, а вы узаем вазьміце яго к дачцэ у прымакі. Ці гэтак складна будзе?

Гапон. Да мой жа ты, лебядзька, нарай жа ты нам гэтаго дабрадзея!..

Куліна. Што-б толькі Марыся ні чуралася, а то яна, бедная, за Панаса ужо выплакала зрэнкі.

Марыся. Калі ні за Панаса і пры бацькох астануся, то ужо і плакаць ні буду.

Пятрук. Ага!..

Спазнала галубка, скуль самец буркуе;
Тужыць перастала, ручнікі гатуе.

Марыся. Паганец ты, без кепікау таж ні мінуты ладам ні пагаворыш! (бье яго,—ен адскакiвае).

Гапон. Што гэта ты добраго чалавека кулакамі частуеш?

Пятрук. Нічога, ойчэ Гіпоне, ведаеце прыпавесьць: хто каго любіць, той й таго чубіць. О ж суджоны, катораго вам раю,—гэта я сам, а калі ваша ласка будзе прыняць мяне у прымакі к Марысі і паблогаславіць нас,—чаго і яна вельмі хочэ, хаця дзеля сарамлівасьці быццам чураецца,—то наперад вазьміце ад мяне пяцьдзесят рублеу, з іх трыццаць сягоння-ж аднясіце аканому.

Гапон. А як-жа с кабылкай будзе?

Пятрук. Дзеля кабылкі вось што выкрываецца: як вы на калесах паснулі, а яна прыстала,—жыд, якісь, канакрад, ціхінька адпрог, а сустрэушы нас сягоння па полудні—пусьціуся з маім панам у торг; слово за словам, кабылка за пятнаццаць рублеу перайшла к нам, а цяпер у стайні нашаго двара авес з другімі коньмі спакойна спажывае.

Гапон. Ці-ж твой пан ні сьцяміу, што яна крадзеная,—асабліва, што нехрысьць так танна яе уступіу?

Пятрук. Мой пан лепш любіць купляць крадзенае, бо кепствам можна выкруціцца. Отс-ж, ойчэ Гапоне, ідзіце да аканома, аддайце грошы і папрасіце, штоб заглянуу з вамі да стайні; а калі спазнаеце, што гэта ваша кабылка, то нічога нікому ні кажучы, на усю ночку ляціце да стану аб'явіцца там аб кражы і у каго яна знаходзіцца; тож прасіце, каб вам яе вярнулі.

Куліна. Вось, здаецца, малады, а старога дурня навучыу розуму. Мы пойдзем у хату, а вы падкаціцце пад паветку калесы ды ідзіце да работы.

Пятрук (паказываючы на Марысю). А з намі што будзе?

Гапон. Бяры яе, бяры! Ніхай вас Бог блогаславіць, як мы благаслауляем, бацькаускім сэрцам прымаем цябе за сына. Толькі-ж глядзі, трымай вухо востра, бо з яе будзе задорлівая жонка,—пашла, бач, па матцэ.

Куліна. Ні зважай на яго брахню, мой Пятручок, яшчэ ні выцьверазіуся.

Пятрук. Ні журыцеся, ойчэ Гапоне,—а паслухайце прыпавесьці:

Змагла піла хвою, дуб,—
Залеза сьпіліла,
Да на цьвердай сталі зуб
Суздром вышчэрбіла.

(Выходзяць: Гапон, за ім Куліна, далей Пятрук, а за ім ідзе Марыся і бье яго кулаком па карку; Пятрук павертаецца да яе і, сьмяючыся, паутарае апошняе слово: „вышчэрбіла").

---

**Заслона.**

## ДЗЕЯ ТРЭЦЦЯЯ.

(Саля прыбраная па-панску: направа—канапа, а прад ей—доугі стол, накрыты вялікім, аж да самай зямлі, узорыстым настольнікам; з леваго боку і у глыбі—дзьверы).

### ЗЬЯВА І-ая.

**Адэля** (адна).

Адэля (Выходзіць у задумі з баковых дзьвярэй і, крыху пачакаушы, кажэ): О, салодкія, залатыя сны маладога уяулення! Як хутка выпамяцелі... Сенейка мне наказуюць паважна глядзець на жыцце (думае) «Дачушка мая, ты скончыла ужо восемнанцаць гадоу,—час ужо табе падумаць аб тым, да чаго створана кожная кабета. Я выбрау табе мужа. Чалавек гэта хоць і ні малады, але сталы, багаты, а што найважней—першы гаспадар. Мне здаецца, што пад яго апекай дарога твайго жыцця будзе слацца кветкамі»... Так казау мне бацька. Дагадваюся, аб кім ен думае—аб Сабковічу; той другі ужо дзень тутака гасьціцца (малая пауза). Гэтакім парадкам без мяне і маей згоды на гэта распараджаюцца маей будучынай... (Думае, а пасьля топнуушы нагой). Не! Так ні будзе... Мае бацька уласьць нада мной, але мусіць ні захочэ быць маім тыранам і змушаць мяне выйсьці за нінавістнаго мне чалавека. Ах, гэты Сабковіч!.. Глядзець на яго ні магу (паказваючы на сэрцо). Нешта тамака гаворыць, што з ім я ніколі ні магла бы быць шчасьліваю. Але, калі бацька захочэ мяне змусіць, што я зраблю нішчасьлівая?! Каб жа-ж хаця прыехау гэты Стась, то бы я з ім параілася... (думае). Фі, мне нівыпадае яго так называць,—ен для мяне цяперака пан Станіслау (пауза). Мілы Божэнька! Як цяперака падумаю сабе—якая я была дагэтуль шчасьлівая! Бацькі мяне галубілі і нават гэтым самым псавалі; цэлы сьвет так усьміхауся мне. Стась (аглянулася) хачу казаць—пан Станіслау,—с самаго маленства, каждую хвілю, на каждым кроку, у кожным найменьшым нават выпадку, быу такі шчыры мой прыяцель. О, добра я памятую усю сваю мінуушчыну.

Помню дзяучынкай быушы малою,
Калі дзіцячы думкі снавала,
Стаська свавольны бегау са мною,

З ім я дурэла, у цацкі гуляла.
Ах, ішлі нам сьветла дні тыя.
Думкі йшчэ помняць іх маладыя.
Як ужо дзесяць годзікау мінуло,
Стаська жаніх твой,—бацькі казалі;
Нейкая у сэрцы радасьць кіпела,
Твар чырванеуся, вочы палалі,
Люба было нам, Я яго звонка
Клікала мужам, ен мяне жонкай.
Як лет шэснанцаць зьбегло, другія
Сьціснулі думкі сэрца гулянне,
Ужо у ім хаценне новае ные.
Клічу нясьмела Стася ужо: пане.
Ні заву мужам, хоць сэрцо хочэ,
Бо розум іншы і стыд дзявочы...

(Хвіліну падумаушы, тупае нагой і кажэ). Паскудны Стаська! Калісьці штодзенна бывау у Парэччы; адну хвіліну ні мог абыйсьціся без мяне, а цяперака, калі ен найбольш мне патрэбны, як у воду капуу. Ужо трэцці дзень, як ні прыеждждае. (У пачатку гэтаго манольогу Станіслау Зацнеускі, увыйшоушы ціхінька, крадзецца, а потым патэтычна гаворыць. Адэля пры першым слові Станіслава, спудзіушыся, ускрыківае: „Ах!“.

## З Ь Я В А II-ая.

### Станіслау і Адэля.

Станіслау. Як дух выклікаушы, стаю прад маей паняй і стаю страшэнна замаркочаны...

Адэля. Чаму-ж гэта?

Станіслау. Што гэта пані пытаешся? Ці Сабковіч ні госьціць у вас і ці пані ні абецала яму свaей рукі?

Адэля. Прауда, бацька наладжывае гэта, але што пану да гэтаго?

Станіслау. Пані мяне пытаешся аб гэтым... Пані, с каторaю з малку аж да сягоння мы прабеглі рука аб руку, шануючы свайго . . . .*) жыцця так, што ні адна калючка найменьшай нязгоднасьці ні зраніла нашаго сэрца.

Адэля. Дзеля таго, што пан стараўся, каб я гэтых калючак ні зазнала; але да чаго кіруецца уся гэта гутарка?

Станіслау. Адэля,—выбачайце,—панна Адэля,—ці-ж з маіх паступкау, з маіх вачэй ты ні вычытала таго, як ты дарага майму сэр-

*) Працушчано у арыгінале. (Рэд.).

цу? Я жыць ні магу без пані; пры мыслі, што магу страціць цябе— шалею. О, ты кінула па мяне страшныя чары...

(Пяецца так, як «Кветы» Ст. Манюшкі).

Адэлька анелак,—ты сонцо, ты кветка!
Зрачыла мяне ты паглядам
І сэрцо узяла мне, як колас с палетка,
Спакой мой забіла, як звадам.
На яве абраз твой у думках квяціцца,
І сон мне абраз твой салодзе,
Майго адчування і дум ты царыца,
Дух твой ад мяне ні адходзе.
І воблік анельскі і погляд анельскі,
Анельска душа твая пэуна.
Тваіх ні зьлічу усіх аздоб я нiземскіх,
Ты сэрца майго каралеуна.
Як бура душы маей, сум мне нагоне,
Верх людзкай твая мусіць сіла,
Бо голас твой шчыры вяселасьцю звоне,
Пагоду у душу мне лье міла.

Адэля. Ах, чаму-ж так позна, Станіслау, адкрываеш мне сваю душу?

Станіслау. Пані Адэльця, ты магла навучыцца, з маленства ідучы бок-о-бок са мною, чытаць у маім сэрцы. Ці-ж мог я прасіць тваей рукі, ні упарадкаваушы сваіх дзел, запутанных у часі маленства маімі апекунамі? Ці мог я думаць аб тым, каб увясьці у клетку птушачку, ні устроіушыся так, каб гэта няволя, канешная у грамадзянскім жыцці, была для яе раем? Мой гонар і пашана, якую я маю для пані і бацькоу пані, ні пазвалялі мне да часу ніпакоіць нявіннае сэрцо тайным каханнем. Я пастанавіу, што як толькі нізалежна устроюся, выліць прад паняй тое, што чую і, адтрымаушы пазваленне пані, прасіць у бацькоу вашай рукі, так патрэбнай для майго шчасьця. Адзін раз толькі—ах!—залатымі літэрамі запісана гэтая хвіліна у маім сэрцы... Пані тагды кончыла пятнанцаць гадоу. Прыехаушы з унівэрсытэту, знайшоу я вас над сшыткам занятою чыстапісаннем; у пакоі нікога ні было. Я, зможаны магнэтычным узглядам пані, забыуся і адкрыу сваю душу... О, памятна для мяне гэта салодкая і найшчасьлівейшая хвіліна у маім жыцці.

Як пытау цябе, галубка,
Ці успадобу я табе,
Стыду сьвет убачыу з губкау,
Мой анелак,—так ці не?
Папрасіу: скажы жычліва,

Які-ж прыгавор быу твой?
О, судзьдзя мой міласьцівы!
«Так,—шапнула,—любы мой».
Долі сам сваей ні верыу
І маліу ізноу цябе,
Каб ты перкам на паперы
Напісала «так ці не».
Ну, і стау шчасьліу я дужа,
Ужо у раю я на мяжы:
«Так» з пад перка вышло, дружэ,
«Так» сягоння мне скажы.

(Кажэ). Як пані думае, што я зрабіу с тою паперкаю, на каторай твая ручка напісала такі дарагі для мяне прыгавор?

Адэля. Ты яе, пэуна, падзер.

Станіслау (вымаючы мэдальон з запазухі). Абмылілася ты. У золато яе аправіу і заусягды нашу яе пры сэрцы і нават магу упэуніць, што гэта мілая для мяне памятка пойдзе са мной у магілу.

Адэля (выцягівае да яго абедзьве рукі). О, мой даражэнькі Стасю, які ты добры, шляхэтны!

Станіслау. Значыцца, ты мяне любіш?

Адэля (наіуна). Здаецца... але найлепш сам асудзі, дружэ, с таго, што у душы маей робіць кожная твая бытнасьць у нас.

(Романс).

У садочку цьвітучым па сьцежачках, польнай
Пахучай травіцай засланых,
Я змалку дзен с Стасем гуляла свавольна,
На воку бацькоу мілаваных.
Стась міла забавіць патрапіу зауседы:
Ці птушку з гнезда мне дастане,
Ці кветак нарве мне, ці ягад з гароду,
Чым будзь асалодзіць гулянне.
Як посьля навукам ен стау аддавацца,
Яму у сэрцы удзячнасьць хавала.
Бывала, як госьці пачнуць к нам зьбірацца,
Я толькі яго сустрэчала.
Часіну ту помню, што успомніу сягоння,—
Глыбока мне у сэрцы засела,
І страх нейкі с пары той адвагу проч гоне:
Стаюся пры Стасю нісьмелай.
Сягоння я думкай к яму далетаю,
Душа к яму рвецца, як птушка.
Абняць за абняцце ахвоты шмат маю;

Ен верны у гóры мой служка.
Як гляну на Стася, я уся шчырванею;
Як з ім гавару—уся трасуся,
Трапечацца сэрцо, душа прамянее,
К яму уздыханнем нясуся.

(Кажэ). Дык вось сам асудзі, дружэ, ці гэта каханне, ці можэ толькі прыязьнь.

Станіслау. Дзякую табе, анелчыку даражэнькі, за шчырае прызнанне твайго нявіннаго сэрцайка. Калі Бог дасьць споуніцца нашым найгарачэйшым жаданням і злучыць нас назауседы, тады пасьвянчуусе свае жыцце на тое, каб зрабіць цябе шчасьліваю.

Адэля. Але якжа-ж мы пазбудземся гэтаго Сабковіча?

Станіслау. Супакойся, даражэнькая! Хаця я ні быу пэуны свайго шчасьця, усе-ж такі, пачуушы у нашым куце аб тым, з якою мэтай гэты зладзюга прыехау да вас—асабліва, што і ен сам, німа ведама чаму, усюды гаворыць аб сваіх плянах, ні адкладаючы паехау да маршалка Пачціускаго—прызнауся яму, што хачу жаніцца с табой і казау аб залетах гэтаго інфаміса Сабковіча. Маршалак пазелянеу ад злосьці, даведаушыся, што яго прыяцель, каторы хваліцца, што адразу пазнае чалавека і чаго ен варт, так страшэнна абмыліуся і ні толькі прыймае у сябе чалавека, катораму ні можэ быць мейсца сярод справядлівых людзей, але нават абяцуе аддаць за яго сваю дачку. Ен добра знае Сабковіча, каторы служыу за пісара у яго сваякоу Суліко-ускіх і добра іх абскубау. Гэты першы яго крок па сьвеці быу першым і самым глауным фундамэнтам яго багацця, якім ен цяперака так хваліцца, а каторае ен здабыу падобным спосабам. Маршалак паслау мяне папярэдзіць, каб пані, да яго прыезду, барані Бог, ні зрабіла ніякога рашучаго кроку. Ні трэба было мяне падганяць, ускочіу на сівака,—а мой арабчык як бы згадау, што мне пільна, пусьціуся з ветрамі на выперадкі. Праз ні поуных сорак пяць мінут я быу ужо у хвортка мілаго для мяне с памятак вашаго саду; я пацалавау свайго коніка, каб падзякаваць яму і прывязау яго да плоту, а сам ціхінька, каб ніхто ні згледзіу мяне, як вуж шмыгнуу да дому і ось стаю прад паняй. Толькі жэужык Адольфак, каторы у садзі сярод агрэсту шукау нтушачых гнездау, спаткауся са мной, але ен наш сябрук,—нінавідзіць Сабковіча. Кажэ, што як згледзіць яго, дык яму прыпамінаецца слауны начны Парыжскі герой, Картуш, біяграфію каторага ен нідауна чытау. Я паставіу гэтаго хлопца, каб пільнавау і сказау мне, калі бацька с Сабковічам будзе вертацца с прагляду гаспадаркі. Дык вось трэба кратацца, каб як найхутчэй выкурыць адсюль гэтаго зладзюгу. (Выймае с кішэні зложаную паперу). Гэта, даражэнькая Адэльця, песянька, каторую засьпевай як колячы, бытцым вучучыся, тады, калі Саб-

ковіч будзе адзін у гэтым пакоі. Толькі голасна і выразна, каб ен пачуу; калі ен мае хоць крыху розуму, дык ураз-жа павінен уцячы.

## ЗЬЯВА III-ая.

**Тыя самыя і Адольфак.**

Адольфак. (убегшы). Бацька с Картушом вертаюцца, ужо на ганку. Уцякай, пане Станіславе, у гэтыя дзьверы, бо у тых можаш спаткацца.

Станіслау. Памятай, Адзя, каб ні доуга тутака бацька быу с Сабковічам і як кольвечы знайдзі прычыну, каб яго выклікаць адгэтуль.

Адольфак. Будзь спакойны, уцякай. (Станіслау пайшоу).

Адэля. Адзя, добры хлопчык, ні кажы так наперад, бо можаш напсаваць усе нашыя планы. Хадзем. Я дам табе канфітур.

Адольфак. Ого, ці я баба, каб ні мог датрымаць сэкрэту? Хітрая ты, мая сястрычка... (пайшлі).

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Судздзя Сакальніцкі і Сабковіч.**

Судздзя. Так, пане Антоні, ведаю, што ні шукаеш пасагу, але я хачу быць акуратным і дзеля таго ураз па шлюбе адрахую табе дзесяць тысячак банковымі білетамі; далажыушы іх да свайго капіталу, зможаце купіць добры маентак.

Сабковіч. Гэта ужо панская справа, а я, у свой чарод, магу упэуніць дарагога судздзю, што ні ганюся за капіталам; глаунае мае жаданне быць панскім сынам і мужам шаноунай дачкі вашай.

Судздзя. Веру, веру пане Антоні! О, я мігам патраплю пазнаць чалавека,—ні здарма завуся Сакальніцкім. Я адразу пазнау, што ты справедлівы чалавек.

## ЗЬЯВА V-ая.

**Тыя самыя і Адольфак.**

Адольфак. Тата, аліндор чакае у габінэці на тату; кажэ, што мае пільны інтэрас.

Судздзя. Іду. Выбачайце, пане Антоні, што я мушу цябе тут аднаго пакінуць, але ураз прышлю табе мільшую для цябе асобу,—ні змаркоцішся. Пайдзі, Адзя, да сястры і скажы ей, каб прыйшла да дарагога гасьця. (Пайшоу).

Адольфак. Можэ сястра ураз ні здалее прыйсьці сюды; ей прыслалі якуюсь песяньку і яна цяперака яе чытае, а ураз пан пачуеш, як, будзе сьпеваць (выбегае сьмяючыся).

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Сабковіч** (адзін).

Сабковіч. Дык што.. Стары дурань думае, што яго дачка мне да упадобы О, прайшлі ужо тыя часы, калі хлопцы за адзін узгляд красоткі гатовы былі скочыць у агонь, у воду. Дык што... У цяперашніх часох усе залежыць ад грошай. Праўда, панна Адэля і пекная і разумная дзяучына, дык што... каб ні мела зьвінячай прыманкі, то, напэуна, я нават і ні падумау бы, каб жаніцца з ею. І яна, мне здаецца, так сама, дык што... родная дачка Эвы. Ведаючы ад людзей, што я багаты, натта мусіць хочэ выйсьці за мяне замуж і, што больш, як пэуна, любіць мяне, галубка. Дык што... Ось і прачуванні сястры. О, я хаця і ні лізнуу кніжнай эдукацыі, дык што... але згадау сваім дурным розумам, што грошы увядуць мяне у вышэйшыя сфэры, дык што... (чутно, як нехта пачынае іграць на фортапьяні). Ось, як уважаю, яна хочэ мяне забавіць музыкай, дык што... для мяне больш прыемнасьці робіць шуршанне банковых білетау дарагога бацькі, як ігра яго дачкі. Ціха, нешта пяе, дык што... паслухаем (за кулісамі чуцен сьпеу часта прарываны, як, бы хто вучыуся).

Адэля (за сьцяной).

У чарадзейскім нашым коле
Укаранілося гугэлле.
Каб ні зелле, наша ніва
Каласілася, б шчасьліва.
Часта між людзьмі бывае,
Праўда у тых, хто грошы мае,—
Бразьне вошуст кішанею,
Гнецца усе прад ім лазою.

Сабковіч. Дык што... Ці-ж ні добра я мяркую?!

Адэля (далей).

Есьць тут пан с паноу Сабковіч,
Што усе дражнюць «дарабковіч».

(Пауза).

Сабковіч. Што, што? Аба мне пьяе,—хітрая, дэлікатная; сьпеваючы, хочэ выказаць тое, што чуецца. Глядзіце, трэба-ж гэта! Паслухаем, што далей будзе.

Адэля.
Свінапас быу змалку летау,
Седні дзьмецца, як цар сьвета...

Сабковіч. Што, што?.. О!.. (атарапеушы).

Адэля. Скуль-жа пыха у гэтай шэльмы?
Вота-ж верыць у грошы вельмі,
Бо на службе пры палацы
Доугіх рук ні жалеу працы.

Сабковіч. І гэта нават! Дык што...

Адэля. На зладзейскай ехау снасьці,
Крау, што можна было украсьці:
Срэбро, медзь, нават раменне,—
Усе у свае сьпіхау кішэні.

Сабковіч. Скуль жа-ж, да чорта, яна аб гэтым знае?.. (зусім зьбіты с панталыку, слухае далей).

Адэля. Боскіх прауд забыушы дбаці.
Як той крэз сабрау багацце;
Седні балі выпрауляе,
Каб падхлебнікау мецць зграю.

Сабковіч. Гэта інтрыга нідапечаннаго акадэміка, дык што... Нічога ні зробяць. Калі бацька на маей старане, пастаулю на сваем. Легка растлумачу, што гэта інтрыга, да каторай, дык што... належыць і яго дачка.

Адэля. Есьць-жа людзі, што, хоць сорам,
Торг вядуць сваім ганорам;
Нават, як да пня апенькі,
К «шэршню» ціснуцца паненкі.
Стуль і прыказка на гэта:
Прауду выгналі край сьвета.
Нелюдзь з золатам без бою
Верх бярэ над праватою.

Сабковіч. Так, паненачка, так, пане акадэмік! Вы, як я бачу, згаварыліся, каб выжыць мяне з гэтаго дому, але страшэнне вы абмыліліся. Бацька мае да мяне слабасьць, я выдумаю казку, быццым пан акадэмік баламуціць яго дачку і, хочучы маей адправы, кідае на мяне уселякія бруды. О, пачакайце, галубочкі, ні удасца вам тое, што вы хочыце зрабіць!

## З Ь Я В А VII-я.

**Сабковіч і Адольфак.**

Адольфак (убегшы). Пан маршалак Пачціускі с панам Зацнеускім толькі што прыехалі. Пан Станіслау на сваім арабчыку. Які гэта пекны конік, проста цацачка!..

Сабковіч (страшэнне перапуджаны). Што, што, што? Маршалак Пачціускі? Дык што... гдзе ен?

Адольфак. На ганку з бацькай вітаюцца; але пан маршалак на хвілінку толькі заехау дзеля таго, што мае пільны інтэрас у горадзі, а міма праежджаючы, як ен казау, ні выпадае ні заехаць, каб даведацца а здароуі дарагога суседа. Нават каней ні пазволіу адпрагчы, як ні прасіу яго бацька.

Сабковіч. О, дау бы-ж то Бог, каб ен, дык што... як найхутчэй выехау адсюль (на голас) Слухай, Адольфак! Дык што... як тутака можна выйсьці у сад, каб ні спаткацца з новым госьцем? Дык што... бачыш, мой даражэнькі, я ні хацеу бы спаткацца з маршалкам, ен гневаецца на мяне за тое, што я так дауно ні быу у яго (у старану) Да чорта,—ен бы мяне выкінуу за карк (на голас) дык што..

Адольфак. У сад адзін выхад праз глауныя дзьверы і ганак, гдзе цяперака тата і гутарыць з маршалкам; другі—праз пакоі Адэлькі, але цяперака тудой прайсьці ні можна: яна апранаецца. Бяда нівялікая, што маршалак крыху прыстыдзіць пана за гэта, пан паабецаеш пізадоуга быць у яго і будзе згода. Але чутна ужо іх гутарка; бацька, мусіць, вядзе госьця сюды. Пайду падганю сястру, каб хутчэй сюды выйшла (выбегае).

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Сабковіч** (адзін).

Сабковіч. Ось, папауся, дык што... Маршалак такі злы на мяне за Сулікоускіх і Валовічыху, што, пабачыушы мяне тутака, гатоу зрабіць мне вялікую ніпрыемнасьць і настроіць проці мяне судздзю, дык што... Ен заехау толькі на хвіліну. (бегае па пакоі, заглядаючы у ва усе куткі). Каб знайсьці тутака мейсцо, каб схавацца? дык што... Праз хвіліну судздзя ні паспеу бы параіцца з маршалкам аб пастанові, дык што... сваей дачкі. (у гэтым мейсцы Адольфак падглядывае праз бакавыя дзьверы, што робіць Сабковіч). Як на бяду німа падхадзячаго мейсца, каб схавацца. Ах, дык што... схаваюся пад стол; доугі настольнік патраніць схаваць мяне ад маршалка (лезе пад стол і нацягвае крыху настольнік, каб закрыць сябе, але ні ад публікі; гэтак схаваушыся, высунуу галаву с-пад настольніка і кажэ): Дык што... чартоускі ніпрыемнае палажэнне залётніка! Каб жа-ж хоць паненка аценіць гэта патрапіла. Але ціха, нехта ідзе; буду сядзець спакойна і паузіраюся, што тутака будзе рабіцца (хаваецца).

## ЗЬЯВА IX-ая.

**Адольфак і Сабковіч.**

Адольфак (увайшоушы з дубчыкам у руках, кажэ у старану): Ага, Картуш, папауся у мышалоуку! Пачакай, памучу я цябе добра тутака. (гамоніць) Трэзор, праклятая сабака! Куды-ж яна падзелася? Трэба яго накарміць дзеля таго, што ураз пойдзем на цэцярукоу с панам Станіславам. Усюдах набегауся, шукаючы яго. Трэзор, Трэзор! Мусіць улез пад стол і сьпіць тамака спакойна (штрухаючы дубчыкам пад настольнікам). Трэзор, вылазь хутчэй!

Сабковіч (Выглядаючы с-пад стала, у старану публікі): Дык што... дзеля любві к паненцы, а хутчэй дзеля грошай яе таты, буду хвіліну Трэзорам; быць можэ настрашу хлапчука (бурчыць, як сабака).

Адольфак. Што,—ты гэтак, пачакай, гад! Я ураз выгапю цябе с-пад стала. (мацней штурхае дубцом пад сталом).

Сабковіч (да публікі). О, на раны Хрыста! дык што... страшнае палажэнне!.. Хто мяне выратуе з гэтаго пекла?! Пачну брэхаць, можэ гэтым яго настрашу (заядла брэшэ).

Адольфак. Ні спудзіш мяне гэтым, ведаю, што ні укусіш мяне, выкуру цябе адгэтуль (усунуу руку пад настольнік і, сарваушы з галавы Сабковіча поупэруку, уцекае да сярэдніх дзьвярэй. Сабковіч, забыушыся, выскачыу с-пад стала і, даганяючы Адольфка, наскочыу на уходзячых: маршалка, судздзю і Станіслава; з бакавых дзьвярэй выходзіць Адэля. Усе стаяць зьдзіуленыя; Адольфак, бегучы да дзьвярэй, безупынна гамоніць):

Адольфак. Ах, чорт, чорт!..

## ЗЬЯВА X-ая.

**Маршалак, Судздзя, Станіслау, Адэля, Адольфак і Сабковіч.**

Сабковіч (ад страху ніпрытомны стаіць каля дзьвярэй).

Судздзя (Адольфаку, затрымаушы яго і вядучы за вухо пасярод сцэны) Што гэта, сарві-галава, за камэдыі выпрауляеш тутака?

Адольфак. Я, татачка, зусім нівінны; я шукау Трэзора і мне здалося, што ен сьпіць пад сталом; я і паштурхау тамака кійком; пад настольнікам нешта забурчало ды нават пачало брэхаць. Тады я разгневауся і, усунуушы руку пад стол, каб выцягнуць адтуль сабаку і, німа ведама чаму, трапіла мне у руку гэтая жыдоуская барада, а заместа Трэзора—выскачыу с-пад настольніка пан Сабковіч. Я, спуджаны, уцекаючы, крычау: чорт, і як раз тата прыйшоу.

Судздзя. Што гэта, пане Сабковіч? Падбліжцеся, я пазнаемлю пана з маім прыяцялем, маршалкам.

Маршалак. Знаю я яго добра. Што васан тутака робіш? Як ты пасьмеу лезьці у дом справядлівых людзей?!

Сабковіч (перапуджаны) Дык... дык... дык... пане маршалак; дык... дык... я прыехау, дык... да пана судздзі, дык... даведацца, дык што.. можэ мае прадаць жыта, ці лену.

Адольфак (падняушы настольнік, глядзіць пад стол). Далібог тутака німа ані лену, ані жыта.

Судздзя (глядзіць па чародзе то на маршалка, то на Сабковіча). Пане Антоні, растлумач, што ты рабіу пад сталом?

Сабковіч (ніпрытомны). Дык... дык... дык...

Маршалак (дражнючы). Дык... дык... Ось, я табе, дарагі судздзя, растлумачу усе чыста. Гэта птушка, даведаушыся аб маім прыезьдзе і ні хочучы спаткацца са мной,—ен ведау добра, што я яго па галоуцы ні пагладжу,—ні могучы уцячы дзеля таго, што мы надходзілі, схавауся пад стол. А ты, дарагі дружэ, каторы ураз патрапіш ацаніць чалавека,—страшэнна абмыліуся, прыймаючы у сваім домі гэту ягадку; а што найгоршае—хацеу выдаць за яго сваю дачку. Мушу табе адкрыць вочы: Сабковіч—нівядомаго роду, гадоу з дваццаць таму назад пасьвіу быдло у сваіх сваякоу; навучыушыся брыху чытаць і пісаць, дастау, на нішчасьце маіх сваякоу Сулікоускіх, мейсцо пісара і тамака, добра нахапаушыся, пакінуу службу. Праз нейкі час, мы яго бачым у пані Валовічыхі, кабэты з анельскім сэрцам і натта даверчывай. Ні марнавау ен і тамака часу, добрым прыкладам чаго можа быць здарэнне у адным мястэчку, гдзе людзі Валовічыхі, пазнаушы на конях Дарабковіча хамуты сваей пані, хацелі зацягнуць яго у стан і, каб ні уцек, добра меуся-б, галубок. Але найвялікшай запамогай яму была сьмерць графа Багацкаго. Нябошчык, падаючы у воду, выкінуу з бакавой кішэні бумажнік, а як ен трапіу да Сабковіча, ведама ні толькі Богу, а і людзям. Ось, скуль яго багацце! Потым ен узяу у арэнду ні малы хвальварак і заняуся быццам таргоуляй, каб замрочыць людзей. Вось хто Сабковіч, каторэго ты, дарагі судздзя, прыняу у сябе. Ну, што шаноуны, што адкажаш мне на тое, што я сказау?

Сабковіч. Дык... дык... Пане маршалак, якісьці ніпрыхільнік мой набрэхау, а пан маршалак паверыу.

Судздзя. А я, ніасьцярожны, толькі што ні зрабіу найвялікшаго глупства, дзякуючы сваей даверчывасьці. О, даруй, пане маршалак! Якая падзяка належыцца ад мяне і дачкі пану... (цісьне яму руку. У часі гэтай сцэны Зацнеускі і Адэля ціха гутараць; Адольфак круціцца каля Сабковіча, аглядаючы яго с цікавасьцю з усіх старон, і ад часу мешаецца да гутаркі сястры с Станіславам Зацнеускім).

Маршалак. А цяперака, васпан, ідзі туды, скуль прышоу, і ні рабі ганьбы справядлівым людзям сваею бытнасьцю. Шукай людзей роуных сабе.

Сабковіч. Дык... дык што, пане маршалак, дык пан праз меру суровы для мяне, дык што... дык што...

Судздзя. Я прасіу-бы, каб асан як найбарджджэй пакінуу дом мой, а што датычыцца таго, аб чым мы с асанам гаварылі, я прашу ні слова нікому ні казаць. Пан прыежджау купляць семе, леп.

Адольфак. Пад сталом...

Судздзя. Маучы Адольфак. (Сабковічу). Калі-б я даведауся, што ты распаусюжываешся аб тым, аб чым я с табой веу гутарку, то будзеш мець дзело са мной.

Станіслау. Ні с панам, дарагі судздзя, але з «нідапечаным акадэмікам».

Маршалак. Гэта у яго інтарэсі... Я трымаю адзін канец ніткі, па каторай ен, за нідатрыманне сэкрэту, можэ трапіць у ніпрыемны дом. Ідзі. (Сабковіч хочэ ісьці).

## ЗЬЯВА XI-ая.

**Тыя самыя** і **Ключвойт.**

Ключвойт. Хай будзе пахвалены!

Судздзя. На векі векау. А што, даражэнькі, скажэш?

Ключвойт. Выбачайце, я даведаушыся, што тутака пан Сабковіч, зайшоу паведаміць, што станавы яго трэбуець у справі мужыка Гапона Барычкі, каторы заявіу, што учора укралі у яго маладую кабылу, каторую ен купіу у тутэйшаго аканома. Гэта падцьвярдзілі, як ен сам, так і некольки суседзяу. Дзеля таго, што кляча гэтая у пана Сабковіча і ен прыехау сюды на ей, мне наказалі клячу забраць і аддаць, каму яна палежыцца, так сама і кажухі, каторыя нізаконна ен заграбіу у лубінскіх людзей. Яго самога наказалі даставіць у стан для дапросу.

Маршалак. Дык рабі, што табе наказана.

Ключвойт. (Сабковічу). Пойдзем, паночку! (пайшлі).

Адольфак (у сьлед ім). Бяры пан сваю пэруку, каб нас ні ганьбіланіводная яго рэч (кідае за дзьверы пэруку).

## ЗЬЯВА XII-ая.

**Гэтыя самыя**, апроч **Сабковіча** і **Ключвойта**.

Судзьдзя. Ніколі сабе ні дарую, што я гэтак аганьбіу маю дарагую Адэльцю, пазволіу гэтаму злодзею прасіць яе рукі. Ні ведаю, як загладзіць сваю віну.

Маршалак. А есьціка адзін найлепшы спосаб: ні адкладаючы выдаць яе замуж.

Судздзя. О, гэта было бы найлепш, але за каго? Калі, як на зло, німашка ніводнаго залетніка.

Станіслау (да Адэлі). Прыходзіць рашучая хвіліна, ад каторай залежыць для нас усе. Божэ, памажы нам!..

Маршалак. І гэта чалавек з саколім вокам!.. Ці ж ні ведаеш, што прымаеш у сваім домі часта нават натта дзяцюка, каторы хацеу бы аддаць усе свае жыцце, каб ашчасьлівіць тваю дачку, і на катораго і яна змалку глядзіць натта прыхільна.

Адэля (застыдзіушыся, боязна). Пане маршалак...

Судздзя. Хто гэта можа быць? Хіба пан Станіслау? Чаму-ж тады раней ні адкрыу мне сваіх думак? Ні было-б гэтых ншчасьлівых залетау.

Маршалак. Трэба быць сватам. Так, дарагі судздзя,—Станіслау любіць тваю дачку; дагэтуль нічога ні казау таму, што хацеу упарадкаваць свае справы і прыбраць гнязьдзечко для сваго найвялікшаго скарбу. Быць можэ адкладывау бы і яшчэ, але сеняшняе здарэнне змусіло яго пасьпяшыцца з апошнім крокам. Твая дачка толькі сенейка даведалася, як ен яе любіць. Сенейка ен раскрыу прад ей свае сэрцо і, дастаушы пазваленне, просіць у цябе яе рукі,—прасіу мяне сватаць. Маладыя, падайдзіце да бацькі і прасіце на каленях пазвалення і блогаслауленпя. (Станіслау стау на калені прад Сакальніцкім, а Адэля, засароміушыся, мітрэжыцца). Панна Адэля, сьмела стань на калені с правай стараны і загляні бацькау у вочы так, як глядзіш, калі хочаш каго збаламуціць. Магу упэуніць, што змякне, як воск, і злучыць вашы рукі.

Адэля (стаушы на калені). Дарагі татачка! Я люблю яго (цалуе бацьку у руку, закрываючы гэтак вочы свае).

Судздзя. Ага, баламутка, а я ні мог дагадацца! Адгэтуль перастану верыць свайму сакаліному воку, а то, як відаць, з гадамі прытупілося. Ну, мае дзеткі, калі любіцеся, то хай Бог у небі, як бацька на зямлі, вас блогаславіць! Устаньце і дайце вас абняць.

Адэля. Татачка, даражэнькі, які ты добры!

Судздзя. Усе мы павінны падзякаваць пану маршалку.

Адольфак. Я так сама званіу на гэтае казанне і маю права, як брат блогаславіць вас, (патэтычна). Прыбліжся пара буркуючых галубкоу, хай і я вас блогаслауляю. (Падытоушых, с павагай блогаслауляіць).

Станіслау. Брацяйка даражэнькі, ты так само шмат зрабіу для нашаго шчасьця,—чым мы можам выказаць табе сваю падзяку?

Адольфак (са сьлезамі ціскае ім рукі). Любіце мяне так, як і я вас люблю (наіуна, да Станіслава). А паедзем сенейка на цяцерукоу?

Судздзя. Ну, дзякаваць Богу і дарагому маршалку, што зале-

ты нашы сягодня добра скончыліся, хай жа-ж яны, як цяперака для мяне, так і для усіх бацькоу будуць навукай, што, шукаючы для свайго дзіцяці прыяцеля на усе жыцце,—павінны глауным чынам зьвярнуць увагу,—хавай Божэ, ні на багацце,—але на сэрцо, навуку і славу у людзей таго, хто хочэ быць мужам дачкі.

Водэвіль:

Адэля. Каб канец сышоу шчасьліва,
Злое усе забудзьма жыва,
Шчасьце нашэ ні растае.
Станіслау. Вітват! Жонку сабе маю!
У с е. Маем страху мы тыкеле
(Хоць ваш «біс» яго зламочэ).
Ці нам публіка с фатэляу
Што закінуць ні захочэ!?

(З а с л о н а).

*КАНЕЦ.*

**М. Крапіўніцкі.**

# ПАШЫЛІСЯ Ў ДУРНІ.

Жарцік у 3-х дзеях.

Пераклад з украінскае мовы (с папраукамі).

# ПАШЫЛІСЯ Ў ДУРНІ.

**АСОБЫ:**

МАКСІМ КУКСА—багаты мешчанін, мельнік, удавец.

ГАНУЛЯ—старшая дачка яго, гадоу 19.

СЬЦЕПАН ДРАУКО—багаты мешчанін, каваль, удавец.

ГРЫПІНА—старшая дачка яго, гадоу 18.

АНТОН—малады Куксау парабак.

ВАСІЛЬ—малады Драукоу парабак.

ЄКАКУНЕЦ—валасны пісар.

НІЧЫПАР—падарожны чалавек, гадоу 30.

ГОСЬЦІ, НАРОД.

Дзеецца у мястэчку.

## ДЗЕЯ I.

У канцы вуліцы з абадвух бакоу плецяны плот, за плотам відны хаты, паветкі, сьвіронкі, хлявы. Пад плотам лаукі. З леваго боку—хата Куксы, с праваго—Драукі За хатаю Куксы—млын вадзяны. За хатаю Драука—кузьня.

### ЗЬЯВА I.

**З млына выходзіць Кукса і Антон.**

Кукса. Даглядай, даглядай, кажу табе, лепш як свайго вока!

Антон. Ды ужо-ж ні турбуйцеся, гаспадару,—я вам кажу, што ніхто вам так ні здалее дагадзіць, як я. Спадзевайцеся на мяне, як на каменную гору.

Кукса. Адно толькі таго ніяк я ні разьбяру: за што ты такую злосьць маеш да гэтаго бабскаго роду?

Антон. За што? Доуга казаць. Толькі то праўда, што абы згледзіу маладзіцу, або, хавай Божэ, дзеуку, то так мяне з душы верне, як муху глынуушы. А дачок вашых за тое самое цярпець ні магу, што вас, гаспадар, натта палюбіу; дык шкадую я вас за тое, што вы з імі гэтулькі клопату маеце.

Кукса. Ох, праўда, што клопату!.. А ты-ж ні гневаешся на мяне, што я цябе ні раз ганяю?

Антон. Да хавай Божэ! Гаспадар мае права і спаць і гуляць,—на тое ен гаспадар; а парабак як дзень, так ноч павінен працаваць...

Кукса. Разумна, разумна мяркуеш!

Антон. З нашым братам, с парабкам, без лаянкі ні абойдзешся. Біць нас трэба, ды ішчэ ні абы як, бо мы дурні...

Кукса. Тры месяцы ты у мяне служыш, я ужо цябе спадабау, як роднаго сына.

Антон. І я-ж скажу, што ні ведаю, ці любіу я свайго бацьку так, як вас люблю. (Пачакаушы) Дауно ужо хочэцца папытаць вас, ведаю, што адну скажэце мне шчырую прауду: на вошта гэтыя самыя бабы на сьвет родзяцца?

Кукса. І то прауда—на што яны?

Антон. Здаецца без бабау лепш было-б жыць на сьвеце.

Кукса. Лепш. Але-ж, але!.

Антон. Так на што-ж яны патрэбны на сьвеце?

Кукса. Ні скажу, галубок, ні скажу. Колькі раз ужо і я мярчавау над гэтым... ведама, Бог так дау.

Антон. На пакусу.

Кукса. То-ж то і есьць—на пакусу.

Антон. Ось дзякую, што вы мне тое сказалі; а то я марочыуся, марочыуся. Цяпер вы мне губы разьвязалі. От, скажэм, хоць Аксана, суседава дзеука...

Кукса. А што-ж яна?

Антон. Пазаучора я бачыу, як вы вун там—за паветкаю шэпталіся з ею.

Кукса (спалохаушыся). Што?!

Антон. Ды чуу, як вы ей казалі, што купіце на спадніцу моднаго пэркалю ды хустку...

Кукса. Чуу? (У бок). Папауся! (Да яго). Ты чуу? Глядзі-ж, ні прагаварыся суседу Драуку!... Я хацеу яе пераняць да сябе на службу.

Антон. На што ужо вам мне галаву дурыць. Бачыце, я перад вамі выкладаю усю сваю душу, а вы... Я чуу, як вы ей казалі: «Выйдзі, як сьцямнее, за млын».

Кукса. Ні казау!..

Антон. Ой, казалі, казалі...

Кукса. Даль-Бог-жа-ж, ні слова ні казау, каб за млын...

Антон. Ну, можэ мне толькі так пачулося. Аднак, я зараз такі тагды падумау: ці ні чорт-жа гэта пад дзявочаю адзежаю на пакусу вядзе майго гаспадара.

Кукса. А што думаеш? І то можэ быць.

Антон. Пайду-ж я, думаю сабе, да папа ды папрашу, ніхай адчытае майго гаспадара...

Кукса. Да папа! Ці ты здурэу?!

Антон. Я-ж ішчэ ні йшоу, толькі зьбірауся. Бо я-ж ведаю, што і папу ведама, што вы чэлавек багамольны ды баіцеся Бога.

Кукса. Але-ж, але... Сапрауды я такі. Ні йдзі ужо да папа,- лепш я сам прызнаюся на споведзі.

Антон. Ніхай-бы тая Аксана да мяне ліпла—ні дзівіуся-б, такі-ж я малады хлопец, але што-ж яна у вас спадабала?

Кукса. Пакуса, чортава пакуса.

Антон. Хіба-ж ні лысіну вашу?

Кукса. (Грозна). Што-о?

Антон. Я тое... я памыліуся. Хацеу сказаць, ці ні грошы вашы яе кусяць?

Кукса. Якія грошы?

Антон. А тыя-ж, што вы на том тыдні пераносілі за млын у паліваным глячку...

Кукса. Ні пераносіу!..

Антон. Шкода толькі, што я ні бачыу куды вы той глячок перахавалі.

Кукса. Ні бачыу?

Антон. Каб толькі бачыу, то зараз-бы узяу.

Кукса. Узяу-бы?

Антон. Чаго вы гэтак спалохаліся? Я-ж кажу,—узяу-бы, прынёс-бы да вас ды сказау: лепш хавайце, гаспадару, вашы капіталы.

Кукса. Ці прауда-ж?

Антон. З роду ні брэхау.

Кукса. (Прыгледаецца да яго). Даль-Бог-жа-ж ні разьбяру, што ты за чалавек?

Антон. Я?—Сама прауда.

Кукса. Можэ быць, можэ... але-ж і бойкі да гутаркі.

Антон. Ого, я да гутаркі, як да варганау.

Кукса. Бачу, бачу. Музыкант. Хэ-хэ-хэ-хэ! А ну, глянь мне у вочы. (Антон глядзіць). Здаецца, што ты ні брэшэш. Ну! то я-ж вось пайду, а ты тут дагледай дзеучат.

Антон. Ды ужо-ж ні бойцеся—і вока ні сплюшчу. Можэ і рад быу-бы заплюшчыць, ды калі-ж бабы такое мне зрабілі, што на век мне сон аднялі.

Кукса. Ну, будзь здароу, пакуль што!

Антон. Слухайце, гаспадар!

Кукса. Чаго табе ішчэ?

Антон. Вы ужо, будзьце ласкавы, ні зачапляйце гэтай Аксаны, ніхай яна згарыць.

Кукса. Пакуса, проста нічыстая сіла! (Пайшоу).

## ЗЬЯВА II-ая.

**Антон** ды **Васіль** (ідзе с кузьні).

Антон. Ну!

Васіль. Ні ну, ні тпру!

Антон. Кепскія твае паперы. Ну, а я свайго жэрабца трохі завуздау. Ось скора і закелзаю.

Васіль. А ведаеш, браток, што я прыдумау?

Антон. Кажы!

Васіль. Калі ужо дзело так стало, што німа куды, то трэба на хітрыкі кінуцца.

**Антон.** Дауно я тое ведаю ды так раблю. Бо на сьвеце больш бедных, як багатых на грошы і на гаспадарку, а бедных на розум то іщчэ больш. І тыя людзі, што у дастатках жывуць, то найбольш маюць такую дзіуную натуру: шагу ні ступіць без павадыра, а іншы то яшчэ гневаецца, чаму яго за нос ні водзіш.

**Васіль.** Як-жэ гэта так?—ні разьбяру...

**Антон.** Ось памяркуй сам. Скажэм і мой гаспадар: калі-б я ні запэуніу яго, што цярпець ні магу бабскаго роду,—ці ен-жа дау-бы мне сваіх дачок дагледаць?

**Васіль.** Прауду кажэш.

**Антон.** Дауней, бывала, ен з двара ні выйдзе, мучыцца бедны, ні засьне спакойна, ні есьць, ні пье... Усе яму здаецца, што яго дочкі за хлопцамі бегаюць... А цяпер ен безбоязна да людзей ідзе. Значыцца, я яго за нос вяду, а яму карысьць.

**Васіль.** Ну, і хітры-ж ты, шэльма!

**Антон.** А ты-ж казау, што і сам на хітрыкі кінешся.

**Васіль.** Сваімі хітрасьцямі, мусіць, я сам сябе марочу. Мне, ці без Грыпіны жыць, ці галавою у праломку, то усе роуна—вось што я табе скажу, братка ты мой...

**Антон.** Яшчэ што задумау. Ніхай накладаюць на сябе рукі тыя, па ком будзе каму галасіць; а ніхай згіне ні сваею сьмерцью наш брат, бедната, то людзі адно скажуць: «Туды яму і дарога». І я-ж палюбіу Ганулю, а што зробіш? Трэба хітраваць: ні дасі рады пераскочыць, то лезь пад плот...

**Васіль.** Гэта я ад цябе што дзень чую. Толькі-ж кажу табе, што мне ужо ні чакаецца. Не, я ужо надумауся. От зараз мне трэба аднесьці работу у мястэчко, забягу там да пісара,—ен мне сваяк, то такі-ж павінен раду даць. Я чуу, што мой гаспадар ці сягодня—ці заутра пекаго з места чакае у сваты да Грыпіны.

**Антон.** І мой часта выглядае ды так сама з места.

**Васіль.** Пайду, бухну пісару проста у ногі,—ніхай абадвух вызваляе.

**Антон.** Якім спосабам?

**Васіль.** Гэта ужо ен ведае. (Пашоу).

**Антон.** А мо і сапрауды пісар што і прыдумае! Чуу я, што пісары на гэткія штукі майстры вялікія. Чаму-ж гэта Ганулі да гэтай пары німа? Казала: «Як толькі бацька з двара, то зараз выбегу». (Бачыць—ідзе Гануля). Ідзі, Гануля, ні бойся! Вун ужо дзе бацька, ледзьве згледзіш. Пашоу па людзях за мліво грошы сысківаць, то можэ і забавіцца.

## ЗЬЯВА III-ая.

**Гануля і Антон.**

Ганулл. Ох, усю мяне трасе!

Антон. Бог ведае, чаго ты баішся!

Ганулл. Як чаго? Доля наша ліхая і пагаварыць даволі німа як!

Антон. Што-ж зробіш, калі твой усе гне на тое, каб да яго дачок сваталіся купцы.

Ганулл. Ох, беда мая цяжкая! «Аддам, кажэ, цябе хоць за старога ды беззубаго, абы грошы меу».

Антон. То-ж то і есьць! Кажы што хочэш, а такі грошы вялікая рэч. А ты паслухай бацькі ды ідзі хоць за чорта лысаго.

Ганулл. Бог с табою, Антон, чаму ты гэтак гаворыш? Хіба гневаешся на мяне за нешта, ды цераз тое крыудзіш. Ці я цябе у чым ашукала?

Антон. А можэ не? Што-ж ты з мяне зьдзекі строіш, ці як? От і учора—цалюсеньку ноч прахадзіу за млыном, а ты ні прышла. А я цягауся, як дурны. Блізка да сьвету блукауся ды сьпеваў. (Пачакаушы). Ну, Ганулл,—надумалася ты на тое, што я табе казэу?

Ганулл. Па-просту скажу бацьку: аддайце мяне за Антона.

Антон. Калі-ж гэта будзе?

Ганулл. Як толькі ухаплю такую мінуціну, што ен ні сярдзіты...

Антон. Але!.. як раз на маленькаго Юрья, як рак сьвісьне.

Ганулл. Такі-ж часам ен бывае вельмі добры.

Антон. На Міколу ды ніколі!

Ганулл. Я яму проста скажу, што як разлучыць мяне с табою, то жыва ні буду.

Антон. Будзеш жыва!

Ганулл. Ох, як ты уражліва гаворыш!

Антон. Аднак я баюся даць бабе веру. Німа маиму сэрцу супакою.

Ганулл. (Глянула на бок). А, ліхо-ж на мяне, бацька ужо варочаецца.

Антон. Ці прауда-ж? (Глянуу і ен). Але-ж, Але! Нясе яго ліхо. Слухай. Ганулл, ідзем на прапалую!.. Не?.. Чаго-ж маучыш?.. Ты-ж бачыш, што мае сэрцо агнем гарыць. Ну, як сабе хочэш, а толькі слухай: хоць там сабе і сьмерць, а каб ты мне сягоння была за млынам!..

Ганулл. Мой ты саколік, буду, хоць там сьмерць мая! (Разышліся).

## ЗЬЯВА IV-ая.

Кукса (выходзіць засмучаны ды сядае на лауцы). Замарыуся. Ні так ад хадзьбы, як ад тых думак, ад таго клопату. Куды ні пойдзеш, так думка верне ногі да хаты. Ох, ох! Ні паможэ, мілы Божэ, ні васкова сьвечка! На якое гэта ліхо я жаніуся? За якія гэта грахі пакарау мяне Бог? Ну, ніхай сабе, скажэм, адна дачка, ніхай-бы і дзьве... Ешчэ і тры—сяк-так! А то—аж пяць. Ганулі, Тацяна, Аксіння, Аугіння, яшчэ і Еука. Ну, як ты дасі ім рацы? Гэта-ж ні тое, што часамі трапіцца у млыне, паламаецца—ці кулак, ці што якое: секануу раз, другі—ды настроіу, а тут бядуй што дзень, што момэнт...

Антон (з варот). Гаспадар! Ужо Гаурылаво жыто змалолося; чые цяпер засыпаць: жыдоускае, ці дзяково?

Кукса. Сып жыдоускае. З жыда бардзей грошы сышчэш, а да дзяка папаходзіш (Антон пашоу, Кукса аглянууся). Як гэта Антон падсьцярог, што я пераховывау грошы? Добра, што я пазьней ішчэ раз перахавау (зноу аглянууся). Скольні-ж гэта у мяне ішчэ бракуе да пяці тысяч? Цяпер зыскау 47 рублеу, у малой скрыні пад замком 634, а у глячку 4000.

Антон (з варот). А як зьмялю жыдоускае, тагды чые засыпаць?

Кукса (хавае грошы). Чые сабе хочэш! (Антон пашоу). Не, мусіць, тагды палічу грошы, як спаць лягу; німа лепшай пары лічыць грошы, як у ночы,—ніхто ні перашкодзіць (пачакаушы). От старшая дачка, Ганулі, ужо саусім пасьпела, да хлацоу аж гарыць... А за ею ужо і меньшая здымаецца у гару, як тая канапелька. А сватоу, як на злосьць, як німа, так німа. Ужо-ж, як той кажэ, аддау-бы хоць за вала, абы залатыя рогі. Каб-жа-ж гэта да Антонавай уроды ды грошы хоць рублеу с пяцьсот, ды конікау пар са тры, ды зямелькі... От і быу-бы зяць. Ці такі дапрауды Антон гэтак бабау цярпець ні можэ? А як гэта ен падсьцярог мяне з Аксаною? Здаецца, так ужо сьцярогся—а такі-ж падгледзіу. Мусіць ні дарма чэлавек двое вачэй мае. Аднак я думаю, што на бабу і двух мала; такое-ж ужо праклятое зелле, што за ім і у чатыры ні патрапіш.

Ганулі (з двара). Тата! А дзе мукі узяць на зацірку, ці у млыне, ці?...

Кукса. А табе рупіць у млын? Цьфу! усе забываю, што у мяне Антон служыць; ну, з гэтым кепскія жарты!.. (гукае). Ідзі у млын, ніхай Антон возьме шуплік з якога там купецкага лантуха. Ідзі, ідзі ды пацалуй яго! (рагочэ).

Ганулі. Чаму-ж гэтак? Пацалуйцеся сабе з ім самі, калі ен вам гэтак да спадобы (пашла).

Кукса (сьмяецца). Мусіць ужо некалі зарабіла ад яго!

## ЗЬЯВА V-ая.

**Кукса** ды **Драуко.**

Драуко. (Крычыць на сваім двары). І слухаць ні хочу! Ведаю, у якія грыбы пойдзеш! Сядзі мне у хаце! (прыслуховаецца). Што-о?... Ну, ну! ты у мяне пагаворыш! Што? такі ідзеш?! То і ні варочайся у двор!

Кукса. Чаго гэта мой сусед гэтак расхадзіуся?

Драуко. (Выходзіць). Вось пакарау мяне Бог. Ні у дзень, ні у ночы і вока ні заплюшчы,—так і сьцеражы, як той сабака.

Кукса. Добраго дня вам, суседзе!

Драуко. Ды ужо-ж мусіць, пакуль буду—добраго дня ні пабачу.

Кукса. А што-ж вам такое трапілося?

Драуко. Адчапіцеся вы ад мяне! Раз-по-раз лініце да мяне, як смала да падошвы, што дзень лезеце мне у вочы.. Здаецца і так добра ведаеце мой клопат.

Кукса. А! гэта вы усе аб тым!

Драуко. Ні ужо-ж аб сім! Вось у вас ад пяцех гэтаго самаго клопату повен мех, а у мяне-ж іх аж сем... Я ужо ні раз казау, ніхай бы лепш у мяне кавадло на дзесяць кускоу трэснуло, як гэтак што дня гыркацца.

Кукса. А ніхай-бы мне што дзень латакі трэшчалі, застаукі засмактывало!

Драуко. А вам што?

Кукса. Я што? Ці то-ж ні ведаеце?

Драуко. У вас-жа усяго пяць.

Кукса. Такі-ж і пяць!

Драуко. Такі-ж ні сем!

Кукса. Але-ж пяць, кажу!

Драуко. Але-ж і ні сем, кажу. Ганка, Макрына, Грышіна, Параска, Тацюха, Насьцюха, ішчэ і Хімка.

Кукса. Ганнуля, Тацяна, Аксіння, Аугіння, яшчэ і Еука. Яно пэуне...

Драуко. То-ж то бо і есьць.

Кукса. Такі-ж і пяцех, кажу, у губу ні возьмеш.

Драуко. Але-ж, і сем па абаранку усем... Хоць злажы на воз, прыцісьні жэрдкаю ды вязі на кірмаш. От, гэтакаго ражна табе-б у бок!

Кукса. У галаве у дзесяць ступ таучэ.

Драуко. Ніхай-бы таукло, а тут, пераэлаваушы, сэрцо перагарэло, як жэрства.

Кукса. Ці ні хочаце панюхаць сьвежэнькай? (Падае табакерку).

Драуко. Добра ужо я чхаю і без табакі. (Нюхае). Я-ж кажу: ніхай-бы была адна...

Кукса. Ну, ішчэ і дзьве німа ніц.

Драуко. Калі і тры, то ішчэ поубяды.

Кукса. Тры—то ішчэ сяк-так.

Драуко. Але-ж ні сем!

Кукса. Але-ж і ні пяць!

Драуко. Але-ж ні... Ачхе! (Чхае).

Кукса. На здароуечко!

Драуко. Дзякуй! Моцная табака. У каго купялі?

Кукса. У Сьвірыды.

Драуко. У таго, што чатыры дачкі мае?

Кукса. Але-ж. С крышталам. Крыштал з разьбітых шклянак таучэ ды падбауляе у табаку, каб... каб шчыпало у носе...

Драуко. От штукар чалавек, трэба да усяго розумам дайсьці! А як-жа у вас новае верацяно?

Кукса. Чыркае сяк-так.

Драуко. Чыркае?

Кукса. Ага, чыркае. А я ужо, суседзе, часам думаю сабе: ці ні стаяць нашы хаты на такім грунце, што ен гэтакі урадлівы на гэты бабскі род. (З Драуковаго двара чутно сабакі гаукаюць).

Драуко (шпарка падбегае да свайго плота ды загледае у двор). Сабакі загрызуцца. Ось ужо і Васіль вярнууся (гукае). Ідзі-ж, ідзі да кузьні, німа чаго там пераміргівацца.

Кукса. Ці і ен-жа туды?

Драуко. Не, цяпер ужо ні уважаю, а перш трохі стрэляу... Толькі мая Грышіна да яго...

Кукса. Гарыць?

Драуко. Полымем гарыць.

Кукса. Гэтак і мая Гануля да Антона, толькі ні на такога папала.

Драуко. Ні давайце веры.

Кукса. Бабау цярпець ні можэ.

Драуко. А я-ж вам кажу: ні давайце веры. От, за Васіля, то гатоу галаву на кавадле палажыць. Ніхай-то адно катора дзяучына заверне у кузьню,—так ен зараз жалезнаго ражня нагрэе ды проста у вочы і суне.

Кукса. Ні давайце веры.

Драуко. Што вы ведаеце!

Кукса. Кажу, ні давайце веры!

Драуко. Разсказывайце сабе, калі хочэце.

Кукса. Ох-хо-хо! За што на маю галаву такая бяда звалілася!

Яна патаукла маю душу, як пшаніцу у ступе, на крупы падзерла мае сэрцо.

Драуко. Ніхай-бы сабе дзерла,—то ішчэ поу-бяды... А тут як абцугамі сьціснуло табе душу ды пілуе, як сталь тупым напільнікам... (Чутно на дварэ рагочуць). Далі-Бог, Грыпіна ужо некуды выкрадаецца! Дзе-б мне кала папасьці? Пачэкай-жа, я табе дам грыбы (вырвау калок с плоту ды бяжыць у двор).

Кукса. Ці ні пайсьці мне у млын, заснуць крышку?

Антон (зглeдзіушы Куксу, крычыць на Ганулю). Пашла! пашла вон з млына! Німа табе тут работы!..

Кукса. Ай, удалы Антон! (Да Ганулі). Пацалуй яго, Гануля, то у яго зараз злосьць адыйдзе. (Рагочэ).

Антон. Калі вы, гаспадару, гэтак яе будзеце падучываць, то я зараз рашчоту папрашу. (Кукса, сьмяючыся, ідзе за млын).

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Гануля.**

Гануля. Ну, і хітры-ж Антон! Так лоука выдае што сярдуе, нібы-то сапрауды цярпець мяне ні можэ... А ужо як ен мяне любіць! як кахае!—то і ні ведаю, ці патрапіць які іншы парабак гэтак дзеуку любіць. І цалуе, ды прыгартае, ды шчабечэ... Так тагды на сэрцы люба, так весяла... (ідзе у хату).

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Драуко і Грыпіна.**

Грыпіна (ідучы цераз вуліцу). Я-ж вам кажу, што зараз вярнуся.

Драуко. А я табе кажу, варочайся! Варочайся мне зараз, бо ногі паперабіваю.

Грыпіна. А я вам кажу—такі ні вярнуся. (Пашла).

Драуко. Ах, ты хвароба! (кідае палку ды пападае у Скакунца).

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Драуко і Скакунец.**

Скакунец (падняушы палку). А што будзе, як я гэты самы дакумэнт прэдстаулю міравому?

Драуко. Выбачайце, я-ж ні сумысьля!

Скакунец. Што мне з вашаго: «выбачайце»? Вы маей асобе маглі гэтаю асобай ногі паперабіваць!

Драуко. Выбачайце, будзьце ласкавы!

Скакунец. Ізноу: «Выбачайце». Дзіуны народ!

Драуко. А чаго-ж вам яшчэ?

Скакунец. Ні даводзючы да асобы міравога судздзі, кажу вашай асобе заплаціць маей асобе рубель. На гэта даю вам тры дні. Гэта адна стацця, а другая: маю да вас ліст з места.

Драуко. Ліст? Давайце бардзей! (у бок). Пэуне з места ад Сымонкі.

Скакунец (гукае у двор Куксы). Гэй! хто там? Скажыце гаспадару, што я маю да яго ліст з места!

## ЗЬЯВА IX-ая.

### Кукса, Драуко і Скакунец.

Кукса (шпарка ідзе з млына). Кажэце, ліст да мяне? (у бок). Пэуне нейкі прыяцель хлопца у сваты раіць.

Драуко. Давайце бардзей, бо часу ні маю!

Скакунец. Ніколі ні трэба хапацца. Хто хапаецца, той толькі дзело псує,—так і у пісанні паказывае: хто сьпяшыць, той людзей сьмяшыць... От як, прыяцелі мае дарагія!

Кукса. Давайце-ж бардзей, будзьце ласкавы!

Скакунец. Што?

Кукса. Ведама што—ліст!

Скакунец. Які?

Драуко. А які бо чалавек! Тут поуна галава клопату...

Кукса. У галаве ажно гудзе, як у млыне.

Скакунец. Слухайце, я вам разскажу адну казку. Ехау адзін пан цераз вузенькі масток, а яму крычыць поупанок: «зьвярні»! Крычыць другі раз. Той маучыць. Паупанок бачыць, што кепска рада, ды ужо просіць па-ціху: «Чалавечэ добры, зьвярні, будзь ласкау»! А чалавек яму тады і прыпомніу: «А дзе ваша—«здароу»?

Кукса і Драуко. Хіба-ж мы з вамі ні паздароукаліся?

Скакунец. Спраука паказывае, што не.

Драуко (падае руку). То будзьце-ж здаровы!

Кукса (гэтак сама). Добры-ж вам дзень!

Скакунец (сьціскае рукі). Добраго здароуечка. Як жывеце?.

Драуко. Так сабе—па-маленьку!

Кукса. Па-маленьку: то скокам, то бокам.

Скакунец. Ну, дзякаваць Богу! Што-ж у вас чуваць?

Драуко і Кукса. От, ізноу пачалі! Бардзей хаця!

Скакунец. Чаго вы да мяне прысталі?

Драуко і Кукса. А гдзе-ж тыя лісты?

Скакунец. Лісты там, дзе быць павінны— на дзераве.

Драуко. Ды ні лісты—пісьмы.

Скакунец. Ага, пісьмы! У воласьці.

Драуко. Трэба-ж было зразу так сказаць (да Куксы). Пабяжымо, суседзе!

Кукса. А што-ж, пакульгаем!

Скакунец. Воласьць зачынена.

Драуко і Кукса А у каго-ж ключ?

Скакунец. А у каго-ж ен павінен быць па закону? Закон паказывае: „Печаць у старшыны, бляха у соцкаго, кніга у зборшчыка, а ключ у пісара». Пісар—ключ да усякіх спрау.

Драуко і Кукса. Так адчынеце-ж.

Скакунец. Адчыніць ні штука, калі-б ні заржаулена...

Драуко. Лоем памазаць...

Кукса. Альбо аліваю. Аліваю ішчэ лепш.

Скакунец. Ні турбуйцеся. Я усе свае інтарэсы і без вас знаю.

Кукса і Драуко. Ну?!

Скакунец. Ні нукайце, ні павязе... А папробуйце сьцебануць, то яшчэ стане брыкацца.

Драуко і Кукса. Галаву дурыце, дый годзе!

Скакунец Скажыце мне, дарагія мае прыяцелі: як вы зьбіраецеся у дарогу, ці каней трэба дагледзіць?

Драуко. Хто-ж гэтаго ні ведае?

Кукса. Ні дагледзіушы, ні паедзеш!

Скакунец. І аброку даеце?

Драуко. Як ні дасі ауса—ні паедзеш, ні пабяжыць.

Кукса. Німа чаго казаць—прыстануць.

Скакунец. Значыцца—тпрру!...

Драуко і Кукса. А няужо-ж—тпрру.

Скакунец. От вам і уся хвізыка. Дагадаліся?

Драуко і Кукса. Не!...

Скакунец. Так слухайце-ж, я вам расталкую усе па парадку.

Драуко і Кукса. А лісты нашы як?

Скакунец. Цяпер я пайду да дому, паабедаю ды лягу адпачыць.

Драуко. Што гэта вам замарудзілося? На зьдзекі нам, ці як?

Кукса. Нічагусінька ні разьбяру.

Скакунец. Аднак, будзьце здаровенькі. Заутра, калі ні забуду, то прынясу вам лісты.

Драуко і Кукса. Такі да заутра чакаць?

Скакунец (узіраецца на іх). Бач, якія ні хітрыя! Ну, як віджу,

з вамі ні далека заедзеш: ці вы такія дапрауды, ці дурняу строіце? Ці-ж такі саусім вы ні дагадаліся?

Драуко. Я не,—я саусім ні дагадлівы!

Кукса. А мне пажуйце ды у губы улажыце, я і тагды ні дагадаюся. Хіба скажэце: «еш»! А не, то так і буду стаяць разявіушы губу.

Скакунец. Ці прауда-ж?

Драуко. А так, так! Ен у нас такі!

Скакунец. Значыцца, гаварыць па-просту?

Драуко і Кукса. А ужо-ж! Лепш па-просту.

Скакунец. Як проста, так проста. Заплаціце мне, то і лісты зараз будуць.

Драуко. Трэба-ж было казаць адразу!

Кукса. А то зьвярнулі німа ведама куды—на каней ды на авес.

Драуко. Ды на неку хвізыку.

Скакунец. Таксу маю ведаеце?

Драуко і Кукса. Якая-ж яна?

Скакунец. Перш была па пятаку, цяпер па двадцадцэ. Бо цяпер усе падаражэло.

Кукса (у бок). От, чортаво насенне! (дастау с кішэні грошы). Наце вам!

Скакунец. А вам ліст!

Драуко. Наце і мае (дае грошы).

Скакунец (дае ліст). А вось і вам!

Кукса (адышоушыся трохі, мане пальцам пісара). На гадзіначку!

Драуко (мане да сябе). На мамэнцік!

Скакунец. Чаго?

Кукса. Будзьце ласкавы!..

Драуко. Калі ласка!..

Скакунец. І тут такса даражэйшая, за прачытанне—двадцатка, за адпісанне—саракоука. (Голас з двара Драуковаго), «Тата, бардзей, ца вас нечаго паламар прышоу»!

Драуко. Ото-ж, дзякуй Богу! Той мне без грошай прачытае (пашоу у свой двор).

Скакунец. Грыуня с кішані выляцела.

Кукса. Вось суседу шанцуе,—ен усе дарма дастане... Будзьце ласкавы!...

Скакунец. Ну!

Кукса. Прачытайце, што тут надрапана. На плату сойдземся.

Скакунец (выцягнуу руку). Па таксе!

Кукса. Ні турбуйцеся. Цяпер дробных німа. Заутра.

Скакунец. Не! дзякую... Мне ужо ад вашых заутракау жывот падвяло.

Кукса. А, доля-ж мая ліхая! Ось, хоць самі памацайце, нічагусенькі у кішані німа.

Скакунец (хочэ узяць за кішэнь). Можна?

Кукса. І ні сорам гэта вам лезьці у чужую кішэню?

Скакунец (засовае руку у кішэнь). З вашаго сагласу (выняу грошы). Бачыце, от і намацау як раз двадцатку!

Кукса (у бок). Каб цябе намацало! (Да яго). Такі-ж ні дарма, мусіць, кажуць, што часам чалавек і сам ні ведае, у якой кішані у яго чорт сядзіць.

Скакунец. Прауда. (Раскрыушы ліст, чытае). «Прыяцелю мой дарагі і шаноуны пане!..

Кукса. Дзякуй за шанову! Мяне такі, дзякуй табе, людзі шануюць.

Скакунец (далей чытае)... «Шаноуны пане!»...

Кукса. Аж двойчы пашанавау мяне. Такі натта нейкі добры чалавечак пішэ.

Скакунец. А вы ні перапыняйце, слухайце гатоваго. Зараз яно пойдзе далей... «Шаноуны пане. Выбачайце, што так доуга ні адпісывау вам аб вашых дзелах, аб жаніху...

Кукса (азіраецца). Чытайце, будзьце ласкавы, ціхінька,—я-ж ні глухі.

Скакунец (чытае). «... аб жаніху, дзеля гэтаго, што ні меу часу».

Кукса. А мо і запрауды ні было калі. Канечне, трэба выбачаць.

Скакунец. Я, мусіць, зьдзяру з вас у двойчы проці павышанай цаны.

Кукса. За вошта?

Скакунец. За тое, што многа гаворыце.

Кукса. Маучу, ужо маучу.

Скакунец (чытае). «... Ну, аднак цяпер пасылаю вам дарагую вестачку: на гэтым тыдні, калі ні у суботу, ужо ні іначэй у нядзелю»...

Кукса. Сягодня-ж субота!

Скакунец. Даль-Бог, я палезу да вас у кішэнь (чытае). «...У нядзелю прыедзе малец, жонкі маей сваяк, па аглядзіны да вас. Хоць ен ужо у гадох і чалавек ні паказны, але з грашмі. Пастарайцеся толькі прыняць яго па людзку,—дачка ваша Ганна, знайдзе сабе шчасьце,—а каханне само знойдзецца».

Кукса. Каб то-ж Бог дау!

Скакунец. Але-ж язык у вас сьвербячы!

Кукса. Маучу, ужо маучу.

Скакунец (чытае). «...Можэ яму здумаецца падстроіцца убогім, ды адзенецца ен ні па багагаму, то вы ні зважайцэ на гэтае».

Кукса (скрозь зубы). Каб то-ж дау Бог!

Скакунец. Ні ужо-ж твайго языка нічым ні можна стрымаць? (Чытае) «...Жычу вам ад шчыраго сэрца добра вяселле згуляць ды нас ні забываць. Мая рада—ні зацягіваць дзела, — у той-жа дзень і зьвенчаць».

Кукса. Амэн! Даль-Бог, зараз ось і да папа зьбегаю ды старгуюся. (У бок). Вось Богу дзякаваць—прычакау. (Да яго). І вас прашу на вяселле, будзьце ласкавы!

Скакунец. Дзякуем за чэсьць. Так як-жа, ці-ж вы ураз думаеце іх зьвеньчаць?

Кукса. А што-ж тут доуга адкладываць?

Скакунец. От, лісту канец. А ад каго ен. вы дагадайцеся.

Кукса. Ад Сымонкі з места.

Скакунец. Так і тут стаіць! «Ад Сымона з места». Ну, бывайце здаровы! (Пашоу).

Кукса (хавае ліст). Ну, я вам скажу, што за гэтакі куцы ліст ні варта было двадцаткі даць.

Скакунец. Ні вялікі кажуць дукат, ды даражэнькі. За тое-ж і заця багатаго прыдбаеце...

Кукса. Ну, скажыце, будзьце ласкавы!.. Ці гэта-ж мне мая дачка абрыдзела? Думаеце, легка з ею разлучыцца! (Ідучы к хаце). Дзякуй табе, Божэ! Так і чую, як мне па сэрцу палягчэло; а на душы так неяк весяла стало, мауляу вада вясною у латаках прыбывае. Каб толькі-ж поп згодзіуся заутра іх зьвенчаць. Нехай хоць 25 рублеу загне—дам. (пашоу).

Скакунец. Варта будзе даць знаць Васілю, што наша хвізыка, здаецца, кіпіць.

## ЗЬЯВА Х-ая.

**Драуко і Скакунец.**

Драуко (сам да сябе). Я такі зараз дагадауся, што гэта ад Сымонкі. Поп для мяне ласку мае, то ен мне іх заутра зьвенчае. Паламар кажэ, што можна хоць і сягоння зьвенчаць, абы дакумэнты былі у парадку. (да пісара). А, вы ішчэ тут?

Скакунец. Чакаю, што вы зробіце з рублем на згоду.

Драуко. А які-ж чалавек! Аднак я дабрэйшы ад вас.

Скакунец. Цікавасьць!

Драуко. Прашу заутра да мяне на вяселле.

Скакунец. Дзякуй. Гэта адно, а аб рублі—вам тры дні падумаць. Бывайце здаровы!

Драуко. Толькі-ж вы суседу ні гу-гу! (Пісар пашоу). Сягодня, або заутра жаніх павінен быць. Дзякуй Сымонку. Пішэ, каб заутра зьвенчаць. Падскочыць трэба зараз да папа.

## ЗЬЯВА XI-ая.

Кукса (ідучы с свайго двара, ні бачучы Драука, ціха пяе).

І па хаце тне-тне,
І па сенях тне-тне!
Вары, жонка, мне, мне!

Драуко (пабачыушы Куксу і сабе так сама).

І па хаце тупу-тупу,
І па сенях тупу-тупу!
Вары, жонка, крупу-крупу!

Кукса (угледзіушы Драука). Чаго гэта, суседзе, вы так уеьцешыліся?

Драуко. А вы якое ліхо падымаеце, што ажно танцуеце?

Кукса. Ці-ж я танцавау? Я-ж толькі зямлю утоптывау,—бачыце ось нейкі чорт падлубау. Пэуне дзеці у бабкі гуляли.

Драуко. А мне здалося, што вы танцуеце; паддам, думаю сабе, суседу ахвоты.

Кукса. Ды ці нам-жа аб танцах? аб збавенні душы хіба думаць.

Драуко. Ці ні на вячэрню зьбіраліся?

Кукса. Але-ж!

Драуко. У якую цэркву?

Кукса. Да Спаса. Казау і каня запрагаць...

Драуко. А я іду да Прачыстае. Ох, грахі, грахі мае цяжкія!

Кукса. То-ж і есьць, што грахі. Здаецца і жывем па Божаму, і у цэркву ходзім, і посьцім, як трэба... Ці і вы у панядзелак?

Драуко. А як-жа, ужо трэці год!

Кукса. А я шосты... А для таго пад старасьць так і чуеш, колькі за плячыма грэху набралося. Як посьле добрае зімы вады у ставе.

Драуко. Але-ж, так і чуеш, як цябе гне да зямлі,—як добры лантух з вуглем.

Кукса. От, часам, казюльку маленькую наступіш нагою ды раздушыш ні сумысьле,—а і гэта грэх (дае панюхаць). І гэтае зелле, кажуць, грэх ужываць...

Драуко (нюхае). Няужо-ж. Я чуу ад аднаго дзяка, што, кажэ, на том сьвеце нічыстая сіла, заміж гэтае брыды, будзе табе у ноздры чэмяр запіхаць...

**Кукса.** Мне адзін маскалік разсказывау: ен, значыцца, быу ужо двойчы на Ахвонскай гары,—ды, кажэ, і што... кажэ—грахі нашы... дый годзе!

**Драуко.** Будзьце здаровы, пакуль што!

**Кукса.** Ідзіце здаровы! Можэ вас чым пакрыудзіу сягодня, то выбачайце!

**Драуко.** І мне даруйце!

**Кукса.** Бог даруе! (пацалаваліся ды разышліся па хатах).

## ЗЬЯВА XII-ая.

**Васіль, Антон,** потым **Грыпіна і ГанулЯ.**

**Васіль** (рагочэ, учапіушыся за бокі). Бачыу, бачыу, як нашы гаспадары чуць ні паварьяцелі з радасьці?

**Антон.** Ад чаго-ж гэта?

**Васіль.** Пазьней, пазьней разскажу. От так штука!

**Антон.** Ой, ці ні параніуся ты цешыцца. Аднак, пакуль што, цяпер нам воля (гукае). ГанулЯ! Бардзей сюды! Гукай на Грыпіну!

**Васіль.** Грыпінка, рыбачка мая, ідзі борздзенька!

**ГанулЯ** (выбегшы). Чаго гэта бацька так рана у цэркву пасхау, іщчэ на вячэрню ні званілі?

**Грыпіна** (прыбегла). Чаму гэта сягодня так рана работу кінулі?

**Васіль.** Ох, якія-ж вы, дзеучаты, цікавыя!

**Антон.** Старым Богу маліцца, маладым гуляць. Цяпер нам воля!..

---

**Заслона.**

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ.

Рэчка за млыном. Вербы, лозы. Ноч.

### ЗЬЯВА І-ая.

**Грыпіна**, а трохі шчэкаушы, **Васіль**.

Грыпіна (вышла ды узіраецца). Ледзьве прычакала, каб бацька заснуу. Чаго гэтакі вяселы ен з вячэрні вярнууся, трохі ні скачэ? «Злажы, кажэ, заутра на сябе найлепшую адзежу ды спадзевайся да нас гасьцей». Якіх? пытаю. «Сама пабачыш». Ды доуга ішчэ аб нечым загаварывау, толькі я нічагусенька ні разьбяру. Усе нейкія жарты строіць, аж мне абрыдзеу. Ледзьве-ледзьве лег спаць. Я такі, каб запэуніцца, што сьпіць запрауды, узяла саломку, ды паказытала яго па твары, а ен і вусам ні маргне; храпе... Чаму-ж гэта ні Антопа, ні Ганулі німа, ды Васіль нейдзе прападае? (Села на пяньку ды гукае). Гу-у, Гануля, гу-у! Што-ж гэта, запрауды, ніхто ні йдзе? Аднэй як-бы трохі боязна сядзець. Гу-гу-гу! Ды што-ж гэта, запрауды, Васіля так доуга німа? А мо дзе-небудь прытаіуся ды чакае ад мяне знаку. Дзіуны хлопец. „Як часам, кажэ, ні адазвуся на твой голас, то так і ведай,—гэта значыць, што нехта за намі узіраецца; тады мяукні, як кошка, а я зараз яулюся»... А ну-ну, чы адазвецца? (Мяукае). Мяу-мяу-мяу! (Паслухаушы). Не, нічутно!

Васіль. Мяу-мяу-мяу!

Грыпіна. О, адклікаецца.

Васіль (крадзецца пад рэчку). Я тут, Грыпіна. Іду да цябе, мая ты рыбачка, мая уцеха, мае ты ясно сонейко.

Грыпіна. Запрауды? Мусіць такое ясное, што аж у вачах цямнее. Табе усе толькі абы цалавацца ды галубіцца; а таго ні ведаеш, што заутра, мусіць, нейкае ліхо мяне чэкае. Казала-ж табе я колькі раз,—уцекайма ды зьвенчаймося па ціхіньку. А ты усе: «Баюся, ды баюся»!

Васіль. Заутра нас можэ ні ліхо, а шчасьлівая доля чэкае. Заутра, як той кажэ,—на двое бабка варажыла.

Грыпіна. Што? Што? Як?

Васіль. А так, што я такую машыну падстроіу, што твой бацька с Куксаю з радасьці ледзьве ні падурэлі.

Грыпіна. Якую машыну?

Васіль. А што, цікава? А ты-ж ці раз дакучала, што я палахлівы ды ні дагадлівы; а ну, ніхай хто дагадлівы такую штуку выдумае!

Грыпіна. Так як-жа, кажы бардзей?

Васіль. Рупіць? А я ні скажу!

Грыпіна. Скажы, а я пацалую!

Васіль. Ага! Цяпер ужо і «пацалую». А ты ж усе казала, што я палахлівы ды нідагадлівы.

Грыпіна. Ну, на тое, каб каму галаву адурыць, вялікай адвагі ні трэба.

Васіль. Але, разсказывай. А штука будзе, так штука! (сьмяецца).

Грыпіна. Чаго-ж ты так рагочэш?

Васіль. Як чаго? Гэта ужо мне ведаць. Абы толькі канец такі, як пачатак, тады і ты, пэуне, мая будзеш!

Грыпіна. Чаму так, твая буду?...

Васіль (спалохаушыся). Як? Дык жа-ж ты...

Грыпіна. Бажылася, што пайду. Так што-ж?.. А цяпер вот ні хачу! Ні хачу ды годзе!

Васіль (аж дух яму заняло). Так ты мяне...

Грыпіна. А ну, заплач! Чаму-ж ні плачэш?

Васіль. Так ты вось як? Ешчэ хочэш; каб я заплакау! Ні дажджэш!.. Бадай-жэ цябе!..

Грыпіна. А далей што? Чаго-ж ты замоук?

Васіль. Не, маучаць ні буду. Будзь-жа ты прок... Не, праклінаць цябе я ні хачу. Што с таго праклінання? Ну, любіла, пакуль любілося. Бывай здарова, Грыпіна! Толькі-ж ты мяне бачыла!

Грыпіна (хапае за руку). Куды-ж ты?

Васіль. Ні бойся, ні кінуся у рэчку, ды на галіне ні павешуся! А табе можэ таго хацелося? Ідзі-ж ад мяне, здрадніца! (шыбка пашоу).

Грыпіна. Васіль, Васілек! Пачакай-жа, вярніся! Яшчэ можэ і запрауды у рэчку кінецца, або на галіне павісьне. (Даганяе).

## ЗЬЯВА ІІ-ая.

Драуко (выбегае с калом). Чуу я, чуу! сваімі вушамі, што яны тут вось гаманілі. На тое, што гэта Антон з маею Грыпінаю, я гатоу жменю жарствы глынуць... Ну, каб то-ж мне іх злавіць... (пашоу).

## ЗЬЯВА ІІІ-ая.

Антон (здалек пяючы, посьле перастае). Што гэта значыцца, што Ганулі дагэтуль німа? Ужо ні рана ды агні пагасілі, а яе німа ды

німа. (Выняу дудку ды грае жаласьліва). Нешта і дудка мая храпе. Сусім голасу німа. Ну, ніхай-жа яна толькі сягоння ні выйдзе! Забью. Даль-Бог забью! Так задам, як ішчэ ей ні сьнілося. Я ні пагляджу на цябе, што ты багатырская дачка. Пачакай ішчэ над бедным зьдзекі строіць. Хоць бедны, а задасьць табе такога чосу... Ведае-ж, шэльма, што люблю яе, як душу. Знае, што прападау, прападаю за ею, як... А мо ішчэ стары ні сьпіць? Што гэта такое, якая прычына, ні разьбяру... (Грае вяселую). Нібы то нешта варушыцца. (Узіраецца). Яна, даль-Бог яна! (Прысеу за кустам).

## ЗЬЯВА IV.

**Антон** і **Гануля**.

Антон. Дзе-ж ты прападала? Я так дауно цябе чакаю.

Гануля. Калі-ж бацька да гэтай пары ні сьпіць. Ты вельмі злавау, што я так доуга забавілася?

Антон. Цяпер усе адышло.

Галуля (сьмяецца). А вельмі-ж кіпело?

Антон. Як у пекле...

## ЗЬЯВА V.

Яны-ж ды **Грыпіна** з **Васілем**.

Грыпіна (Падкраушыся да іх). А-псік!

Гануля. А Божухна!

Антон. Гэта Грыпіна дурэе.

Грыпіна (Цягне Васіля за руку). Людзі добрыя, гляньце адно на гэтае пудзіло. (Рагочэ) Ці вы яго такога бачылі калі?

Антон. Што с табой, Васіль, робіцца?

Грыпіна. Гэта яны, бачыце, гневаюцца за тое, што я з імі пажартавала... Ды ужо засьмеяуся. (Песьціць яго). Засьмеяуся, кажу.

Васіль. А што-ж с таго будзе? (Усьміхаецца).

Грыпіна. Такі па-моему вышло.

Васіль. Цешся!

Антон з Гануляй. Як-жа гэта у вас было?

Васіль. Эг, ведама—авечка кручаная...

Грыпіна (Рагочэ). А такі па-моему вышло, такі разсказау мне усе чыста.

Васіль. Будзе некалі і на маей вуліцы сьвято.

Грыпіна. Ягчэ пачакаеш. (Чутно шэлест).

Антон. Ціха! (Узіраецца). Стойце! нешта крадзецца каля рэчкі.

Гануля. А доля-ж мая, доля!.. Можэ бацька?!

Грыпіна. А я ні баюся, ніхай сабе і бацька.

Антон. Уцекайце, дзеучата, у кусты! А ты, Васіль, сюды. (Дзеучата хаваюцца). Калі гэта мой, або твой гаспадар, то трэба яму бокі памяць.

Васіль. Не, уцекаймо лепш і мы!

Антон. Дурны! Чаго ты баішся? Насуньма шапкі на вочы, то ні пазнае, ды задамо добра... Прыляж! (Воддалек прыляглі).

## ЗЬЯВА VI-ая.

### Яны-ж і Нічыпар.

Нічыпар (прыгледаецца). Куды-ж гэта я забрауся? Ці ні мара гэта мяне водзіць? Такі я бачу, што нешта усе мне дарогу перабегае, нібы-то кот, або заяц... І куды тая дарога дзелася? (Узіраецца). Ніхай-бы пьяны напіуся, а то усяго дзьве чаркі с кумам Пятром, ледзьве стало сонейко заходзіць... Нейкая рэчка блізка, ці што?.. Дзядзькіна жонка казала мне некалі, што як заблуджуся, то перавярні бардзей сарочку кауняром назад. То зараз выведзе на дарогу.

Антон. Гэта нешта ні з нашых.

Васіль. Нешта с чужога боку.

Нічыпар. Ні многа-ж і выпіу... Адно дзьве чаркі сербануу, глузды так забіло, што нічога ні разьбяру. Ужо-ж мусіць і поунач блізка, а я усе блукаюся. Ось, нешта пакацілося куртатае ды чорнае...

Антон з Васілем (запыняюць яму дарогу). А хто тут?

Нічыпар. Браткі, галубочкі, ні чапайце мяне, даль-Бог я ні злодзей!

Антон. Хто ты такі? Прызнавайся зараз!

Нічыпар. А хто-ж яго ведае?—я сам цяпер ні ведаю, хто я?

Антон. А скуль-жэ ты?

Нічыпар. Скуль я? Але-ж,—скуль я—з Ясюкавіч.

Васіль. З якіх Ясюкавіч?

Нічыпар. З якіх Ясюкавіч? З нашых, з гэтых самых Ясюкавіч.

Антон. Гэта с тых, што каля Равуцкаго?

Нічыпар. Ну, але, с тых.

Антон. Чаго-ж гэта цябе ажно сюды, за пятнадцаць верст, занясло?

Нічыпар. Бачыце? пятнадцаць верст! От, мара праклятая, куды занесла!

Васіль. Якая мара? Ды ці пры сваем ты розуме?

Нічыпар. Мара. Такое чорненькае, так перад табою і коціцца.

Антон. А ты ні зварьяцеу часам?

Нічыпар. На гэта я пэунасьці ні маю. Выпіу, бачыце, с кумам Пятром дзьве чаркі ды пашоу, ледзьве ішчэ сонейко стало заходзіць...

Антон з Васілем. Гэта мы ужо чулі. А далей што?

Нічыпар. Ну—але. Значыць, выпіу я дзьве чаркі с кумам Пятром... Ды быу ішчэ у карчме той, што два годы таму... ось, як яго... Ну! што у Сьцепана, Семкава заця... хата яго каля самае грэблі...

Антон Ды ці ні канакрад ты часам, што гэтак блутаеш?

Васіль. Бог ведае, што ты, Антон, гаворыш. Паузірайся-ж на яго: ці ен да канакрада падобен?

Антон. Ен так. Запрауды можэ варьят.

Нічыпар. Гэткае самое здарэнне мне было летась на Вялікдзень... Так сама выпіу я дзьве чаркі с кумам Пятром...

Васіль. А ведаеш што, Антон? Гэта-ж як раз будзе такі чалавек, як я табе казау, які нам патрэбен. Ні ен нікога тут ні знае, ні яго ніхто.

Антон. А ты што думау? Прауда! От, будзе камэдыя, так камэдыя!

Нічыпар. Мо вам трэба на што ліхое, то шукайце сабе другога.

Васіль. Ды не! Мы ні такія людзі, каб вас на ліхое падмауляць.

Антон. Дзеучата! Хадзеце сюды, годзе вам хавацца.

Гануля і Грыпіна (прышлі). Хто гэта?

Васіль. Ні узірайцеся, посьля пазнаеце! Чалавек с чужога боку.

Нічыпар (да дзеучат). Як гэта вышоу такі нейкі інтэрас, то і ні разьбяру?.. Вось дзіво! Ніхай-бы, скажам, пьяні быу, ці што такое, а то уважайце адно: выпіу усяго дзьве чаркі с кумам Пятром,—толькі ішчэ сонейко заходзіло...

Антон. Хадзем адгэтуль, бо тут ні безпэчна—ды там ужо аб усім паталкуем.

Нічыпар. Гісторыя ды годзе... Ну, хай-бы пьяны быу...

Гануля (да Антона). Да вы нам толкам кажыце, што гэта вы задумалі?

Антон. Ніхай цябе парупіць!.. Хадзем тымчасам!

Нічыпар. Кажу-ж вам толкам: выпіу я с кумам Пятром... (Антон, Нічыпар ды Гануля пашлі).

## ЗЬЯВА VII-я.

**Грыпіна** ды **Васіль.**

Васіль. От, ты усе казала, што я баязьлівы ды благі, а ты бачыш,—от, ужо работа у нас кіпіць.

Грыпіна. Цаца, цаца! Давай, я цябе па галоуцы пагладжу!

Васіль. Цюцьку пагладзь, а я чалавек!

Грыпіна. А ты-ж мой цюцька! (Рагочэ; пашлі).

## ЗЬЯВА VIII-ая.

Драуко (ідзе сагнуушыся с калом). Каб мне малатка у руцэ ні утрымаць, каб мне пяткі да касы ні прыварыць, каб мне крэсіва ні загартаваць,—калі я ізноу ні бачыу сваімі вачымі от гэтаго Антона є суседавай Гануляй. Таго самаго Антона, што аб ім Кукса кажэ, нібы то ен бабскаго роду цярпець ні можэ. Добра ні церпіць! За тое-ж насьмяюся я с суседа! Ведама бо, што гэта ні Васіль; Васіль пашоу да брата, яшчэ з вечара папрасіуся. Каб тож-ж мне іх злавіць,—узяу-бы Антона за чупрыну, Ганулю за касу ды прывеу-бы да суседа, ніхай цешыцца. Ціха, нехта ідзе... (Прысеу).

## ЗЬЯВА IX-ая.

### Кукса і Драуко.

Кукса. (Ідучы напевае). «Ой, ні шумі луг ды дуброва»... Ні сьпіцца нешта. Каб то-ж скарэй развіднелося! Ніяк ні прычэкаю таго ранка. Як-бы так, што ноч на небі затамавало, трымае яе на мейсцы, як ваду за застаукамі. Антон у млыне зачыніуся,—гукау, гукау, стукау,—ні хочэ адчыняць. Трэба тыкеля даведацца да майго гаршчэчка, ці ні хапіу Антон грошай...

Драуко. (Кідаецца на яго с калом). Ага! папауся!

Кукса. Стой! Хто гэта?

Драуко. Гэта вы, суседзе?

Кукса. А якога-ж чорта вам іщчэ трэба? Бадай вас, ледзьве мяне калом ні угрэу.

Драуко. Я-ж адно жартавау. Хацеу вас налалохаць.

Кукса. Добрыя-б былі жарты, каб пацягнуу цераз плечы.

Драуко. Чаго гэта вам цягацца каля рэчкі?

Кукса. А вам чаго?

Драуко. От, так сабе... Прысьнілося, бачыце мне, нібыто нехта крадзецца да кузьні,—я гэта прачнууся, ды бардзей на двор. Ну, а далей, падумау сабе,—калі ужо устау, то трэба абыйсьці кругом двара дзеля усякаго прыпадку...

Кукса. А кол-жа дзе зачапілі?

Драуко. Па дарозі... так адно дзеля усякаго прыпадку.

Кукса. Відаць, у вас шмат грошай захована, цераз тое і сьніцца ніведама што.

Драуко. Іскры цы жарству вам у вочы! Скуль у меня грошы? От у вас хіба, ажно скрыні ад грошай трэшчаць.

Кукса. А бадай вас... Пяць дачок маючы, чорта лысаго захаваеш...

Драуко. Так у вас-жа адно пяць, а у мяне сем.

Кукса. Але-ж і пяць, кажу...

Драуко. У вас-жа скора паменьшае.

Кукса. (У бок). Скуль гэта ен даведауся аб сватох?

Драуко. Такі ваш Антон запрауды бабскаго роду цярпець ні можэ?

Кукса. А што? я вам казау...

Драуко. Бачу, бачу! (Рагочэ).

Кукса. Чаго-ж гэта вы рагочэце? (Драуко рагочэ). Ось я вас аблаю проці нядзелі. Баязнь Божу паказваеце, а лезеце у калатню.

Драуко. Гэта я так жартую. (Памаучалі).

Кукса. Вельмі хараша у вячерні дзякі пелі.

Драуко. У Прачыстае пякней пяюць. Там адзін басісты, калі зараве, то так здаецца ажно у галаве табе раве ды валасы дыбам становяцца...

Кукса. Ведама, народ на усе выхітрованы.

Драуко. Ці ні хочэце панюхаць? (Памаучау). Заутра, кажуць, вяселле у некаго будзе.

Кукса (у бок). Ось ізноу! Ад каго гэта яму даведацца?..

Драуко. Чуу я, што і вас клікаць муць.

Кукса (у бок). Ніяк ні разьбяру. (Да яго). Да каго клікаць муць? Ці вы са сну, ці як гаворыце? Я чуу, што нібы-то вас клікаць муць, —ні мяне.

Драуко (у бок). Што гэта ен таучэ? Ад каго-ж яму ведаць?

Кукса (у бок). Ці ні пісар яму шапнуу?

Драуко. Ну, калі вы ужо аб тым даведаліся, то просімо, будзьце ласкавы.

Кукса. Вас, ні мяне. Да ховай Божэ! Ведама па-суседзку, паклічэмо і вас.

Драуко. Як-жа гэта вы?..

Кукса. На зьдзекі.

Драуко. Каторы з нас сьпіць?

Кукса Ні ведаю.

Драуко. Каторы з нас здурэу?

Кукса. Ні ведаю.

Драуко. Цьфу!

Кукса. А вам двойчы: цьфу, цьфу!

Драуко. От лепш папросімо адзін аднаго да сябе ды ляжэм спаць, а заутра відней будзе, што у каго. (За Куксаю Васіль чхае). На здароуечко!

Кукса. Дзякуй! толькі-ж гэта ні я чхнуу, бо я ішчэ ні панюхау, то с чаго-ж мне чхаць?

Драуко. Ці прауда-ж? А мне здалося...

Кукса. Такі зауседы вам нешта здаецца. Так, кажэце, да заутра? (За Драукам нехта чхае). На здароуечко!

Драуко. Ой, што гэта?

Кукса. Што?

Драуко. У мяне за плячыма нешта так чхнуло, што ажно семсот сьвечак у вачах паказалося...

Кукса. Бачыце, я-ж вам казау ні раз, што гэта мейсцо ні пэунае.

Драуко. Хто вам казау? (Чутно нешта сьвішчэ, рохкае па-сьвіначаму, брэшэ, гамоніць).

Кукса. О! О! Чуеце? (Абодва о перэпалохам уцекаюць). Уцекаймо! Куды? Туды!

## ЗЬЯВА Х-ая.

Выбегаюць: **Антон, Васіль, Гануля** і **Грыпіна**.

Пяюць:

От, так мы іх спалохалі,
Што абодва пауцекалі;
Ні вернуцца ужо сюды,
Цяпер збылісь мы бяды!

---

**Заслона.**

## ДЗЕЯ ТРЭЦЦЯЯ.

Усе гэтак сама, як у першай дзеі. Дзень.

---

### ЗЬЯВА I.

**Драуко.**

Драуко. (Адзін. Стаіць на плоце ды узіраецца на гору, на трахт). Што гэта мае быць, што да гэтае пары маладога німа? Ужо і людзі пачалі зьбірацца на вяселле, а яго німа, ды німа. Ось пешта курыць!.. Тройка, ці пара коней. Здаецца тройка... Але, тройка!. Ды коні нічога... Ага, сьпешаецца. Ворчыковыя у скочку ідуць. Добрыя каненяты. А ен, здаецца, у сівой сьвітцэ. Ці то можэ сурдут такі? А толькі, што у сінім. Не, здаецца, у чорнай бурцы. Пэуне бурку накінуу, каб ні запыліцца... О, ужо блізенька...

### ЗЬЯВА II.

**Кукса і Драуко.**

Кукса. (Выйшоу з двара ды, ні бачучы Драука, улазіць на плот). Бяда цый годзе! Гасьцей поуна на двары ды у хаці,—а маладога да гэтае пары ні відно, німа ды німа. І хто іх, гэтых гасьцей, наскілікау? І сваты, і кумы мае, і кумы братнія, і кумавы сваякі. Гэтулькі набілося, што і ні пералічыш. І пытаць брыдка, ад каго даведаліся... (Узіраецца на гору).

Драуко. Вось дзіво! Гэта-ж і ні коні, а нехтя нібы-то целя гоне...

Кукса. (Узіраецца). Нехта сьвінню гоне, мусіць на торг. (Угледзіушы Драука). Чаго-ж гэта вас аж на плот выперло, як на дзіво?

Драуко. А вы чаго там целепаецеся, як тое пудзіло?

Кукса. А... гэта дзеці казалі, нібы-то недзе гарыць.

Драуко. Узьлезьце тыкеле на хату, мо' відней будзе.

Кукса. А калі-б і на комін узлез, то вам што за клопат?

Драуко. Узлезьце, узлезьце ды ішчэ бражджотку у рукі вазьміце... Склікайце людзей на гвалт.

Кукса. А вы вазьміце веху ды махайце!

Драуко. Ні лезьце у вочы, як тая аса!

Кукса. Дык мяне-ж ні чапайце!

Драуко. Які чорт вас чапау?

Кукса. Ось той, што гаворыць!

Драуко. Вы б хоць лысіну накрылі,—бліпчыць на сонцы, як бляха у соцкаго..

Кукса. Хоць-бы калтуны свае расчэсалі, а то верабьі падумаюць, што кудзеля, ды на гнязда абсмыкаюць.

Васіль. (З двара). Гаспадар! Некі чужы чалавек да вас ідзе.

Драуко. (Саскочыушы с плоту). Ці прауда-ж? Дзякуй табе, Божа! Як-жа гэта я яго пераглядзіу? (Пабег на свой двор).

## ЗЬЯВА III-ая.

**Антон і Кукса.**

Антон (выбег з двара). Гаспадар! Некі чалавек, ці хлопец заехау на кватэру да Гіршы, скінуу сваю адзежу, надзеу неку старую, папытауся, дзе ваша хата, ды ідзе ужо сюды.

Кукса. Ці прауда-ж? Ты яго бачыу?

Антон. Няужо-ж не! Сваімі вачыма бачыу. Іду я гэта з мястэчка праз заездны дом, бачу—што за дзіво? Некі чалавек распрануу пекную адзежу ды надзевае старую. Я давай цікавацъ,—чую: пытае, «Дзе Куксава хата?».

Кукса. Дзякую-ж табе, што дау знаць, Антон. Палюбіу я цябе, Антось, даль-Бог, палюбіу! Пабудзь у мяне ішчэ гадоу са два, або са тры,—і грошэй заслужыш ні мала, а, тым часам, можэ і твае сэрцо да дзеучат паверне, то пасватаешся да маей Тацяны. Тым часам і яна падрасьце, у людзі выйдзе.

Антон. Калі гэтак, то ужо лепш Ганулю за мне аддайце.

Кукса. Ганулю? Аддау-бы-б і Ганулю, калі-ж... (Азірнуушыся, паціху). Гэта-ж гэты у сваты да Ганулі прыехау.

Антон. У сваты? Ну, калі адно выдасьце за яго Ганулю, то скажыце—будзь здароу і Антону, і млыну свайму, і гаспадарцы.

Кукса. Што? Як?

Антон. А так, што спалю!

Кукса (у бок). От як! (да яго). Так ты гэтак бабау цярпець ні можэш?!

Антон. Ні цярпеу, ні цярпеу, а ось рантоуне ізноу мяне да бабау павярнуло.

Кукса. Павярнуло? Бог с табою! Ты... Ты... А як-жа-ж ты мяне напалохау! (Шпарка ідзе у двор). От табе і дагледзіу, абадвома вачыма гледзючы. (Пашлі).

## ЗЬЯВА IV-ая.

Нічыпар (вышоушы з-за хаты). Пабачымо тыкеля, што з гэтаго выйдзе. Як давядзецца мне добрым хлопцам у прыгодзі памагчы. Дзякуй ім, і пачаставалі і грошай абецаліся даць аж дзесяць рублеу...

## ЗЬЯВА V-ая.

Драуко (выбегаючы с свайго двара). Будзьце ласкавы! (хапае яго за рукі ды цягне да сябе).

Нічыпар. Чаго гэта вы да мяне прычапіліся?

Драуко. Гэта-ж вы ад Сымона! А я зараз дагадауся.

Нічыпар. Чаго-ж гэта дагадаліся?

Драуко. Будзьце ласкавы зьбірацца.

Нічыпар. А куды-ж мне так сьпяшацца?

Драуко. У маю гасподу.

Нічыпар. У вашу гасподу?

Драуко. Ужо, як трэба, усе гатова.

Нічыпар. Я ні кончу дзела ад аднаго слова.

Драуко. Я ужо с папом згадзіуся.

Нічыпар. То ягомасьць пасьпяшыуся.

Драуко. Адно толькі слово ды марш да венца. Мы давядзем дзело зразу да канца.

Нічыпар. Пасьпеем, пасьпеем!

Драуко. Перакусілі-б мала-веле.

Нічыпар. Я ужо пад'еу, як на вяселлі.

Драуко. Яшчэ-бы зьелі буракоу, зьелі кашы...

Нічыпар. Ні ем я буракоу, ні ем я кашы.

Драуко. Хадзем, ні баумося!—у цэркву пара.

Нічыпар. Значыцца, паеушы—з Богам са двара?

Драуко. А чаго-ж тут адкладаць?

Нічыпар. Мо-б да заутра пачакаць?.. Пасьпеем.

Драуко. Калі пасьпеем? як пасьпеем?

Нічыпар. А вы хто такі будзеце?

Драуко. Драуко.

Нічыпар. Ці бачыш! Якое дзіунае прозьвішчо.

Драуко. Так ад бацькоу асталося... Ну, хадзем-жа у хату.

Нічыпар. Не, вынесьце сюды добрую чарку гарэлкі, я вып'ю дзеля сьмеласьці.

Драуко. Сюды? Ну, што зробіш! (У бок). От штукар! (Пабег на двор).

Нічыпар. Хаця-б мне ні забыцца, аб чым гэта мы с хлопцамі угаварыліся...

Антон і Васіль (са сваіх двароу) Нічыпар! дзяржыся!

Нічыпар. Яшчэ дзяржуся!

Драуко [выбегае]. Выпівайце ды закусывайце! А я для таго зразу дагадауся, што вы ад Сымонкі.

Нічыпар. Дагадауся?

Драуко. Ну, хадзем-жа у хату, бо ужо ні рана, хоць і да венца.

Нічыпар. Добрая гарэлка, і закуска добрая, дарма, што ні нагалодны зуб [есьць].

Драуко. На здароўечко!

Нічыпар. І кілбаса добрая!

Драуко. А вы яшчэ ні бачылі маей Грыпіны?

Нічыпар. Гм...

Драуко. Такая акуратная дзяучына, як ангельскія абцугі.

Нічыпар. Ці праудa? А ну, давайце іншэ па другой!

Драуко. Пійце ды трэба борздзенька давадзіць дзело.

Нічыпар. Дзіуное здарэнне трапілося мне учора: адно дзьве чарачкі вышіу с кумам Пятром, толькі што сонейко пачало заходзіць... Праудa, я і забыуся, што вам гэтаго ні трэба ведаць...

Драуко. Што? Як?!

Нічыпар. Ні... як. Ось цяпер нібы то падмацавауся. Ну, калі рабіць, так рабіць,—што далей?

Драуко. А што-ж далей?

Нічыпар. Давайце яшчэ і дзеуку сюды!

Драуко. Як сюды?

Нічыпар. Перад мае вочы. Тут мы агледзіны зробім.

Драуко. Гэта-ж людзі сьмеяцца будуць.

Нічыпар. А я у хату ні пайду, пакуль сьмеласьці ні набяруся.

Драуко (у бок). От штукар! Ну, і штукары-ж гэтыя панічы з места! (Пабег у двор).

Нічыпар. Аднак гарэлка здорава у галаву бье.

Антон і Васіль (з двара). Нічыпар! Дзяржыся!

Нічыпар. Яшчэ дзяржуся!

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Нічыпар і Кукса.**

Кукса (вышоушы з-за плоту). Куды-ж гэта ен дзеуся? Бегаю, шукаю, шукаю,—німа. [Зглeдзіушы Нічыпара]. Гэта-ж мусіць ен! От так штукар. [Да яго]. Будзьце ласкавы у хату. Вы ад Сымона?

Нічыпар. Можэ і так! А вы хто такі?

Кукса. Кукса.

Нічыпар. На катору ногу?

Кукса Ды не, гэта бачыце, прозьвішчо, хвамілія мая.

Нічыпар. Ну, то як здаровы?

Кукса. Прашу пакорна!

Нічыпар. Натта праворна.

Кукса. Дауно вас жду.

Нічыпар. У хату ні пайду.

Кукса. Годзе ужо вам дурыць, трэба да венца пасьпяшыць.

Нічыпар. Ніколі ні варта сьпяшыць, каб людзей ні сьмяшыць.

Кукса. Як-жа гэта будзе? У мяне усе гатова. Скажыце-ж, зрабіце ласку, і вы свае слово.

Нічыпар. Легка сказаці—цяжка зрабіці.

Кукса. Я зразу раблю.

Нічыпар. Я так ні люблю.

Кукса. Думаць і вам трэба скарэй.

Нічыпар. Ні будзеш за сябе мудрэй.

Кукса. Годзе ужо вам сьмяшыці, пара з дзелам нам сьпяшыці.

Нічыпар. Даль-Бог у мяне ні да сьмеху!.. Здауся людзям на пацеху...

Кукса. Годзі, годзі, сынку! Скідай стару сьвітку, яна тут ні у прыгодзі; пасьмяшыу, дый годзі!

Нічыпар. Учыню вашу волю, калі так прысталі. Толькі-ж глядзіце, каб ні шкадавалі.

Кукса. Годзі ужо табе дзівы строіць... Кажу табе, што я дауно дагадауся.

Нічыпар. Дагадауся! Толькі мусіць да гары нагамі?

Кукса. Як да гары нагамі?

Нічыпар. Воунаю наверх.

Кукса. Што ты гаворыш?

Нічыпар. «Здароу, кажэ, Ісаю»!—«Да чаек чэкаю».—«А ці жыу, здароу»?—«Чатыры нашоу».—«Што ты, дурню, гаворыш»?—«Так, старое ні зловіш».

Кукса. Што кажэш?

Нічыпар. Куркулю—муркулю. Разьбяры, што я кажу.

Кукса. Ды мой панічык, які-ж с цябе штукар!

Нічыпар (доуга узіраецца на яго). Дзеуку сюды давайце.

Кукса. Як?

Нічыпар. Ні гневаць мяне, а рабіць, як прыказано! Ну, жыва, борздзенька! Дзеуку сюды ды добру чарку гарэлкі!

Кукса. Ото-ж сьмяхун! Пабачымо, што з гэтаго будзе! (Пабег).

Нічыпар. Ось так іх паганяць, як жэрабцоу на лінцы.

Антон і Васіль (з двара). Нічыпар! дзяржыся!

Нічыпар. Ох-ох-ох! Яшчэ дзяржуся!

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Нічыпар, Драуко, Кукса, Грыпіна і Ганула.**

Драуко (цягне Грыпіну). Хочэш, каб за кудлы цябе пацягнуу?

Грыпіна Пушчайце-ж, я і сама пайду (вырываецца ды ідзе да Нічыпара). Вы хацелі на мяне паузірацца? Узірайцеся.

Кукса (цягне Ганулю). Ідзі, ідзі, німа там чаго баяцца!

Гануля (ледзьве стрымвае сьмех). Ох, дык я-ж саромяюся!

Кукса. Дык чаго-ж ты, дурненькая! Яно толькі с пачатку трошкі, як той казау, ні тое ні сее (падае Нічыпару гарэлку ды згледзіу Драука з дачкою). А гэта што такое?

Нічыпар (да Ганулі). Дазвольце па вас паузірацца.

Драуко (да Нічыпара). На вошта гэты лысы чорт прывалок сюды сваю сьлюнявую?

Кукса (Нічыпару). На вошта мой сусед прыпер сюды сваю рабую?

Нічыпар (да дзеучат). Дазвольце мне паузірацца вам у зубы.

Дзеучата. На што-ж гэта?

Драуко. (Грыпіні, сьмяючыся). Развзяві яму губу.

Грыпіна. Ні хочу!

Кукса (да Ганулі). Пакажы ужо яму зубы!

Гануля. Ні пакажу ні за што!

Кукса. Глянь, ось я свае пакажу, што-ж тут за дзіво?!

Драуко. Бачыш, я свае вышчыру. Ніхай глядзіць.

Нічыпар. Як я бачу, то з вамі шмат цэрамоніі.

Драуко (да Грыпіны). Развзявіся, будзь ласкава.

Кукса (да Ганулі). Пакажы, зрабі ласку.

Драуко (да Грыпіны зазлаваушы). Развзявіся, кажу табе!

Кукса (да Ганулі). Пакажы, кажу табе! [Дзеучаты на уцекі. З двара начынаюць гукаць: „Сваце! Калі-ж мы вашаго маладога пабачымо?]

Драуко і Кукса [да сваіх двароу]. Зараз!

Драуко (у бок). Пэуне, што Сымон да абадвух нас аднаго у сваты прыслау.

Кукса (у бок). Пэуне гэты малады заблудзіуся.

Драуко. Потым будзеце узірацца, цяпер канчаймо.

Кукса. Потым будзеце глядзець, хоць кожнаго дня. Толькі давадзіце дзело да канца.

Нічыпар. Я ужо скончыу.

Кукса. Вам можэ здаецца, што сусед мой то гэта я, а я—то гэта мой сусед?

Драуко. Пэуне вы думаеце, што я—то гэта мой сусед, а мой сусед—то гэта я.

Нічыпар. Не, я нічога ні думаю.

Кукса. Ну?

Драуко. Ну?

Нічыпар. Тпру! Ды годзі-ж вам мяне церабіць, як цыган здох-

луюкабылу! Усе роуна я ніяк ні разьбяру, аб чым гэта у нас гутарка была.

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Тыя самыя, Васіль ды Антон.**

Васіль (да Драукі). Гаспадар! поп прыслау, каб барздзей ехаць, бо, кажэ, цэркау зачыне.

Антон (да Куксы). Ужо і музыкі прышлі,—пытаюць, ці зачынаць іграць.

Кукса і Драуко (у бок). От табе і на! Трэба ісьці на прапалую (да Нічыпара). Ну, катору-ж?

Нічыпар. Яно добра-б было абедзьве узяць.

Драуко. Як абедзьве?

Кукса. Хіба-ж можна з двума разам?

Нічыпар. У турак можна хоць с трыма.

Драуко. І я гэта чуу.

Кукса. Там можна.

Нічыпар. А у нас ні можна, бо я ужо жанаты.

Кукса і Драуко. Жанаты?! Як жанаты? Ты хто-ж такі?

Нічыпар. Ніхто.

Кукса і Драуко. А што-ж цяпер?

Нічыпар. А цяпер—дзякуй вам за хлеб за соль ды за ласку. Будзьце здаровы!

Кукса і Драуко. Чэкайце-ж. Як-жа гэта?

Нічыпар. Ну, і доуга-ж у вас торг ідзе! Як вала, або каня купляючы.

Кукса. Выходзіць, што я самахоць сябе абшыу.

Драуко. Выходзіць, што я сам сябе пашыу.

Кукса. Каго-ж цяпер лаяць, каго біць? Дайце мне яго, я яму усе валасы выскубу!

Драуко. Дайце мне яго, я яго разарву!

Кукса. Такі-ж ужо гэтак ні будзе, а ось як! А цяпер я дагауся (да Драукі). Гэта вы можэ сумысьля гэтаку хвізыку пад мяне падвялі, каб мне перад усім народам сораму нарабіць?...

Драуко. А хіба-ж гэта ні вы наклікалі мне повен двор гасьцей? Як я цяпер гляну людзям у вочы?

Кукса. Пачэкайце цешыцца, ні дажджэце! Антон! Кліч зараз сюды Ганулю. (Антон пабег ды хутка вядзе Ганулю). Ого-го! Яшчэ той на сьвет ні нарадзіуся, што з мяне будзе зьдзекі строіць.

Драуко. Так і я ні дам вам плеваць сабе у кашу. (Гукае на свой двор). Грыпіна, цягні сюды Васіля!

Антон і Ганупя. Мы тут!

Кукса. Антон! Я памыліуся. Гэта ен да суседа у сваты прыехау. А я ужо дауно надумауся Ганулю за цябе аддаць,—бяры яе! Ось як у нас!

Гануля (кідаецца да яго). А татачка, а галубок родненькі!

Кукса (да Антона). Я хацеу адно крышку цябе паманежыць. Ну, кланяйся гаспадару у ногі за такую чэсьць.

Драуко (крычыць). Грыпіна! Сюды бардзей!

Кукса (да Антона). Чаго-ж ты стау, як пень?

Антон. А за вошта-ж я вам кляняцца буду?

Кукса. Горды! От за гэта само ты мне да упадобы. І я гэтакі самы горды. Толькі-ж, як закон кажэ, то і я пакланюся.

Антон. Хіба-ж што закон. Закон мушу споуніць. (Бярэ Ганулю за руку). Благаславіце нас, тата, на чэсны шлюб!

Васіль і Грыпіна. Мы тут!

Драуко. Барздзей мне у ногі!

Васіль. Я гатоу! (Кланяецца).

Драуко (да Куксы). Гляньце, суседзе, ось як у нас!

Кукса. Бачу. Вочы у мяне ні вылезлі.

Драуко (дачцэ). А ты?

Грыпіна. Галава ні гнецца.

Драуко. Бач, якое зеляйко! Прауда, я рад, што выпхну цябе з двара, меньш клопату будзе... А усе-ж бацьку пакланіцца трэба, бо гэтак закон наказвае.

Грыпіна. Хіба што закон... (Кланяецца з Васілем).

Кукса. Божэ вас благаславі!

Драуко. Божэ вас благаславі!

Васіль. Цяпер вы на мне хоць усе клешчы пабійце, слова вам у папярок ні скажу.

Драуко. За гэта я цябе палюбіу, што ты такі пакорны. Я ужо трое клешчау на табе пабіу, а ты усе карышся...

Кукса. Суседзе! Цяпер толькі чатыры.

Драуко. А у мяне толькі шэсьць.

Драуко і Кукса (гукаюць). Людзі добрыя, будзьце ласкавы сюды! Вітайце нашых маладых.

Нічыпар. От і дзякуй Богу!

Кукса і Драуко (да яго). То гэта вас Сымон ні прысылау?

Нічыпар. Не!

Кукса і Драуко. Хто-ж вы такі?

Нічыпар. Я-ж кажу—так сабе, ніхто.

Драуко. Чаго-ж ты лезеш у вочы?

Кукса. Шоу-бы ты сабе вон са двара, ды і годзе!

Нічыпар. І пайду!

Кукса А мо іпічэ жаніх прыедзе?

Драуко. Можэ іпічэ жаніха пачакаць можна?

## ЗЬЯВА ІХ-ая.

**Тыя самыя** ды **пісар Скакунец.**

Скакунец. Німа чаго чакаць, ні прыедзе.

Кукса і Драуко. Як?

Скакунец. А так. Бо гэта ж я лісты да вас напісау, от гэтаю рукою.

Кукса і Драуко. Каб вас чэрці пабралі!

Ганyля (да Куксы). Годзі, татачка, ужо гневацца. Мусіць гэтак Бог хацеу.

Грыпіна. Тата, ні падымайце гоману, бо адракуся ад блогаслауленння.

Скакунец. Паслухайце мяне дурнога, то можэ і вам Бог розуму падбавіць... У той час, калі іпічэ людзям прауду казалі у вочы,, ні было ні неба, ні зямлі, а стаяу толькі адзін плецены плот. Я адзін мае дарагія, прауда, тады быу...

Кукса. Гэта вы ужо ізноу нудоту зацягнеце. Я паблогаславіу,— значыцца, слова ужо ні зламаю.

Драуко. А можэ падвядзіце пад нас такую хвізыку, што вочы горлам палезуць. Блогаслауленне дау, значыцца—амэн!

Скакунец. Калі так, то другая рэч: ура! ура! ура!

Драуко. Суседзе, ці ні пагодзіцца нам пры радасьці ды згуляць два вяселлі у адзін кошт?

Кукса [падае руку]. А што-ж? (Цалуюцца). Вы ужо пеучых згодзілі, а я—музыку. (Паціху). Пашыліся у дурні абодва—трэба ужо маучаць.

Драуко. Перамудравалі.

Кукса. Гэй, прыданкі! Адзевайце маладых ды гатуйце іх з Богам да венца. Дружачкі, а ну! гукнеце вясельную! Дайце знаць сьвету Божаму нашу радасьць.

Драуко. Просімо дарагіх гасьцей славіць нашых маладых вясельнаю песьняй.

Хор.

Ой, попе, попе!
Бацька наш,
Адчыняй цэркауку,
Прасі нас;
Зьвенчай дзеткі—
Аднолеткі
У Божы час.

[Кукса з Драуком цешацца ды паказываюць на пальцах адзін аднаму, што ужо ні пяць—а чатыры, ні сем—а шэсьць.

**Заслона.**

---

*КАНЕЦ.*

Напісана 1882 г. у Кіеве па-украінску.

# ЗЬМЕСТ: